ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# САВЕЦКАЯ КРАІНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ЧЭРВЕНЬ

№ 6 (8)

1931

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ



Чэрвень

№ 6 (8)




МЕНСК — 1931




Ф. П. Садоўскі.

# Аб недаацэнцы краязнаўства.

СССР у трэці рашаючы завяршае пабудову фундаманту і прыступае да пабудовы соцыялістычнай экономікі.

Такія вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва сталі мажлівы ў выніку ажыцьцяўленьня генэральнай лініі комуністычнай партыі, забясьпечыўшай нябачны дагэтуль рост і ўздым камандных вышынь і ў першую чаргу соцыялістычнай прамысловасьці, павёўшай за сабою па шляху абагуленьня ўсе астатнія галіны народнае гаспадаркі, і ў першую чаргу сельскую гаспадарку, праз цэлую сыстэму мер сувязі з ёю (коопэраваньне, контрактацыя, капітальны крэдыт, машыназабесьпячэньне і г. д.), да колектывізацыі.

Рост камандных вышынь, а крокам за імі рост і ўздым сельскае гаспадаркі, на аснове масавай і суцэльнай колектывізацыі, быў-бы немысьлімы без мобілізацыі актыўнасьці мас, без ужываньня новых, невядомых сьвету соцыялістычных мэтодаў працы (соцспаборніцтва, ударніцтва, сустрэчнага промфінпляну, скразных і сустрэчных брыгад, грамадзкага буксыру і інш.), якія выклікалі да жыцьця, увялі ў строй барацьбы за соцыялізм, мобілізавалі новыя захаваныя рэсурсы краіны.

Зьмест работы савецкага краязнаўства заключаецца ў тым, каб мобілізаваць шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты, серадняцтва і працоўных саматужнікаў да шырокага і актыўнага ўдзелу іх у соцыялістычным будаўніцтве краіны шляхам усебаковага і дасканалага вывучэньня свайго прадпрыемства, колгасу, раёну, краю. У гэтых менавіта мэтах савецкае краязнаўства ставіць сабе мэтай навучыць гэтыя шырокія працоўныя масы навукова-дасьледчай працы, так неабходнай для дасканалага вывучэньня ўсіх рэсурсаў свайго прадпрыемства, колгасу, раёну, краю, прысьпяшаючых справу соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэты зьмест савецкага краязнаўства адмятае, адцірае далёка ў бок тую „акадэмічнасьць", „утылітарнасьць", „аполітычнасьць" старога краязнаўства, якое, абапіраючыся на ўказаныя „кіты", фактычна абасабляліся ад новага жыцьця, вывучала мінулае, ідэалізавала мінулае і пры ўмелым падыходзе да яго варожых соцыялістычнаму будаўніцтву шкодніцкіх груп і організацый (кандрацьцеўцаў, беларускіх контр-рэволюцыйных нацдэмаў і інш.) выконвала іх соцыяльны заказ, служыла рэстаўратарскім мэтам, накіроўвалася на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва, на адцягваньне ўвагі рабочых і працоўных мас ад соцыялістычнага будаўніцтва і ў лепшым выпадку на ігнараваньне актуальных задач гэтага будаўніцтва, што таксама ў канечным выніку прыводзіла да зрыву соцыялістычнага будаўніцтва.

Апошні год работы савецкага краязнаўства і зьяўляецца годам барацьбы, пропаганды за савецкае краязнаўства, за мобілізацыю рабочых і працоўных мас у савецкае краязнаўства, за перабудову работы краязнаўчых організацый на новым ґрунце, на новых асновах.

Асноўная задача краязнаўчай работы ў апошні год — гэта організацыйная перабудова краязнаўства, барацьба за рабочыя, колгасныя, батрацкія, бядняцкія і серадняцкія масы ў краязнаўстве, побач з ачышчэньнем яго радоў ад усяго ня нашага, варожага, буржуазнага.

Цэнтральнае бюро краязнаўства БССР да гэтага часу ўсю сваю ўвагу накіравала на організацыйную перабудову работы раённых краязнаўчых організацый, бяручы курс на організацыю краязнаўчых ячэек па вытворчаму прынцыпу — пры колгасах, саўгасах, школах, на прамысловых прадпрыемствах гораду і вёскі, пры тэхнікуме, ВНУ і інш. У сваіх дырэктывах на месцы і ў сваім пляне працы ЦБК БССР намеціла конкрэтны замест працы ня толькі свае, але і раённых бюро, ячэек на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, школах, тэхнікумах і г. д.

Заставалася-б, здаецца, вельмі нямнога — па-бальшавіцку, паўдарнаму ўзяцца за справу, за яе перабудову, за разгортваньне краязнаўства на карысьць соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Цэнтральным установам і організацыям пакончыць з недаацэнкай гэтага вучастку працы і ўключыць яе ў агульны комплекс мер і шляхоў, накіраваных на хутчэйшую пабудову соцыялізму. Раённым установам і організацыям забясьпечыць хутчэйшую перабудову работы, выдзеліўшы адказных асоб за гэтую справу.

Між тым да гэтага часу, ня гледзячы на рад пэўных конкрэтных дырэктыў партыі (адозвы ЦК УсеКП(б) і ліста ЦК КП(б)Б), цэнтральныя ўстановы і організацыі яшчэ да сёнешняга дня не пакончылі з недаацэнкай і ігнораваньнем гэтага важнейшага вучастку працы. Да прыкладу сказаць, Наркамасьветы БССР, які ў першую чаргу павінен зацікавіцца гэтай працай, да гэтага часу ня даў пэўных дырэктыў аб краязнаўчай працы ўстаноў Наркамасьветы ў горадзе і вёсцы. Цэнтральны Савет Профэсіянальных Саюзаў БССР, а крокам за ім і Горпрофсаветы буйнейшых гарадоў ня ўключылі краязнаўчай працы ў кола сваіх абавязкаў і кіраўніцтва, і таму разгортваньня краязнаўчай працы на прамысловых прадпрыемствах амаль няма да гэтага часу. Цікава, што намячаныя для правядзеньня ў горадзе Менску краязнаўчыя курсы для рабочых менскіх прадпрыемстваў, па нядбайнасьці спачатку ЦСПСБ, а затым Менскага Гарпрофсавету, беззваротна праваліліся. Патугі ЦБК БССР уклініць краязнаўства ў програму розных курсаў перападрыхтоўкі часьцей за ўсё посьпехаў ня маюць, часамі толькі на такіх курсах (курсы раённых інспэктароў асьветы) абмяжоўваюцца краязнаўчым дакладам, што ня можа даць курсантам патрэбных даных для разгортваньня на месцох краязнаўчай працы. У раёнах партыйныя організацыі ня ўключылі краязнаўства ў об'ект сваёй увагі, г. зн., што ў большасьці сваёй гаркомы і райкомы КП(б)Б недаацэньваюць краязнаўства, як аднаго з сродкаў мобілізацыі мас на соцыялістычнае будаўніцтва праз вывучэньне свайго раёну. Раённыя краязнаўчыя організацыі не ўвязалі яшчэ сваёй працы з раённымі гаспадарчымі і плянуючымі ўстановамі і організацыямі. Апошнія-ж ня ставяць перад краязнаўчымі організацыямі для вывучэньня актуальных проблем гаспадарчага разьвіцьця раёну, напрыклад, у сувязі з работай па спэцыялізацыі гаспадаркі раёну, прадстаячага экономічнага раёнаваньня, складаньня генэральнага пляну і г. д., і г. д. Прадпрыемствы, колгасы,

саўгасы, МТС таксама ня высоўваюць падляжачыя вывучэньню тэмы перад краязнаўчымі організацыямі.

Зразумела, што такое зьявішча не дае мажлівасьці перабудаваць краязнаўчую работу на належных асновах, у выніку чаго ў радзе месц мы маем поўны развал краязнаўства, неналаджанасьць, адсутнасьць краязнаўчай работы, у другіх-жа мясцох вельмі павольныя, неадпавядаючыя патрэбам социялістычнага будаўніцтва тэмпы перабудовы работы. Менавіта, у выніку недаацэнкі работы мы маем тое, што ў радзе месц зусім няма каму займацца перабудовай краязнаўчай работы, бо старыя краязнаўцы аддаліліся ад краязнаўства, а новыя не навербаваны. Верачы контр-рэволюцыйным, шкодніцкім чуткам, што краязнаўства і беларускі нацыянал-дэмократызм адно і тое-ж самае, група краязнаўцаў, якая раней актыўна працавала, адыйшла, адмахнулася ад краязнаўства і ў радзе раёнаў, дзе раённыя організацыі яшчэ не павярнуліся тварам да краязнаўства, зусім адсутнічаюць краязнаўчыя організацыі (Барысаў, Нова-Барысаў, Ветка, Ворша, Віцебск і шмат іншых).

Толькі недаацэнкай можна вытлумачыць, напрыклад, тое, што ў Віцебску, Гомлі ды ў іншых мясцох зусім адсутнічае краязнаўчая праца. Вось што піша Гомельскае раённае бюро краязнаўства на запытаньне ЦБК аб становішчы працы:

> „Па сутнасьці, адкрыта кажучы, Т-ва (краязнаўчага — заўвага аўтара) ня існуе, сяброў няма і ніякай працы не вядзецца... Два разы прызначалася пашыранае паседжаньне праўленьня па пытаньнях аб краязнаўчай пяцідзёнцы з удзелам прадстаўнікоў Гаркому КП(б)Б, комсамолу, Гарпрофсавету і гар'інспэктуры Нарасьветы, але абодва разы ніхто не зьявіўся... На гэтым праца і спынілася... Старшыня Т-ва тав. Калясьнёў, выдзелены Гаркомам КП(б)Б, ніякай працы не вядзе, аб чым Гарком добра ведае, але ўзамен яго нікога не вылучае... У мясцовай газэце „Палеская Праўда" № 35 ад 10/II-31 г. была зьмешчана заметка „Больш увагі краязнаўству", але яна ніякіх вынікаў не дала... гар'інспэктура Нарасьветы ніякага ўдзелу ў працы таварыства ня прымае (сябра праўленьня т. Юркевіч на пасяджэньні праўленьня ніколі ня быў)..."

Вось бязрадаснае паведамленьне аб стане краязнаўчай работы аднаго з буйнейшых цэнтраў БССР, дзе непачаты край об'ектаў для краязнаўчай работы. Горш за ўсё, што гэткае паведамленьне характэрна і для іншых буйных гарадоў і раёнаў. Прыкладна таксама аб поўнай адсутнасьці і развале краязнаўчай працы піша і Віцебскі музэй, адсутнічае краязнаўчая праца ў Полацку, Леплі, Дрысе, Крупках, Горках, а таксама ў самым Менску пад носам самога Цэнтральнага бюро краязнаўства.

Вось што піша Віцебскі музэй па гэтаму-ж пытаньню:

> ...„У г. Віцебску краязнаўчая організацыя ні юрыдычна, ні фактычна ня існуе і ніякай плянавай краязнаўчай работы не вядзецца. Прымалася шэраг мер па аднаўленьню організацыі, але вынікаў ніякіх няма. Грамадзкасьць зусім ня ідзе насустрэчу, і ўсе нашы мерапрыемствы правальваюцца...
>
> ...Музэй узяў на сябе абавязак быць ініцыятарам у аднаўленьні краязнаўчай організацыі. Але музэй мае патрэбу ў вашай дапамозе."

І гэта піша Віцебск, дзе калісь-та „грымела“ краязнаўчая праца, не савецкага, а нацдэмаўскага краязнаўства, выконваўшага социяльны заказ інтэрвэнтаў.

Да слова сказаць, каб Віцебскі музэй сачыў за краязнаўчай літаратурай, яму зусім было-б яскрава, што рабіць.

Зусім дрэнным і ненормальным зьявішчам, якое сугуба сьведчыць аб развале краязнаўчай працы ў радзе раёнаў, зьяўляецца тое, што рад раёнаў зусім не падае прызнакаў свайго жыцьця. На неаднаразовыя запросы ЦБК Койданаўскае, Смалявіцкае, Крычаўскае, Дубровенскае і Аршанскае раённыя бюро краязнаўства па пытаньню ці змогуць яны ўступіць у соцспаборніцтва з Бугурусланскім раённым бюро, прадпачытаюць зусім не даваць адказу, прадпачытаюць маўчаць; мабыць, мэтоды соцспаборніцтва ў краязнаўчай працы, па іх разважаньню, іх не датычацца. Ці-ж гэта не на 100 проц. праява самага махровага опортунізму на практыцы? Бясспрэчна так.

Па азнаямленьні з усім прыведзеным нявольна напрашваецца думка аб тым, што, мажліва, шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, вучнёўскай моладзі і студэнцтва ня цікавяцца краязнаўчай працай, мажліва, сучасны этап социялістычнага будаўніцтва не прад'яўляе краязнаўству пэўных заказаў, запатрабаваньняў, ня ставіць перад краязнаўствам актуальных проблем. Такая думка, калі-б яна ў каго-небудзь узьнікла, была-б беспадстаўнай і няправільнай. Сучасны этап социялістычнага будаўніцтва прад'яўляе шмат запатрабаваньняў, ставіць шмат проблем перад краязнаўчымі організацыямі, якія патрэбна вырашыць зараз-жа і ў вывучэньні і вырашэньні якіх патрэбен удзел шырокіх рабочых і працоўных мас.

Калі ўважліва праглядзець матар'ялы, зьмяшчаныя ў краязнаўчай літаратуры і ў апошніх нумарох часопісу „Савецкая Краіна“, то гэтыя проблемы і заданьні акрэсьлены там больш-менш поўна і яскрава. Таму ў гэтым артыкуле непатрэбна паўтараць і пералічаць гэтых проблем.

Думка аб адсутнасьці зацікаўленасьці да краязнаўчай працы таксама будзе няверна. Наадварот, маючыяся матар'ялы сьведчаць аб агромнай зацікаўленасьці месц да краязнаўчай працы.

Так, вучні Бобрскай ШКМ Крупскага раёну ў сваіх лістох да ЦБК просяць аб непасрэднай сувязі і кіраўніцтве, просяць заданьняў для працы, прычым яны хочуць „застанавіць такую цесную і моцную сувязь, якая-б ніколі не парвалася“. Другі таварыш з в. Бохань Журавіцкага раёну, Хаўкін Саламон, просіць у сваім лісьце да ЦБК „напрамку ў зборы розных матар'ялаў“, праўда, фольклёрнага характару, бо да гэтага часу ён так разумее зьмест краязнаўчай працы. Ячэйка краязнаўства, організаваная пры Бабчынскім пэдагогічным тэхнікуме Хойніцкага р. просіць „выслаць ёй усе патрэбныя матар'ялы і даць кірунак у працы“. Нехта Піскун М. С. з в. Раўнапольле Сьмілавіцкага раёну піша: „Прашу даваць мне розныя заданьні, бо ў вас работа ёсьць... Я хачу быць цесна зьвязан з вамі...“ Гурток краязнаўства ФЗС просіць „Менскае бюро краязнаўства выслаць нам належнае кіраўніцтва, па якому мы змаглі-б наладзіць працу, а то праца да гэтага часу амаль не вялася“. Студэнты Слуцкага пэдтэхнікуму просяць выслаць „схэмы, па якіх можна вывучыць і апісаць колгас“.

Падобныя прозьбы ад груп вучняў і ад асобных з іх ЦБК атрымала ад Дукорскай, Даўжанскай, Чачэрскай і іншых сямігодак, ад раду ўдарнікаў па краязнаўчай працы (Балабуткін Сіроцінскага раёну

і іншыя), і ўсе ў адзін голас просяць аб сувязі, кіраўніцтве, дачы напрамку ў працы, вызначэньні тэм і інш.

Усё гэта сьведчыць, што зацікаўленасьць краязнаўчай працай на мясцох агромная, але няма організаванасьці яе і кіраўніцтва ёю з боку раённых быро краязнаўства, якіх у цэлым радзе раёнаў зусім яшчэ няма. Гэтая адсутнасьць кіраўніцтва работай нізавых ячэек з боку ўжо існуючых райбюро краязнаўства і адсутнасьць іх у радзе раёнаў прымушае ячэйкі краязнаўства прасіць аб сувязі і кіраўніцтве Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук.

Такое становішча надалей нецярпіма. З недаацэнкай краязнаўчай працы трэба пакончыць раз назаўсёды. Трэба мобілізаваць увагу кіруючых устаноў і організацый (ЦСПСБ, Наркамасьветы, гарпрофсаветы, райпрофсаветы, РВК, райпляны і інш.) да краязнаўчай працы. Трэба рашуча яе перабудаваць і разгарнуць.

Для практычнага разгортваньня краязнаўчай працы ў БССР неабходна ўжыць наступныя мерапрыемствы:

1. Безадкладна выканаць дырэктывы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб перабудове і разгортваньні краязнаўчае працы.

2. Райкомы КП(б)Б павінны (там, дзе гэта не праведзена) правесьці краязнаўчую пяцідзёнку, згодна дырэктывы ЦК КП(б)Б, організаваць ва ўсіх раёнах раённыя бюро краязнаўства, вылучыўшы на гэтую працу належных таварышоў з асноўнай нагрузкай іх па краязнаўству. Райкомы КП(б)Б павінны даручыць райбюро краязнаўства ў пэўны, строга вызначаны тэрмін організаваць на ўсіх прамысловых прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, МТС, школах, тэхнікумах, ВНУ і ў вёсках ячэйкі краязнаўства.

3. ЦСПСБ павінна даць рашучую і яскравую дырэктыву ўсім райпрофсаветам і гарпрофсаветам аб уключэньні краязнаўчай працы ў лік важнейшых об'ектаў масавай працы профсаюзаў і аб разгортваньні краязнаўчай працы на прамысловых прадпрыемствах, асабліва буйных.

4. Наркамасьветы БССР павінен прыняць пастанову, забясьпечваючую масавы ўдзел усіх навучальных, вучэбных, політасьветных устаноў і ўдзел шырокіх мас настаўніцтва і політасьветных працаўнікоў у краязнаўчым руху. Паставіць у абавязак раённых інспэктароў асьветы прыняць актыўны ўдзел у краязнаўчай працы, узяць на сябе ініцыятыву організацыі райбюро краязнаўства там, дзе яны яшчэ не організаваны.

5. Плянавым аддзелам райвыканкомаў паставіць перад раённымі бюро краязнаўства рад актуальных проблем і заданьняў для вывучэньня, дасьледваньня ў мэтах выкарыстаньня для соцыялістычнага будаўніцтва. Забясьпечыць распрацоўку гэтых проблем матар'яльнымі сродкамі. Наогул увязаць працу райпляная па ўсіх галінах гаспадарчага будаўніцтва з краязнаўчымі організацыямі.

6. Пад адказнасьць профорганізацый, райколгассаюзаў і інш. організаваць ячэйкі на буйных прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах, МТС, колгасах.

7. На ўсіх курсах падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі, ва ўсіх ФЗС, ШКМ, у тэхнікумах і ў ВНУ ўвесьці ў програму пэўную колькасьць гадзін па мэтодыцы краязнаўчай працы.

8. У Менску склікаць пашыраны пленум ЦБК па пытаньнях рэорганізацыі і перабудовы краязнаўчай працы. Гэты пленум правесьці пад кутом погляду забесьпячэньня абавязковага пералому ў краязнаўчай працы.

9. Увесьці ў сыстэму работы ўжо організаваных раённых бюро краязнаўства мэтод соцпаборніцтва, ударніцтва, грамадзкага буксыру самаправеркі, як паміж асобнымі райбюро, так і асобнымі ячэйкамі, групамі краяведаў і асобнымі краяведамі.

Толькі сапраўднае правядзеньне ўказаных мер дасьць належныя і патрэбныя вынікі, зробіць рашучы паварот у краязнаўчай працы, пакончыць з опортуністычнай недаацэнкай гэтага вучастку працы, зробіць краязнаўства сапраўды савецкім, накіраваным на скарэйшую пабудову соцыялістычнага грамадзтва.

---

М. Лойка і С. Маргелаў.

# Экономічнае раёнаваньне БССР.

*Крытычны нарыс па мэтодолёгіі раёнаваньня.*

## I

Словы тав. Сталіна аб наяўнасьці разрыву паміж практычнымі посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва і разьвіцьцём тэорытычнае думкі як нельга лепш характарызуюць і становішча працы па экономічнаму раёнаваньню БССР. Ня гледзячы на выключную актуальнасьць гэтае працы, мы, на жаль, вымушаны констатаваць, што ў гэтым важнейшым пытаньні тэорыя амаль нічога не зрабіла для ўзбраеньня практыкі.

Больш таго, паколькі праца па экономічнаму раёнаваньню БССР была амаль поўнасьцю монополізавана ідэолёгамі варожых соцыялістычнаму будаўніцтву кляс, нам даводзілася мець у гэтых адносінах справу і з яўным шкодніцтвам клясавых ворагаў.

Калі зьвярнуцца да спэцыяльных прац па раёнаваньню або нагул да літаратуры па экономічнай географіі, то мы спаткаем тут рад буржуазных тэорый (Цюнена, Вэбэра, Чэлінцава і інш.), якія набылі „моцнасьць забабонаў" і популярызуюцца, „засьмечваючы галовы практыкаў" і вучнёўскае моладзі.

Выходзячы з такога становішча ў галіне экономічнае географіі, паўстае, як першачарговая задача, безадкладная барацьба па расчыстцы гэтага фронту ад „буржуазнага хламу", бо „толькі ў барацьбе з буржуазнымі забабонамі ў тэорыі магчыма дасягнуць умацаваньня позыцый марксызму-ленінізму" (Сталін).

Перад экономічнаю географіяй, як і перад кожнаю іншай навуковай дысцыплінай, стаіць задача ўзбраеньня практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. *Спэцыфікум-жа экономічнае географіі, як асобнае навуковае дысцыпліны, заключаецца ў тым, што гэтае ўзбраеньне практыкі соцыялістычнага будаўніцтва праводзіцца ёю ў напрамку пэрспэктыўнай спэцыялізацыі і прасторавага разьмяшчэньня народнае гаспадаркі ўцэлым і яе паасобных галін.*

Кастрычнікавая рэволюцыя, зрабіўшы карэнны пералом ва ўсіх галінах жыцьця ў СССР, вымусіла неабходнасьць рашучае перабудовы і экономгеографічнае навукі ў напрамку вытрухваньня з яе схолястыкі і „груды фактаў",—у наданьні ёй новага зьместу. Да экономічнае географіі цяпер прад'яўляюцца новыя запатрабаваньні, якія могуць быць абагулены ў формуле: *стаць тэорыяй экономічнага раёнаваньня, як плянавага падзелу грамадзкае працы ў прасторы—аднае з асноўных прадпасылак клясавага соцыялістычнага будаўніцтва.*

У гэтым напрамку заключаецца пэрспэктыва разьвіцьця экономічнае географіі як навуковае дысцыпліны, і творчая, карысная дзейнасьць экономістаў-географаў.

Паколькі мы зразумелі тое, што плянавае соцыялістычнае будаўніцтва рашуча вымагае экономічнага раёнаваньня, пастолькі для нас будзе зразумелым і той вялікі попыт на экономічнае раёнаваньне і тая зацікаўленасьць экономічнай географіяй, якія былі праяўлены ў пасьлярэволюцыйныя часы.

Гэтыя-ж попыты з плянавага будаўніцтва вызначаюць і якасьць самога раёнаваньня, робячы яго *дзейным, адбіваючым прасторавую пэрспэктыву плянавага падзелу грамадзкае працы ў соцыялістычным будаўніцтве.*

У аснове дарэволюцыйнага раёнаваньня ляжалі запатрабаваньні поліцэйскае даяржавы, якія вынікалі ў апошняй з неабходнасьці цэнтралізаванага адміністрацыйнага кіраўніцтва, больш поўнага і зручнага выкачваньня падаткаў з такой вялікай і рознароднай краіны, як былая „адзіная Расія“. Гэтыя запатрабаваньні задавальняліся больш або менш зручным адміністрацыйным падзелам тэрыторыі, абумоўлівалі выключна *пазнаваўчы характар таго раёнаваньня, якое праводзілася па ініцыятыве паасобных буржуазных вучоных.*

Другім вельмі важным момантам, які трэба ўлічваць пры разглядзе дарэволюцыйнага раёнаваньня, зьяўляецца тое, што ў гэтым раёнаваньні поўнасьцю адсутнічала плянавая організаванасьць. Раёнаваньнем займаліся ўсе, „каму ня лень“, кожны падыходзіў да яго „з свае званіцы“ і амаль кожны ўносіў свае асаблівасьці ў прыёмы раёнаваньня. Праўда, тут-жа трэба зазначыць, што, ня гледзячы на вялікую колькасьць розных спроб раёнаваньня, распрацаванасьць мэтодолёгіі большасьці з гэтых прац, нават па прызнаньню саміх буржуазных аўтараў у раёнаваньні, стаіць на вельмі нізкім роўні. Так, Н. Нікіцін, пасьля пераліку галоўных прац па раёнаваньню, зазначае, што „некаторыя з адзначаных у нашым гістарычным аглядзе спроб даюць ня толькі скудны матар‘ял аб прынцыпах падзелу краіны на гаспадарчыя раёны, што магчыма меркаваць, што ўстаноўленыя імі раёны носяць інтуітыўны (беспадстаўны) характар“ (Труды высшего семинария с.-х. экономии и политики. Хозяйственные районы Европейской России. 1921 г.).

У адзначанай неорганізаванасьці дарэволюцыйнага раёнаваньня, а асабліва ў поўнай адсутнасьці ў ім марксыцкае мэтодолёгіі, якая толькі адна і здольна была-б аб‘яднаць вынікі і зрабіць іх сапраўды рэальнымі, і ляжыць, на наш погляд, аснова таго, чаму мы мелі ў тыя часы вялікую колькасьць спроб раёнаваньня. Зусім няверным зьяўляецца тое тлумачэньне прычын вялікае колькасьці прац па раёнаваньню б. Расіі, якое маецца ў экономгеографічнай літаратуры і да якога далучаецца Н. Баранскі (у яго працы: Экономическая география СССР. 1926 г.), што прычына вялікае колькасьці спроб дарэволюцыйнага раёнаваньня Расіі ляжыць у велічыні і рознароднасьці яе тэрыторыі. *Зусім відавочна, што вялікія памеры і рознароднасьць тэрыторыі б. Расіі, зьяўляючыся прычынай, якая выклікала неабходнасьць таго часнага „пазнаваўчага“ раёнаваньня наогул, ні ў якім разе не вымушалі неабходнасьці паўтараць гэтае раёнаваньне дзесяткі разоў.*

У пасьлярэволюцыйныя часы вялікая колькасьць спроб раёнаваньня на тэрыторыі СССР тлумачыцца ў значнай ступені спадчынаю неорганізаванасьці і ўжываньня буржуазнае мэтодолёгіі, з другога боку, экономічнае раёнаваньне праводзіцца дэцэнтралізавана і таму

атрымліваецца вялікая колькасьць спроб раёнаваньня, што пры ўмовах організаванасьці і ўжываньня марксыцка-ленінскае мэтодолёгіі зусім не выклікаецца неабходнасьцю. На жаль, такія ўмовы амаль (а ў БССР поўнасьцю) не саблюдаюцца ў пасьлярэволюцыйных працах па раёнаваньню.

II

Мы ставім сваёю задачаю ў гэтым артыкуле разгледзець мэтодолёгію пасьлярэволюцыйных спроб самастойнага экономічнага раёнаваньня БССР (у дарэволюцыйныя часы такіх спроб зусім ня мелася).

У гэтым напрамку мы маем наступныя працы:

1. Н. К. Ярошевич: а) Сельско-хозяйственные районы Минской губ. и БССР, Минск 1923 г.;

б) „К методике сельско-хозяйственного районирования", Ташкент 1925 г.;

2. А. Смоліч: а) „Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі", Менск 1927 г.;

б) „Сельска-гаспадарчыя раёны БССР у 1927-1928 гадох", Менск 1930 г.

Апрача гэтых прац, па экономічнаму раёнаваньню БССР мы маем:

1. Раёнаваньне сельскай гаспадаркі БССР у прышчэпаўскім пэрспэктыўным пляне разьвіцьця сельскае гаспадаркі;

2. Некаторыя мэтодолёгічныя разважаньні, якія засталіся па пытаньню экономічнага раёнаваньня БССР ад існаваўшай у 1929-30 годзе камісіі па раёнаваньню пры Дзяржпляне БССР.

Разглядам гэтых прац мы і зоймемся. Паколькі-ж мэтодолёгічныя карэньні гэтых прац ляжаць у дробна-буржуазнай школе па раёнаваньню і зразумець іх магчыма толькі ў гэтай сувязі, мы лічым неабходным вызначыць перш за ўсё асноўныя палажэньні ў мэтодолёгіі раёнаваньня гэтае школы.

III

На наш погляд, усе без выключэньня працы буржуазнае школы ў пытаньнях раёнаваньня грунтуюцца на наступных адзіных мэтодолёгічных прадпасылках. Перш за ўсё, як ужо зазначана раней, усе яны падыходзяць да раёнаваньня з боку ўласнае зацікаўленасьці. У залежнасьці ад гэтае зацікаўленасьці, маючай выключна пазнаваўчы характар, у аснову раёнаваньня, якое амаль заўсёды прэтэндавала на агульна-экономічнае, клалася тая або іншая галіна народнае гаспадаркі (пераважна такою галіною зьяўлялася сельская гаспадарка) і ў ёй упор рабіўся на той бок, які зноў-такі найбольш цікавіў аўтара. Вызначэньне раёну, якое было дадзена А. Ф. Фортунатавым і лічылася „клясычным", поўнасьцю дапасавана да паказанага стану ў раёнаваньні. Згодна гэтага вызначэньня, *„раёнам павінна называць дакладна вызначаную на карце частку зямное паверхні, якая адрозьніваецца ад другіх частак якімі-небудзь адзнакамі"* (А. Ф. Фортунатаў. К вопросу о сельско-хозяйственных районах в России. Падкрэсьлена намі — Аўтары).

Прамысловасьць, як вядучая галіна народнае гаспадаркі, ігноравалася, не зьяўлялася об'ектам раёнаваньня. Раёнаваньне не насіла ха-



рактару дзейнага працэсу плянавага накіраваньня разьвіцьцём народнае гаспадаркі, а лічылася, што „самы падзел краіны на гаспадарчыя раёны ёсьць па сутнасьці справа эмпірычнага ўліку гаспадарчай сапраўднасьці. Усё пытаньне — як весьці вучот, з якіх падстаў выходзіць пры яго правядзеньні“ (Н. Никитин. Хозяйственные районы Европейской России, цыт. зборнік).

Адгэтуль вызначальны, мэтодолёгічна-абумоўлены парок усіх буржуазных прац па раёнаваньню, іх шматлікасьць і той, нарэшце, пэсымізм, які ахапляў шмат каго з гэтых аўтараў наконт мажлівасьці рэальнага вызначэньня раёнаў. Цікавым прыкладам у даным выпадку зьяўляецца А. Ф. Фортунатаў, які, надаўшы шмат увагі пытаньням раёнаваньня, нарэшце, прышоў да такога выніку, што „...мы не распалагаем сродкамі для таго, каб вызначыць адноснае значэньне паасобных адзнак, якімі характарызуецца сельска-гаспадарчае становішча розных мясцовасьцяй“.

Зразумела, што гаварыць аб дарэволюцыйным раёнаваньні Расіі, як падставе нейкіх плянавых мерапрыемстваў дзяржавы, зьяўляецца бязглузьдзіцай, бо якраз пазнаваўчы характар гэтага раёнаваньня вынікае з сутнасьці дарэволюцыйнае дзяржаўнасьці Расіі. Гаварыць-жа аб пазнаваўчым раёнаваньні (калі яго наогул магчыма назваць раёнаваньнем) на „грунце буржуазнае мэтодолёгіі — такая-ж бязглузьдзіца і ў гэтай бязглузьдзіцы аснова шматлікіх бескарысных спроб раёнаваньня. *Разрыў народна-гаспадарчага працэсу на часткі з іх абасобленым і абмежаваным разглядам з пункту погляду зацікаўленасьці таго або іншага аўтара зьяўляецца, такім чынам, першаю асноўнаю мэтодолёгічнаю асаблівасьцю буржуазных прац па разглядаваму раёнаваньню.*

Кастрычнікавая рэволюцыя ў СССР абудзіла вялізныя творчыя сілы працоўных мас і накіравала іх па шляху плянавага соцыялістычнага будаўніцтва. Апошняе ўключае ў сябе, як неадымную частку, падзел грамадзкае працы ў прасторы—раёнаваньне. Адгэтуль рост запатрабаваньняў на раёнаваньне, адгэтуль-жа плянавае правядзеньне самога раёнаваньня з карэннай перабудовай яго мэтодолёгіі на падставе марксызму-ленінізму. Марксыцка-ленінская мэтодолёгія ў справе экономічнага раёнаваньня вымагае падыходзіць да раёнаваньня не як толькі да пазнаваўчага працэсу, а як да працэсу дзейнай рэволюцыйнай перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі. У аснове экономічнага раёнаваньня павінны быць пакладзены прынцып перабудовы міру, а ня толькі яго пазнаньня.

Зразумела, што гэтае палажэньне зусім не абазначае таго, што пазнаваўчая частка павінна ігноравацца ў пэрспэктыўным раёнаваньні; наадварот, пэрспэктыва ўключае ў сябе пазнаньне існуючае сапраўднасьці, але гэтае ўключэньне адбываецца на грунце марксыцка-ленінскае мэтодолёгіі і таму ў сапраўды рэальным выглядзе. Пэрспэктыўнае для соцыялістычнага будаўніцтва раёнаваньне павінна ўключаць у сябе не паасобныя і адрозьненыя галіны народнае гаспадаркі і не мэханічную комбінацыю адрозьненых раёнаваньняў гэтых галін, а ўсю народную гаспадарку ўцэлым. Пры гэтым, вызначэньне паасобных экономічных раёнаў, зразумела, не павінна зьяўляцца нейкім працэсам накладваньня на пэўную тэрыторыю конструкцыйных шаблёнаў, а павінна вынікаць з паступовага і дэталёвага аналізу паасобных галін народнае гаспадаркі ў парадку іх вядучага і вызначальнага характару. Гэтым самым спэцыяльныя раёны розных парадкаў будуць уваходзіць у агульна-экономічныя, як іх органічная (а не мэханічная) і неадымная частка;

раёны агульна-экономічныя вызначаюць у парадку падначаленых галін — раёны спэцыяльныя, апошнія вызначаюць сабою сцэцыяльныя раёны другога парадку і г. д.

Адсюль відавочна няправільным зьяўляецца вызначэньне, напрыклад, сельска-гаспадарчых раёнаў без раёнаваньня прамысловасьці, як вядучае галіны народнае гаспадаркі. У сваю чаргу, зьяўляецца няправільным, напрыклад, правядзеньне пароднага (у жывёлагадоўлі) або сартавога (у паляводзтве) раёнаваньня без вызначэньня селька-гаспадарчых раёнаў.

З сказанага вышэй вынікае, што *экономічны раён гэта ёсьць спэцыялізаваны вытворчы комбінат, які абымае ў сабе ўсю народнагаспадарчую дзейнасьць па социялістычнаму будаўніцтву на пэўна вызначанай тэрыторыі, — комбінат, які выконвае пэўныя функцыі ў сыстэме прасторавага падзелу грамадзкае працы.*

Другою характэрнаю асаблівасьцю разгляданых прац па раёнаваньню зьяўляецца адсутнасьць у іх правільнага вырашэньня пытаньняў сувязі гаспадарчага разьвіцьця з прыродным асяродзішчам, або, інакш кажучы, адсутнасьць правільнае мэтодолёгічнае пастаноўкі пытаньня аб сувязі паміж так званымі прыродна-гістарычнымі і соцыяльна-экономічнымі фактарамі. Гэта якраз і выяўляецца ў тым, што „адны бралі за падставу прызнакі выключна прыродна-гістарычныя, другія — экономічныя, трэція — і тыя і другія разам“. Так, А. І Скварцоў у сваёй працы „Хозяйственные районы Европейской России“ лічыць, што „ня толькі гаспадарчае, але і ўсё экономічнае жыцьцё краіны вызначаецца, перш за ўсё, уласьцівымі ёй прыродна-гістарычнымі ўмовамі, прыродай краіны“. А. Н. Чэлінцаў, у процілегласьць А. І. Скварцову, кладзе ў аснову паступовага гаспадарчага руху рост насельніцтва. Шмат іншых (Б. Н. Кніповіч, Н. Нікіцін і інш.) застанаўліваюцца на простай комбінацыі гэтых фактараў, — займаюць так званы „залаты асяродак“, ці, інакш кажучы, выразна эклектычную позыцыю па гэтаму пытаньню. Цікавым прыкладам такога эклектыка можа быць А. Чаянаў, які формулюе свой погляд па гэтаму пытаньню наступным чынам:

„Адшукаць формулу, — кажа ён, — у якой адбываецца ўстанаўленьне роўнавагі паміж мясцоваю шчыльнасьцю насельніцтва, палажэньнем раёну ў адносінах да рынку і яго прыродна-гістарычнымі асаблівасьцямі, — вось, па нашай думцы, адна з важнейшых тэорытычных задач у галіне вывучэньня экономічнай географіі“ (Номографические элементы экономической географии. Цыт. раней зборнік, стар. 70).

Усе гэтыя аўтары знаходзяцца, як бачым, у бязвыхадным мэтодолёгічным тупіку і, дзякуючы гэтаму, ня могуць даць нічога каштоўнага ня толькі ў перабудове, але і ў пазнаньні сапраўднасьці. Адзіна правільным выходным мэтодолёгічным прынцыпам у даным выпадку зьяўляецца тое палажэньне марксызму, што „разьвіцьцё вытворчых сіл, — як кажа Плеханаў, — якое вызначае сабою, у апошнім ліку, разьвіцьцё ўсіх грамадзкіх адносін, вызначаецца *ўласьцівасьцямі географічнага асяродзьдзя.* Але, раз узьнікнуўшы, даныя грамадзкія адносіны *самі аказваюць вялікі ўплыў на разьвіцьцё вытворчых сіл*“ (Основные вопросы марксизма, стар. 39, выд. 1928 г.). І далей: „Уплыў географічнага асяродзьдзя на грамадзкага чалавека ўяўляе сабою *пераменную велічыню.* Абумоўліванае ўласьцівасьцямі гэтага асяродзьдзя разьвіцьцё вытворчых сіл павялічае ўладу чалавека над прыродай і *тым самым ставіць яго ў новыя адносіны да навакольнага яму географічнага асяродзьдзя*“ (там-жа, стар. 43). Пры гэтым, „не абсолютная ўрадлівасьць

глебы,—як кажа Маркс,—а яе дыфэрэнцаванасьць, рознароднасьць яе прыроды продуктаў складае прыродную аснову грамадзкага падзелу працы і зьменаю тых прыродных умоў, у якіх даводзіцца весьці сваю гаспадарку чалавеку, спрыяе намнажэньню яго ўласных патрэб, здольнасьцяй, сродкаў і спосабаў працы" (Капитал, т. I, стар. 399, выд. 1928 г.).

Такім чынам, *геаграфічнае асяродзьдзе, або так званыя прыродна-гістарычныя фактары павінны разглядацца ў аспэкце існуючых грамадзкіх адносін (грамадзкага асяродзьдзя)—у аспэкце дасягнутага ўзроўню вытворчых сіл.*

Такая пастаноўка пытаньня аб залежнасьці гаспадарчага разьвіцьця з прыродным асяродішчам карэнным чынам адрозьніваецца ад раней вызначаных мэтафізычных разважаньняў на гэту тэму сваёю дыялектычнасьцю і сапраўды творчым навуковым зьместам, чаго ня было і няма ва ўсіх без выключэньня буржуазных працах па экономічнаму раёнаваньню як дарэволюцыйных, так і пасьлярэволюцыйных часоў.

Адзначаныя раней працы па пасьлярэволюцыйнаму раёнаваньню БССР у сваёй мэтодолёгічнай аснове ўяўляюць сабою, як было ўжо зазначана, непарыўную частку з працамі прадстаўнікоў так званае дробна-буржуазнае плыні ў пытаньнях экономікі сельскае гаспадаркі. Пры гэтым, мэтодолёгічная аснова, так сказаць, ідэёвасьць, у гэтых адносінах належала шкодніку А. Н. Чэлінцаву, на якім мы зараз спынімся.

## IV

Сутнасьць концэпцыі А. Н. Чэлінцава, якая была пакладзена ім у аснову раёнаваньня, яскрава сформулявана ў наступных вытрымках.

„Перш за ўсё,—кажа ён,—павінна быць прызнана нямінучасьць натуральнага ўзросту народанасельнасьці; няўхільны прырост насельніцтва, з аднаго боку, утварае неабходнасьць непарыўнага павышэньня ёмістасьці тэрыторыі, а з другога—палягчае магчымасьць гэтага павышэньня павялічэньнем інтэнсыўнасьці гаспадаркі, дзякуючы накапленьню вялікіх колькасьцяй працы і капіталу (а таксама ведаў); у выніку нямінуча павышэньне інтэнсыўнасьці і разам з гэтым даходнасьці гаспадаркі, ураджайнасьці зямлі вытворчасьці жывёлы і інш." (Современные вопросы русского сельского хозяйства, 1904 г., ст. 475-476). Далей: „Ідучы з усходу на захад паасобна ў чорназемнай і нячорназемнай паласе, магчыма... гаварыць аб раёнах з нарастаючай набліжанасьцю да ўсё больш інтэнсыўнае строга сельска-гаспадарчае вытворчасьці, пачынаючы з экстэнсыўнай, залежнай—напаўзернавой, напаўжывёлаводнай сыстэмы і канчаючы інтэнсыўнай плодазьменнай. Прасторавая зьмена (па даных 1890-1900 гг.) тыпаў організацыі сельскае гаспадаркі паўтарала як-бы пераход у часе ад ніжэйшых да вышэйшых форм сельска-гаспадарчае вытворчасьці. І кожны больш інтэнсыўна організаваны раён мог разглядацца, як паступовая стадыя разьвіцьця сумежнага ніжэйшага. Усё разам узятае гаварыла аб паступовым, прогрэсыўным руху сельска-гаспадарчае вытворчасьці ў мінулым,—руху, на шляху якога розныя раёны да данага часу дасягнулі розных пунктаў" (Русское сельское хозяйство перед революцией, 2-е перапрацаванае дапоўненае выд., Масква, 1928 г., стар. 13.).

Такім чынам, як бачым, філёзофія Чэлінцава зводзіцца да таго, што ў аснову гаспадарчага разьвіцьця ім кладзецца рост насельніцтва, пад уплывам якога ідзе паступовае разьвіцьцё гаспадаркі ў напрамку яе інтэнсыфікацыі, а існуючая ў даны момант тэрыторыяльная розь-

ніца ў інтэнсыўнасьці адбівае паступовасьць гэтага працэсу ў часе. Адгэтуль выходзіць, што дастаткова ўразумець клясыфікацыю сыстэм сельскай гаспадаркі ў іх адпаведнай расстаноўцы ў часе, як чалавек ужо набывае поўную магчымасьць ставіць бясспрэчны рэволюцыйны прогноз у разьвіцьці паасобных раёнаў. Да гэтага-ж эволюцыйнага разьвіцьця павінна прыстасоўвацца экономічная політыка і г. д.

„Трэба, — кажа А. Н. Чэлінцаў, — адшукаць аднастайныя мясцовасьці, якія-б маглі характарызавацца аднароднымі рысамі ладу сельскае гаспадаркі, і кожную мясцовасьць трэба разглядаць, як свайго роду адзінае ў ісходны момант цэлае, і гэту адзінку разглядаць, як об‘ект „політыкі“ (Сельско-хозяйственные районы, порайонные перспективы с.-х и направление мероприятий с.-х. политики).

Такім чынам, атрымоўваецца закончаная „навуковая“ сыстэма аб‘яднанага лягеру буржуа-кандрацьцеўцаў у раёнаваньні,—сыстэма, на якой яны грунтавалі сваю політыку рэстаўрацыі капіталістычнага ладу ў СССР.

На самай справе рост насельніцтва ў аснове грамадзкага разьвіцьця гэта ёсьць выразна буржуазнае супроцьстаўленьне таму асноўнаму палажэньню марксызму, што „ў грамадзкай вытворчасьці свайго жыцьця людзі натыкаюцца на пэўныя, неабходныя, ад іх волі незалежачыя адносіны — *адносіны вытворчасьці,* якія адпавядаюць пэўнай ступені разьвіцьця іх матэрыяльных вытворчых сіл“ (Маркс), што рост насельніцтва зьяўляецца функцыяй росту вытворчых сіл, або, як кажа Маркс, „кожнаму асобнаму гістарычнаму способу вытворчасьці ўласьцівы свае асаблівыя, маючыя гістарычнае значэньне законы насельніцтва. Абстрактны закон насельніцтва існуе толькі для расьлін, жывёл, пакуль у гэтую галіну гістарычна ня ўмешваецца чалавек“.

Тое-ж, што ў аснову экономічнае політыкі дзяржавы клалася шкоднікамі ў раёнаваньні эволюцыйная паступовасьць, зьяўляецца нічым іншым, як ідэёваю асновай капіталістычнае рэстаўрацыі сельскае гаспадаркі ва ўмовах СССР. Бо гэтым самым ціхаю сапаю падмянялася кіруючая роля пролетарскае дзяржавы, якая праз ажыцьцяўленьне плянавых заданьняў уносіць рэволюцыйна-перабудоўчыя асновы ў разьвіцьцё сельскае гаспадаркі. Замест плянавага заданьня і на гэтай аснове рэволюцыйных перабудоў, па думцы капіталістычных рэстаўратараў, павінна было ажыцьцяўляцца дапасаваньне ўсіх мерапрыемстваў да эволюцыйнага працэсу ў сельскай гаспадарцы, а тым самым—садзейнічаньне нараджэньню і пашыранаму васпраізводзтву капіталістычных адносін. У сувязі з гэтым стаіць і такое сьцьвярджэньне шкоднікаў, што *„практычны агроном сёнешняга дня...* павінен у значна большай меры цікавіцца пытаньнямі організацыйна-вытворчага парадку, чым проблемамі социяльна-экономічнымі“ (А.Чаянаў, прадмова да працы Н. Нікіціна—„Разделение Московской губ. на с.-х. районы“, 1921 г.).

Гэты мэтафізычны адрыў социяльна-экономічных проблем ад організацыйна-вытворчых, як бачым, адыгрывае ролю змазваньня социяльных працэсаў, што так характэрна для ідэолёгаў буржуазіі.

У гэтай-жа сувязі стаіць і другі прыём капіталістычных рэстаўратараў у пытаньнях экономічнага раёнаваньня, які зводзіцца да таго, што экономічныя раёны адрываліся імі ад адміністрацыйных. Так, той-жа А. Чаянаў піша: „Лічым неабходным падкрэсьліць, што вызначаныя організацыйна-вытворчыя раёны ні ў якім выпадку ня могуць зьяўляцца падставаю для адміністрацыйнага падзелу губэрні, бо апошні павінен будавацца на асновах прыроднага (?) імкненьня

насельніцтва да пэўных пунктаў, якое, у сваю чаргу, вызначаецца становішчам і характарам шляхоў зносін і разьмяшчэньнем масываў насельніцтва“ (там-жа, стар. 6.). З гэтае балбатні нас цікавіць тая політыка шкоднікаў, якая накіравана імі да адрыву экономічнага жыцьця раёнаў ад органаў дыктатуры пролетарыяту з адначасоваю стаўкаю на грамадзкасьць капіталістычных элемэнтаў у горадзе і так званыя імі „передавыя элемэнты“ на вёсцы. Апошнія концэнтраваліся навокал мясцовае агрономіі (якой, як мы бачылі, забаранялася шкоднікамі займацца социяльна-экономічнымі проблемамі) у выглядзе выразных кулацкіх аб‘яднаньняў пад маркаю „сялян-дасьледчыкаў“, на якіх ставілі сваю стаўку аб‘яднаныя сілы інтэрвэнтаў (гл. па гэтаму пытаньню паказаньні шкоднікаў на процэсе меншавікоў-інтэрвэнцыяністаў і артыкул аб працы контр-рэволюцыйных беларускіх нацдэмаў з „сялянамі дасьледчыкамі“ тыпу Мароза, Савіча і інш. у час. „Сав. Краіна“, № 5, 1931 г.).

Адрываючы, такім чынам, дзейнае кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём ад органаў дыктатуры пролетарыяту, змазваючы клясавыя супярэчнасьці вёскі, капіталістычныя рэстаўратары концэнтравалі ўсё экономічнае жыцьцё вёскі на ініцыятыве яе капіталістычных элемэнтаў з такой „цэнтральнай фігурай“, як адпаведна выхоўваны імі агроном. Апошні, па іх думцы, „павінен мець быццам свой маяк, выстаўлены мясцоваю сельскаю гаспадаркаю на бліжэйшы час, маяк, якога бачыць агроном, хоць яго можа і ня бачаць іншыя (?). І агроном будзе мець гэты маяк, калі ён выясьніць важнейшыя асобнасьці організацыйнага ладу мясцовае гаспадаркі і разам з тым кірунак, у якім апошняя зьмяняецца і можа зьмяняцца як чыста стыхійна, так і ў выпадку рацыяналізацыі гэтага стыхійнага разьвіцьця пры дапамозе агрономіі (!).“ „Яго (агронома) думка заўсёды будзе наперадзе ад мясцовых гаспадароў і грамадзкіх дзеячоў“ (проф. А. Н. Чэлінцаў—Аб рахунковым аналізе сялянскае гаспадаркі; бел. пераклад пад рэдакц. А. Смоліча, стар. 7-8).

Тэорыя эволюцыйнае паступовасьці ў разьвіцьці сялянскае гаспадаркі, — паступовасьці, якая зводзілася да адарванага тэхнічнага разуменьня гэтага процэсу, была, як мы бачылі, адным з асноўных момантаў ідэолёгічнай сыстэмы буржуазна-рэстаўратарскае тэорыі раёнаваньня сельскае гаспадаркі, якую яны рабілі вядучай галіной народнае гаспадаркі.

З гэтае тэорыі вынікаюць адносіны кандрацьцеўцаў у раёнаваньні да падбору матар‘ялаў, а таксама характар выкарыстаньня апошніх. У аснову раёнаваньня звычайна клаліся матар‘ялы дарэволюцыйных перапісаў. Гэтаму матар‘ялу надаваўся ярлык — „масавы матар‘ял“, а далейшае яго выкарыстаньне ішло бяз усякае социяльна-экономічнае дыфэрэнцыяцыі. Так, характэрныя для буржуазнага і асабліва для дробна-буржуазнага лягеру „сярэднія“ зьяўляліся вынікам мешаніны такіх рознародных социяльна-экономічных тыпаў гаспадарак, як розныя групы сялянства і панскія гаспадаркі.

Такім чынам, разам з даказацельствам неабходнасьці накіроўваць усе мерапрыемствы экономічнае політыкі дастасоўна да эволюцыйна-капіталістычнага процэсу ў сельскай гаспадарцы, гэты процэс падаваўся ў яго найбольш выразнай дарэволюцыйнай форме.

Сярэднія-ж вялічыні адыгрывалі ролю шырмы, якая дапасоўвалася да змазваньня социяльных процэсаў.

Зразумела, што аб‘яднаньне дробна-буржуазных тэорэтыкаў у раёнаваньні на вызначаных вышэй мэтодолёгічных асновах зьяўляецца рашаючым момантам у разглядзе іх прац і што „рознагалосьсі“

ў самым тэхнічным ажыцьцяўленьні раёнаваньня зьяўляюцца ні больш ні менш як „сямейнымі спрэчкамі“, якія, як ужо зазначана раней, ня могуць ляжаць у аснове нейкага „прынцыповага“ падзелу гэтых „раёншчыкаў“. Напрыклад: калі ўзята для раёнаваньня ня ўся народная гаспадарка, а толькі яе частка і, прытым, у ізоляваным парадку, без належнае сувязі не ў парадку вядучае падначаленасьці, або калі нават раёнаваньне робіцца і як агульнаэканомічнае, але зноў-такі не ў парадку сапраўды вядучых галін, то гэта ўжо наперад абракае яго на поўную рэальную несапраўднасьць ня толькі як „перабудаваўчага“, але і як „пазнаваўчага“. Ніякія „гульні ў цыфіркі“ з іх інтэрваламі і мэханічным злучэньнем тут дапамагчы нічога ня могуць, бо ўсё гэта дае „самаабманныя“, штучныя злучэньні, а ўсе гэтыя практыкаваньні набываюць характар голае схолястыкі.

Такая ў асноўных рысах мэтодолёгічная сыстэма разважаньняў ідэолёгаў капіталістычнае рэстаўрацыі ў народнай гаспадарцы СССР, якую яны прыстасоўвалі да раёнаваньня гэтае гаспадаркі.

## V

Н. К. Ярашэвіч і А. Смоліч у сваіх адзначаных вышэй працах па сельска-гаспадарчаму раёнаваньню БССР стаяць поўнасьцю на мэтодолёгічных позыцыях дробна-буржуазнае школы ў раёнаваньні. Н. К. Ярашэвіч зазначае што ў яго працы па сельска-гаспадарчаму раёнаваньню „ўжыты організацыйна-вытворчы мэтод проф. Чэлінцава“ (К методике с-х. районирования, ст. 177), пры гэтым лічыць, што вызначаныя ім 7 формацыйных сельска-гаспадарчых раёнаў зьяўляюцца толькі паасобнымі стадыямі, этапамі, праз якія праплывае сельска-гаспадарчы процэс на тэрыторыі Менскай губ. У агульных рысах магчыма дапусьціць, што за малым выключэньнем, вызначаныя намі на тэрыторыі Менскай губ. сельска-гаспадарчыя раёны, відавочна, будуць назірацца праз пэўны пэрыод часу ў кожным з гэтых раёнаў. Па вызначаных на тэрыторыі сельска-гаспадарчых раёнах магчыма меркаваць аб бліжэйшых і будучых зьменах сельскае гаспадаркі і аб той бліжэйшай стадыі, да якой імкнецца даны сельска-гаспадарчы раён. У гэтым *угадваньні і ўменьні рабіць прогноз* (падкрэсьлена намі — Аўтары) перамен у сельскай гаспадарцы заключаецца галоўная работа сельскага гаспадара, каб узгадніць сваю работу з эволюцыяй сельскае гаспадаркі, якая адбываецца ў даным раёне; не падтрымоўваць тых галін сельскае гаспадаркі, якія зьяўляюцца генэтычнымі прызнакамі адыходзячай у мінулае стадыі сельска-гаспадарчага разьвіцьця, а падтрымоўваць і разьвіваць тыя сельска-гаспадарчыя пачынаньні, якія высоўваюцца новай стадыяй адбываючайся сельска-гаспадарчай эволюцыі, служачай зьвяном да наступнай трэцяй стадыі сельска-гаспадарчага разьвіцьця“ (С. Х. районы ..., стар. 63). Відавочна, што гэта ёсьць ня больш ня менш, як перапеў з Чэлінцава тае рэакцыйнае тэорыі няўхільнае эволюцыйнае паступовасьці, якая сваім „угадваньнем“ і „прогнозам“ была накіравана на падмену плянавае рэволюцыйнае перабудовы сельскае гаспадаркі на падставе заданьня-дырэктывы з боку кіруючых органаў соцыялістычнага будаўніцтва.

А. Смоліч гэта-ж самае сьцьвярджае наступным чынам: „Вывучэньне сялянскае гаспадаркі, — піша ён, — яе організацыйнага боку мае вялікае і ў сучасны момант, можна лічыць, агульнапрызнанае (?) практычнае значэньне“, бо, па яго думцы, „сялянская гаспадарка можа характарызаваць экономічны ляндшафт гэтак сама, як расьліннасьць

характарызуе фізычна-географічны краявід, і зьяўляецца, асабліва ў краёх малаіндустрыялізаваных, фокуснай прыметай для экономічнага раёнаваньня і характарыстыкі раёнаў". І далей: „Пытаньне аб раённых тыпах сялянскай гаспадаркі і іх географічным разьмяшчэньні мае вялікую жыцьцёвую вартасьць, а яго разьвязаньне—адна з асноўных перадпасылак плянавага соцыялістычнага будаўніцтва савецкае дзяржавы" (Орг. сялян. гаспадаркі..., стар. 1-2).

Тут А. Смоліч за „рэволюцыйнай" фразай і ўласьцівымі яму дэмагогічнымі прыёмамі падае тое-ж рэакцыйнае чэлінцаўскае разуменьне шляхоў разьвіцьця сельскае гаспадаркі.

Цікава адзначыць, што Н. К. Ярашэвіч набіраецца нагласьці называць гэтую, як мы бачылі, яўна мэтафізычную дробна-буржуазную мэтодолёгію раёнаваньня мэтодолёгіяй, якая „абапіраецца на дыялектычны мэтод" (К методике с.-х. районирования, стар. 1178).

Як Н. К. Ярашэвіч у сваіх працах, так і А. Смоліч у працы „Організацыя сялянскай гаспадаркі"..., першы поўнасьцю і выключна, а другі—у асноўным, карыстаюцца матар'яламі перапісу 1916 г. На падставе гэтага матар'ялу Н. К. Ярашэвіч вылічыў „сярэднія" ад усіх соцыяльна-экономічных груп сялянства ды панскіх гаспадарак і лічыць, што калі ён застанавіўся на „вызначэньні запатрабаваньняў сельскае гаспадаркі краю за мінулы час і прадыктаваных імі мерах, то гэта зроблена як з-за мэтодолёгічных меркаваньняў, так і таму, што даны год, ня гледзячы на ўплыў вайсковых падзей, дае ўсё-такі найбольш поўныя зьвесткі аб стане дарэволюцыйнага сельска-гаспадарчага жыцьця ў *закончанай яго форме і напрамку,* да якіх у значнай ступені імкнецца і цяперашняя пасьлярэволюцыйная гаспадарка" (К методике с.-х. районирования, стар. 176, падкрэсьлена намі—Аўтары). А. Смоліч, у сваю чаргу, ужывае ўсе матар'ялы Н. К. Ярашэвіча і на падставе іх вызначае „асноўныя рысы сельска-гаспадарчага раёнаваньня" (стар. 5).

Жыцьцё паказала, як пралічыліся гэтыя „раёнізатары" ў сваім вызначэньні напрамку разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Гэтае-ж жыцьцё паказала і ўсю рэакцыйнасьць „плянавых" меркаваньняў шкоднікаў у раёнаваньні, зьмёўшы іх у сорны кошык магутнаю хваляю рэволюцыйнага энтузыязму працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве на аснове генэральнае лініі КП(б) і пад яе выпрабаваным кіраўніцтвам.

Гэтыя ўздыхацелі аб „беларускім народзе" ў сваіх працах па раёнаваньню рабілі ўсё, што толькі маглі для адцягваньня ўвагі ад аналізу соцыяльных момантаў у сельскай гаспадарцы БССР, для змазваньня клясавае барацьбы, якая адбылася ў ёй, і гэтым таксама адыгрывалі ролю рэакцыянэраў у адносінах да батрацтва і бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі. Так, гэтымі шкоднікамі давалася наступная ацэнка коленіяльнае політыкі царскага ўраду на Беларусі: „Спэцыфічная русыфікатарская політыка былога царскага ўраду была накіравана на аддаленьне працоўнай беларускай інтэлігенцыі ад сялянства. Культуртрэгеры, якія тут засталіся з асяродку польскага панскага насельніцтва, ня гледзячы на сваю параўнаўча высокую культурнасьць, былі чужымі беларускаму *сялянству* (як быццам польскі кулак і яго ідэолёг—ня сябра беларускаму кулаку) як па клясаваму, так і па нацыянальнаму свайму характару. Яны тварылі тут шляхецка-нацыянальную справу, маючы надзейную экономічную базу ў сваіх багатых маёнтках у той час, як лепшая беларуская інтэлігенцыя, пад уплывам царскай політыкі, вымушана была шукаць ужываньня сваім сілам за прэдзеламі роднага краю, удалі ад роднага народу, патрэбы якога ёй былі

блізкі і знаёмы. Таксама чужымі былі беларускаму сялянству і расійскія чыноўнікі, мала знаёмыя з бытам мясцовага насельніцтва і ладам яго гаспадаркі. Гэты падзел працоўнае інтэлігенцыі з сялянствам быў адной з прычын, якія затрымоўвалі разьвіцьцё і коопэрацыйнага руху і наогул агрыкультурнае працы ў Беларусі“ (Н. К. Ярашэвіч. К методике с.-х. районирования, стар. 1.164-165).

У гэтых шкоднікаў існуе на Беларусі толькі дзьве сілы — „працоўнае“ сялянства і яго „працоўная“ інтэлігенцыя. Сутнасьць-жа колёніяльнае палітыкі царскага ўраду, увесь комплекс экономічнага, соцыяльнага, нацыянальнага і культурнага ўціску, які ажыцьцяўляўся на Беларусі, зьведзены, як бачым, да падзелу „працоўнае“ інтэлігенцыі ад „працоўнага“ сялянства. Выходзіць, што для таго, каб задаволіць гэтых уздыхацеляў аб „долі беларускага народу“, трэба было зрабіць зусім нязначнае — гэта пакінуць „працоўную“ беларускую інтэлігенцыю тыпу Ярашэвіча, Смоліча ды інш. працаваць на Беларусі, і ўсё было-б добра. Фэўдальна-капіталістычнае панаваньне колёнізатараў магло заставацца непарушаным, непарушаным мог заставацца наогул капіталістычны лад, і ўсё гэта зусім не перашкаджала-б ні іх коопэрацыйнаму, ні іх агрыкультурнаму разьвіцьцю. Адсюль зусім ясны і характар коопэрацыі, і характар агрыкультурнага разьвіцьця гэтых шкоднікаў.

А. Смоліч, вызначыўшы на падставе матар'ялаў Н. Ярашэвіча, „асноўныя рысы сельска-гаспадарчага раёнаваньня“, ужывае такі трук. На раёны, атрыманыя па даных 1916 году, накладвае характарыстыку па даных 1923 году, якія атрыманы ім зноў-такі з так званых „сярэдніх гаспадарак“, і ўсё гэта раіць, як падставу для экономічнае палітыкі савецкае ўлады.

Зразумела, што працы, пабудаваныя на такой яўна шкодніцкай мэтодолёгіі, „старэлі“, яшчэ ня будучы скончанымі, і таму зьяўляліся толькі балястам і тормазам у соцыялістычным будаўніцтве — шкодзілі, а не дапамагалі апошняму. Цікавым прыкладам у гэтых адносінах могуць быць два моманты, якія даволі выразна характарызуюць якасьць гэтых прац. Першае. Гэта тая пэрспэктыва, якая вызначалася імі для Палесься і зьмяшчалася ў тым, што яно „ вядома сваімі антысанітарнымі і антыгігіенічнымі ўмовамі, сваёю спэцыфічнаю хваробаю — каўтуном і бесканечнымі трасцамі, што ня можа ня ўплываць у будучым на адмоўнае разьвіцьцё гэтага раёну“ (Н. К. Ярашэвіч. С.-х. районы..., стар. 6).

Няхай гэтыя прыхвасьні капіталістычнага разьвіцьця паглядзяць на бязжаласны над імі глум жыцьця, які ажыцьцяўляецца пераможным соцыялістычным будаўніцтвам па асушэньню балот Палесься, па будаўніцтву на іх саўгасаў і колгасаў, гэтых фабрык тэхнічных культур, мяса, сала і малочных продуктаў. Няхай яны паглядзяць назад, як усьлед за імі ў кошык гісторыі ляцяць каўтун і трасца з квітнеючых прастораў соцыялістычнага будаўніцтва.

Другое. Гэта пытаньне аб межах раёнаў і адміністрацыйных адзінках раёнаваньня. Усе буржуа ў раёнаваньні, а ў тым ліку і іх беларускія пабрацімы, лічылі, што тэорытычна пэўных рэальных меж экономічных раёнаў ня існуе, што гэтыя межы зьяўляюцца ўмоўнымі і атрымліваюцца наогул пастолькі, паколькі матар'ялы, на якіх грунтуецца раёнаваньне, прыстасаваны да пэўных тэрыторыяльна акрэсьленых адміністрацыйных адзінак — валасьцей, паветаў і г. д. Пры гэтым само раёнаваньне прыстасоўвалася абавязкова да пэўнае ад-



міністрацыйнае адзінкі, якою ў разгляданых працах зьяўлялася воласьць.

Зразумела, паколькі раёнаваньне атрымоўвалася выключна ў выніку пэўнага мэханічнага жонглёрства лічбамі („гульнёю ў цыфіркі"), то без адміністрацыйнае адзінкі гэтыя „раёнізатары" абыйсьціся не маглі. Гэтая-ж адміністрацыйная адзінка дапамагала ім выйсьці і з мэтодолёгічнага тупіку адносна меж раёну, у якім (тупіку) яны знаходзіліся, дзякуючы сваёй бяспомачнасьці ня толькі ў вызначэньні рэальнае пэрспэктывы спэцыялізацыі раёну ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва (чаго яны рабіць і не жадалі), але і ў рэальным вызначэньні існуючае яго спэцыялізацыі.

Якраз соцыялістычнае будаўніцтва дае поўную і тэорытычную, і практычную магчымасьць і неабходнасьць вызначыць рэальныя межы спэцыялізацыі раёну.

Пры гэтым, вызначэньне меж раёну патрабуе зусім ня лічыцца з існуючым, часамі зусім штучным адміністрацыйным падзелам тэрыторыі, паколькі экономічнае раёнаваньне павінна зьяўляцца базай для адміністрацыйнага, а не наадварот.

Кулацкі прышчэпаўскі пэрспэктыўны плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі быў пабудаваны на раёнаваньні, якое было „прапанавана і прынята ў якасьці орыентыровачнага ў сваіх .працах аддзелам с.-г. экономіі зямпляну НКЗБ" (Перспективный план., стар. 52), г. ё. „прапанаваны і прыняты" тым-жа А. Смолічам і ня менш вядомым нацдэмам Я. Кісьляковым ды інш. кандрацьцеўцамі, якія ў той час арудвалі ў НКЗБ. Па гэтаму раёнаваньню БССР падзялялася на 4 сельска-гаспадарчыя раёны: Меншчына, Палесьсе, Магілеўшчына і Віцебшчына. У *Меншчыну* ўваходзілі тагочасныя акругі — Менская, Слуцкая, Барысаўская; у *Палесьсе*—Мазырская і Бабруйская; у *Магілеўшчыну* — Магілеўская, Аршанская і Калінінская; у *Віцебшчыну* — Віцебская і Полацкая. Характарыстыка гэтых раёнаў была пабудавана на тэй-жа чэлнцаўскай эволюцыйнай шкале розных стадый інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі БССР, а вызначэньне самых раёнаў носіць характар чыстае інтуіцыі па вызначэньню існуючае спэцыялізацыі, без якога-б та ні было ўгрунтаваньня і без наданьня пэўных дырэктыў па спэцыялізацыі ў пэрспэктыве. Пры гэтым характарыстыка раёнаў па шкале розных стадый эволюцыі фактычна выключала спэцыялізацыю ў сапраўдным разуменьні гэтага слова. Бо констатацыя існуючага (ня кажучы ўжо аб яе нерэальнасьці наогул на аснове іх мэтодолёгіі) з падзелам вызначаных тыпаў па ступені інтэнсыфікацыі нават не зьяўляецца тоесамай разуменьню спэцыялізацыі; у пэўную „стадыю" інтэнсыўнасьці можа папасьці некалькі featured розныродна спэцыялізаваных раёнаў—і наадварот. Зразумела, што такое раёнаваньне не магло задаволіць практыку соцыялістычнага будаўніцтва, а магло толькі шкодзіць ёй.

## VI

Другая праца А. Смоліча па сельска-гаспадарчаму раёнаваньню- „Сельска-гаспадарчыя раёны БССР у 1927-1928 гадох" — па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад першае, але мае, як ён сам кажа, некаторыя „мэтодолёгічныя асаблівасьці". Апошнія зводзяцца да таго, што ў ёй А. Смоліч не шкадуе ні фраз, ні дэмагогіі, каб толькі замаскаваць рэакцыйнасьць свае дробна-буржуазнае мэтодолёгіі.

За рэвэрансамі перад соцыялістычным сэктарам сельскае гаспадаркі перад савецкаю ўладаю, Леніным, Марксам і г. д. А. Смо-

ліч ухітраецца падаць Леніна ды Маркса як нічым не адрозьніваючыхся ад Скварцова, Котава, Студэнцкага; Плеханава робіць падобным Брынкману, а савецкую экономічную політыку, як такую, пад уплывам якой хоць і „растуць вытворчыя сілы ўсіх раёнаў—і прогрэсыйных і адсталых, прычым апошніх, наогул кажучы, нават шыбчэй, *але ўсё-ж суадносіны паміж раёнамі, іх параўнаўчая роля і кірунак спэцыялізацыі звычайна захоўваюцца*“ (стар. 32, Падкрэсьлена намі — Аўтары).

Згодна Смоліча выходзіць, што „суадносіны“ паміж раёнамі „ўсё-ж захоўваюцца“ старыя, г. ё. заснаваныя на прынцыпах колёніяльнае політыкі царскага ладу. Гэта ўжо, як бачым, чысьцейшая догма і беларускага нацыянал-дэмократызму аб нацыянальным уціску „беларусоў“ і пасьля Кастрычніка контррэволюцыйная догма, упрыгожаная і замаскаваная паказнаю „рэволюцыі і жыцьцю“ фраз і рознымі рэвэрансамі.

Разам з гэтым падаецца і другі, на першы погляд нявінны, а па сутнасьці контррэволюцыйны букецік нацдэмаўскае мудрасьці. „Могуць уплываць,—кажа А. Смоліч,—на характар сельска-гаспадарчага ляндшафту і такія чыста політычныя прычыны, як правядзеньне дзяржаўных граніц. Так, заходняя дзяржаўная мяжа (з Польшчай—А-ры), адрэзаўшы шэраг раёнаў БССР ад бліжэйшых чыгуначных станцый (якія засталіся ў Польшчы Аўтары), з якімі гэтыя раёны ўвесь час былі зьвязаны (напр., Капыльскі з ст. Замір‘ем, Бягомльскі з Парфіянавым і г. д), відавочна затрымоўвае экономічнае разьвіцьцё гэтых раёнаў“ (стар. 32).

Як бачым, згодна нацдэма А. Смоліча, пэрспэктыва разьвіцьця гэтых раёнаў не ў соцыялістычным будаўніцтве, якое адбываецца ў БССР, а ў далучэньні да чыгуначных станцый, з якімі яны былі раней зьвязаны, гэта значыць да мілай нацдэму фашыстаўскай Польшчы. Комэнтары лішнія. Такі характар „мэтодолёгічных асаблівасьцяй“ гэтае працы А. Смоліча. Ува ўсім астатнім яна падобна да першае.

Па-старому-ж у ёй раёнаваньне робіцца абасоблена сельска-гаспадарчае і пры гэтым лічыцца, што зробленае ім раёнаваньне „разам з падлікам энэргетычных і сыравінных рэсурсаў дазволіла-б устанавіць пэрспэктывы спэцыялізацыі ўсяе народнае гаспадаркі раёну“ (стар. 11). Гэта азначае, што сельскай гаспадарцы надаецца вядучы характар перад другімі галінамі народнае гаспадаркі. Баючыся крытыкі, А. Смоліч з аднаго боку завярае, што яго праца толькі папярэдні матар‘ял да раёнаваньня, які ўжо траціць шмат свае ўчорашняе актуальнасьці, бо яна дае „разгляд экономічных формацый мінулага“ (прадмова), а з другога боку заяўляе, што яна мае „характар ня толькі дыскусыйнае схэмы раёнаў, але і некаторага чарнавога проекту, які карысна будзе ў далейшым мець на ўвазе пры пастаноўцы ўсіх іншых прац па раёнаваньню“ (стар. 11). Усё гэта сьведчыць аб двурушніцтве А. Смоліча, а ні ў якім разе не аб зьмене яго ранейшых рэакцыйных мэтодолёгічных позыцый.

Па-ранейшаму ў гэтай працы А. Смоліч лічыць буржуазную мэтодолёгію ў раёнаваньні „самай популярнай“, ад ужываньня якой атрымаліся „ўсе найбольш каштоўныя вынікі“ ў раёнаваньні, і падае, як прыклад, Нікіціна, Котава ды інш. (стар. 5), адзначыўшы, што ў разглядванай працы для яго „важна ня толькі даць клясыфікацыю сучасных гаспадарчых тыпаў і сетку раёнаў, але зразумець і вытлумачыць іх паходжаньне, дынаміку разьвіцьця і магчымыя пэрспэктывы“ (стар. 9). А. Смоліч ахвотна далучаецца да Н. Баранскага ў яго

няверным супроцьстаўленьні географічнага падзелу працы тэхніцы (гл. Н. Баранский—Курс экономической географии) і да шкодніка С. В. Берштэйн-Когана ў тым, што „задача плянавай гаспадаркі менавіта тым, каб удакладніць і рацыяналізаваць гэты географічны падзел працы, які дагэтуль складаўся стыхійна“ (стар. 2).

Усё гэта знаёмая песьня аб „прыстасаваньні“, „рацыяналізацыі“ і г. д. (абы толькі не сьвядомае рэволюцыйнае перабудовы) да рэволюцыйнага процэсу ў сельскай гаспадарцы. З гэтае-ж старое песьні аб дапасаваньні пэрспэктыў разьвіцьця да капіталістычнае эволюцыі ў сельскай гаспадарцы вынікае і тая орыентацыя А. Смоліча на дарэволюцыйныя матар'ялы, па якіх вывучаецца ім гэтая эволюцыя. З гэтага-ж вынікаюць і тыя заявы, многазначыцельна папярэджваючыя савецкую ўладу аб тым, што „колектывізацыя будзе залежаць ня толькі ад суб'ектыўных, але і ад пэўных об'ектыўных умоў“ (стар. 27).

Адным словам, не застанаўліваючыся на ўсіх шкодніцкіх выкрутасах А. Смоліча, якія не даюць нічога новага да разгледжанае намі буржуазнае мэтодолёгіі ў раёнаваньні, мы і з паказанага ўправе зрабіць заключэньне, што гэтая яго праца таксама прасякнута скрозь чужою социялістычнаму будаўніцтву мэтодолёгіяй, рэакцыйнай мэтодолёгіяй буржуазнае школы ў раёнаваньні з дадаткам да яе контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму.

## VII

У шчыльнай сувязі з разгледжанымі спробамі раёнаваньня БССР стаіць праца па экономічнаму раёнаваньню, якая праводзілася Дзяржплянам. Перад гэтаю працаю было пастаўлена заданьне — даць экономічнае раёнаваньне БССР з прыстасаваньнем яго да патрэб суцэльнае колектывізацыі. Праца організацыйная, мэтодолёгічная і па падвядзеньню агульных вынікаў концэнтравалася ў Дзяржпляне, а для выкананьня працы прыцягваўся шэраг устаноў, як БАН, БНДІ, тагочаснае ЦСУ, ВСНГ і г. д. Для выкананьня працы быў вызначаны тэрмін I-X-30 г.

Праца ня толькі ня была выканана ў вызначаны тэрмін, але яна, нарэшце, і зусім застыла. Здарылася гэта таму, што гэтая праца з першых-жа дзён папала ў рукі тых-жа шкоднікаў, якія зрабілі ўсё магчымае для таго, каб выкарыстаць яе як сродак у сваёй барацьбе супроць социялістычнага будаўніцтва. Перш за ўсё, для адводу вачэй была створана шырокая „мэтодолёгічная камісія“ з прадстаўнікамі ад розных устаноў, а фактычнае выкананьне працы было перадана такому шкодніку ў плянаваньні, як Бонч-Асмалоўскі. Камісія фактычна бязьдзейнічала і ніякай мэтодолёгіі не распрацоўвала, а ўсё гэта давала шкоднікам магчымасьць, прыкрыўшыся гэтаю камісіяй, як шырмаю, ажыцьцяўляць гэтае раёнаваньне па сваёй рэакцыйнай мэтодолёгіі і ўсялякім спосабам тармазіць вынікі працы. Было выдумана шэраг непатрэбных формуляраў, якія рассылаліся амаль ня ў кожную вёску для запаўненьня, усё гэта зьбіралася, мелася на ўвазе распрацоўваць і г. д., і ўсё гэта адыгрывала, па сутнасьці, адну ролю — затрыманьня выкананьня працы.

Уся праца грунтавалася на „мэтодолёгічных“ меркаваньнях яе непасрэднага кіраўніка і выканаўца Бонч-Асмалоўскага, які меў такую ўстаноўку, каб гэтае раёнаваньне зьмяшчалася „ў разьмеркаваньні тэрыторыі БССР на адзінкі, у якія павінны быць організаваны буйныя аграіндустрыяльныя гаспадаркі. У адносінах кожнай такой

гаспадаркі, апрача яе орыентыровачных межаў і цэнтру, павінны быць намечаны таксама і асноўныя гаспадарчыя рысы і пэрспэктывы іх разьвіцьця“ (Тэзісы Бонч-Асмалоўскага). Пры гэтым, „*парушэньне* пасьлядоўнай (чытай існуючай.—Аўтары) спэцыялізацыі раёну, — піша там-жа Бонч-Асмалоўскі,—і *ўскладненьне* вытворчасьці ў ім *дапушчальна* толькі ў мэтах найбольшага выкарыстаньня натуральных рэсурсаў раёну, у моц *неабходнага сымбіёза* розных галін, правідловай арганізацыі працы і неабходнага *пры даных экономічных умовах самазнабжэньня раёну* ў галіне задавальненьня гаспадарчых і спажывецкіх патрэб“ (падкрэсьлена намі.—Аўтары).

Такое вызначэньне задач экономічнага раёнаваньня, як бачым, зводзіла яго перш за ўсё да таго-ж сельска-гаспадарчага раёнаваньня. Апошняе, абмінаючы запроектаваньне спэцыялізаваных раёнаў на базе агульнае спэцыялізацыі БССР у сыстэме грамадзкага падзелу працы паміж раёнамі СССР, зводзілася непасрэдна да тэрыторыі аднае гаспадаркі (або так званага імі „дробнага раёнаваньня“), спэцыялізацыя якіх вызначалася „спажывецкімі і гаспадарчымі“ патрэбамі гэтага-ж раёну, інтарэсамі яго „самаснабжэньня“. Толькі ў гэтых інтарэсах дапускалася „парушэньне“ існуючае спэцыялізацыі. Усё гэта, як бачым, знаёмыя напевы з лягеру буржуа-шкоднікаў у раёнаваньні, хіба толькі з тою асаблівасьцю, што тут зроблены моцны націск на ізаляванасьць і натуралізацыю раёнаў з запатрабаваньнем яўнага падначальваньня гэтай натуралізацыі нават наяўных „эволюцыйных“ момантаў спэцыялізацыі.

Рэакцыйнасьць гаспадарчае ізоляванасьці раёнаў, якая праводзілася Бонч-Асмалоўскім, яскрава выяўляецца у супроцьстаўленьні яе наступнай вытрымцы з дакладу т. Сталіна на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б):

„Перад намі, — кажа т. Сталін, — стаяць, такім чынам, наступныя проблемы сельскае гаспадаркі:

1) Проблема замацаваньня становішча тэхнічных культур *шляхам забесьпячэньня адпаведным раёнам дастатковае колькасьці танных хлебных продуктаў;*

2) Проблема падняцьця жывёлаводзтва і вырашэньня мяснога пытаньня *шляхам забесьпячэньня адпаведным раёнам дастатковае колькасьці танных збожжавых продуктаў і кармоў;*

3) Проблема канчатковага вырашэньня пытаньня аб зярнёвай гаспадарцы, як галоўнага пытаньня сельскай гаспадаркі ў даны момант“ (падкрэсьлена намі — Аўтары).

Яскрава падкрэсьлены тав. Сталіным прынцып паміжраённае сувязі, якая асабліва патрэбна пры спэцыялізацыі, падмяняўся ў раёнаваньні Бонч-Асмалоўскага на рэакцыйны прынцып гаспадарчае ізоляванасьці (чым фактычна здымалася спэцыялізацыя) ня толькі ў межах рэспублікі (нацыянальная абмежаванасьць), але ў межах паасобных раёнаў *і нават гаспадарак (прыватнакапіталістычная абмежаванасьць).*

Калі дадаць яшчэ да гэтага тое, што папярэдняе запроектаваньне, а затым і канчатковае зацьверджаньне такіх раёнаў было перадана ў акругі (зразумела, пад кіраўніцтвам Бонч-Асмалоўскага), то атрымаецца зусім выразны малюнак, які зводзіцца да таго, што:

1) Раёнаваньне было мэтодолёгічна пазбаўлена ўсякае неабходнасьці лічыцца з плянавым заданьнем ня толькі ў межах СССР, але нават і ў межах БССР.

2) Зьняцьцё проблемы спэцыялізацыі было мэтодолёгічна абумоўлена наперад, а аформіць гэтую справу належала самім нізом.

3) У выніку ўсяе працы стаяла пэрспэктыва атрыманьня не спэцыялізацыі соцыялістычнае гаспадаркі, а крыху папраўленае васпраізводзтва „ласкутнасьці" існуючае гаспадаркі. Цікава, што, дзякуючы сьвядома складзенай сыстэме організацыі выкананьня самой работы, сапраўдныя організатары падобнае шкоднае справы аказваліся ў становішчы „наша хата з краю".

Разам з гэтым цікава адзначыць шкодніцкія меркаваньні Бонч-Асмалоўскага на тэму: як спрыяюць прыродныя ўмовы (глеба, рэльеф і г. д.) організацыі колгасаў. Так, ён лічыць, што: а) „найбольш спрыяючымі для організацыі комбінатаў неабходна прызнаць наступныя глебы: суглінкі лёсавыя і лёсавідныя, супесі і нават зьвязныя пяскі"; б) „для агракомбінатаў (а не аграіндустрыяльных комбінатаў—Аўтары) могуць падыходзіць землі з максымальнымі схіламі да №". в) „частая перападзістасьць ужыткаў таксама зьяўляецца перашкодай для організацыі буйных мэханізаваных гаспадарак" і інш. у гэтым родзе „халтура", але „халтура", якая імкнецца давесьці як мага больш „об'ектыўных" і нават „прыродных" умоў, „перашкаджаючых" магчымасьці колектывізацыі наогул. Таму зусім ня дзіва, што Бонч-Асмалоўкі ў сваіх тэзісах дакладу Зямпляну НКЗБ ад 19 красавіка 1930 г. раіў такія „чатыры асноўныя спэцыялізацыі раёнаў БССР": 1. льняна-малочную, 2. бульбяна-жывёлаводную, *3. Тарфяна-балотную, 4. Лясную"* (падкрэсьлена намі — Аўтары).

Такая мэтодолёгічная сыстэма шкодніцкага выкананьня працы па экономічнаму раёнаваньню БССР. Але такая „спэцыялізацыя" ня была зацьверджана ўрадавымі органамі і сама праца ня была ажыцьцёўлена.

## VIII

Такім чынам, мы разгледзелі ўсе спробы раёнаваньня БССР. Адзінае заключэньне, якое магчыма вывесьці з гэтага разгляду, зводзіцца да таго, што ўсе працы ў гэтым напрамку зьяўляліся шкоднымі для соцыялістычнага будаўніцтва. Яны ня ўзбройвалі практыкі соцыялістычнага будаўніцтва і не будаваліся на ўліку запатрабаваньняў апошняга, а вялі-б да капіталістычнае рэстаўрацыі ў краіне, бо будаваліся на буржуазнай мэтодолёгіі і сваімі вынікамі затрымоўвалі соцыялістычнае будаўніцтва.

Адным з цікавых прыкладаў ведамсьцьвенага рэагаваньня на такое недапушчальнае становішча ў „тэорыі" раёнаваньня на БССР зьяўляецца раёнаваньне сельскае гаспадаркі БССР, якое было зроблена ў самым апараце НКЗБ пад назваю „орыентыровачнае разьмеркаваньне раёнаў па асноўных галінах сельскай гаспадаркі".

Як бачым, згодна гэтага раёнаваньня, было ўстаноўлена тры тыпы спэцыялізаваных раёнаў сельскае гаспадаркі БССР: 1) льняна-канапляны, 2) жывёлагадоўчы, 3) садова-гародны і садова-малочны. Праз некаторы час у гэтае раёнаваньне былі ўнесены НКЗБ наступныя зьмены: 1) Назва „льняна-канаплянага" раёну была зьменена на „льняна-малочны" з перанясеньнем канапель у раёны Хоцімскі, Касьцюковіцкі, Краснапольскі, Кармянскі; 2) да „садова-гароднае" і „садова-малочнае" спэцыялізацыі былі дадзены яшчэ раёны Аршанскі, Лупалаўскі і Бабруйскі.

Апрача гэтых зьмен, якія былі зроблены ў самым НКЗБ, апошні даручыў правесьці больш сталую працу па сельска-гаспадарчаму раёнаваньню НДІ соц. рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Наколькі ўдала будзе ажыцьцёўлена гэтая праца, зараз меркаваць цяжка. У маючымся-ж „орыентыровачным" раёнаваньні НКЗБ магчыма паказаць на наступныя галоўныя недарэчнасьці.

Перш за ўсё, мы павінны адзначыць, недапушчальнасьць наогул такога становішча, калі спэцыялізацыя раёнаў калейдоскопічна зьмяняецца, бо ўсякая падобная зьмена, паміма таго, што яна зьвязана дэзэорыентацыяй плянаваньня, наносіць вялікія матар'яльныя страты соцыялістычнаму будаўніцтву на марнатраўстве спэцыялізаванага капітальнага ўкладаньня, як пабудова заводаў, набыцьцё розных сельска-гаспадарчых прылад, набыцьцё пэўнага організацыйнага ўпарадкаваньня і г. д. Усё гэта прымушае да наданьня большае грунтоўнасьці масавасьці ў працы па раёнаваньню, чым, на-жаль, разглядванае раёнаваньне НКЗБ ня можа пахваліцца. Апрача таго, гэтае раёнаваньне, зьявіўшыся, як мы ўжо зазначалі раней, як вымушанае ведамсьцьвенае рэагаваньне на бязьдзейнасьць ці, больш таго, на шкодную дзейнасьць „тэорыі" ў гэтым напрамку, само, з аднаго боку, не змагло поўнасьцю вызваліцца ад таго асноўнага мэтодолёгічнага недахопу ў раёнаваньні, які зводзіцца да абасабленьня раёнаваньня сельскае гаспадаркі ад прамысловасьці, як вядучае галіны народнае гаспадаркі, а з другога боку, у сэнсе спэцыялізацыі дайшла да моногалінных назваў раёнаў („жывёлаводны", "льняна-канапляны"). Калі пэршы момант мэтодолёгічна абумоўлівае недахопы раёнаваньня, то другі дэзэорыентуе практыку ў вызначэньні галін, культур, відаў жывёлы і інш. Нарэшце, трэба зазначыць, што такія, прыродныя моманты, як, напрыклад, вялікія прасторы балот на БССР, неяк зусім зьніклі ў гэтым раёнаваньні. Пры сельска-гаспадарчым раёнаваньні ў Акадэміі с-г. навук СССР улічылі, што на нашых асушаных і асушаемых балотах зможа добра расьці такая сыравінная для прамысловасьці расьліна, як каноплі, у данымжа раёнаваньні гэтага не заўважана, а гэтую культуру чамусьці ганяюць з поўначы на паўднёвы ўсход. Зразумела, што ўсе гэтыя моманты не маглі не завастрыць увагі на неабходнасьці больш грунтоўнае распрацоўкі пытаньня аб раёнаваньні сельскае гаспадаркі, як часткі ўсяе народнае гаспадаркі БССР.

## Вынікі.

Плянавае соцыялістычнае будаўніцтва народнае гаспадаркі БССР вымагае экономічнага раёнаваньня, як аднае з сваіх асноўных перадпасылачных умоў. Гэтае-ж будаўніцтва дае поўную магчымасьць рэальна ажыцьцявіць само раёнаваньне, як падставу плянавага падзелу грамадзкае працы ў прасторы.

Становішча працы па экономічнаму раёнаваньню БССР зьяўляецца неадпавядаючым запатрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва ні з боку колькаснага, ні з боку якаснага разгортаньня гэтае працы. Усё гэта вымагае концэнтрацыі ўвагі ўсіх ведамсьцьвеных і навукова-дасьледчых устаноў на гэтым пытаньні, каб праз належную сконцэнтраванасьць сіл у максымальна кароткі час выканаць гэтую працу.

Усякае спэцыяльнае раёнаваньне можа быць адпавядаючым тады, калі яно будуецца на базе агульна-экономічнага раёнаваньня народна-

гаспадарчае дзейнасьці па социялістычнаму будаўніцтву, калі яно зьяўляецца органічна (а не мэханічна) складанай часткай усяе народнае гаспадаркі,—вынікае з яе ў парадку ўзаемасувязі і падначаленасьц паасобных галін. Гэта—асноўнае мэтодолёгічнае правіла, якое павінна быць прад'яўлена да кожнага раёнаваньня.

Абасобленае і кустарнае правядзеньне раёнаваньня той або іншай галіны народнае гаспадаркі павінна быць вынішчана і заменена організаваным, адзіным экономічным раёнаваньнем у парадку вядучасьці галін народнае гаспадаркі. Пры гэтым, раёнаваньне павінна адбіваць сабою, у першую чаргу, якасную характарыстыку дзейсьцьвенай пэрспэктывы падзелу грамадзкае працы ў прасторы, яно павінна даць прасторавы фон, на якім будзе малявацца колькасная плянавая пэрспэктыва социялістычнага будаўніцтва.

Сплянаванае выкананьне самога экономічнага раёнаваньня, на наш погляд, павінна адбывацца ў такім парадку.

Перш за ўсё, павінна быць надана дакладная (зразумела, па меры стану нашых сучасных ведаў) ацэнка нашай прыроднай аснове разьвіцьця вытворчых сіл у аспэкце вытворчых адносін социялістычнага будаўніцтва.

Разам з выяўленьнем нашых прыродных багацьцяў і потэнцыяльных магчымасьцяй у іх выкарыстаньні павінна быць дакладна вызначана месца БССР у сыстэме прасторавага падзелу грамадзкае працы паміж раёнамі СССР, каб тым самым пазбавіцца магчымага ў даным выпадку шкоднага загібу гаспадарчае абмежаванасьці рамкамі рэспублікі, што вядзе, нарэшце, нямінуча да унівэрсалізму, натуралізацыі і іншых момантаў, якія несумяшчальны з рацыянальным плянавым падзелам грамадзкае працы ў социялістычным будаўніцтве і зьяўляюцца тормазам разьвіцьця вытворчых сіл.

Наступным этапам працы па экономічнаму раёнаваньню БССР будзе зьяўляцца выяўленьне энэргетычных рэсурсаў нашае краіны і вызначэньне прасторавага іх выкарыстаньня. Непасрэдна-ж вынікаючым з гэтага моманту і на яго аснове зьяўляецца раёнаваньне прамысловасьці. Сюды ўваходзіць як праца па дакладнаму ўсьвядомленьню і ацэнцы, на базе папярэдніх момантаў існуючых галін, відаў і іх разьмяшчэньне, так і прасторавае запроектаваньне пэўных відаў прамысловасьці ў пэрспэктыве.

Раёны прамысловасьці вызначаюць сабою пэўныя запатрабаваньні да сельскае гаспадаркі, якія (запатрабаваньні), разам з прыродна-гістарычнымі ўмовамі, вызначаць адпаведнае раёнаваньне сельскае гаспадаркі. У шчыльнай сувязі з апошнім вырашаецца пытаньне аб характары выкарыстаньня лясоў і водных багацьцяў.

Такім чынам, атрымоўваюцца спэцыялізаваныя раёны социялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі БССР наогул і ў органічнай сувязі з імі спэцыяльныя раёны паасобных галін. Дакладны ўлік характару сувязі паміж экономічнымі раёнамі дае падставу для раёнаваньня транспорту як з боку колькасьці і напрамку магістраляй, так і з боку іх характару. Уся-ж гэтая праца дае магчымасьць злучыць, нарэшце, адміністрацыйнае раёнаваньне з экономічным, дапасаваўшы першае да другога, што мае вялізарнае значэньне ў социялістычным будаўніцтве.

Такая агульнамэтодолёгічная схэма экономічнага раёнаваньня БССР. Распрацоўка-ж яе дэталяй дасьць падрабязную мэтодолёгічную

схэму наогул і ў дапасаваньні да паасобных галін народнае гаспадаркі, у прыватнасьці.

Пры ўсім гэтым творчая дзейнасьць у галіне мэтодолёгіі, а адсюль і ў рэальным ажыцьцяўленьні экономічнага раёнаваньня, павінна знаходзіцца ў самай шчыльнай залежнасьці ад шырокага ўдзелу мас, абгаварэньня і пролетарскае крытыкі гэтае работы. У выніку гэтага абгаварэньня, крытыкі і самакрытыкі наша работа „кожны дзень, у кожнай майстэрні, у кожнай воласьці будзе паляпшацца, распрацоўвацца, удакладняцца і відазьмяняцца“ (Ленін).

В. Скардзіс і З. Бобрык.

# Гісторыя Беларусі ў сьвятле поглядаў Любаўскага.

Рускую імпэрыю, як вядома, празывалі „турмою народаў". Зусім бясспрэчна, што гэты эпітэт як нельга лепш характарызуе палітыку нацыянальнага прыгнечаньня, якая рускім самадзяржаўем праводзілася ў адносінах да шматлікіх народаў, засяляўшых вялізарныя імпэрскія абшары. „Мы знаем теперь,—піша М. Н. Пакроўскі ў адным з сваіх апошніх артыкулаў, — что этого названия заслуживало не только государство Романовых, но и его предшественница, вотчина потомков Калиты. Уже Московское великое княжество—не только Московское царство—было „тюрмою народов" [1]).

Буржуазная гісторыографія, высьвятляўшая факты рускага гістарычнага працэсу, затушоўвала ня толькі клясавую існасьць дзяржавы, але і палітыку нацыянальнага ўціску. Яна атручвала сьвядомасьць працоўных мас хлусьлівымі апавяданьнямі аб магутнасьці дзяржавы, аб „благотворном" для народных мас царызьме, аб неабходнасьці яднаньня народаў імпэрыі навокала адзінай улады. Адным з важнейшых сродкаў, якім буржуазія стараецца трымаць у паслухмянасьці працоўных, праз які яна ўплывае на працоўных, гэта — высоўваньне ідэі аб тым, што ўсе людзі данай краіны маюць адзіныя інтарэсы. З другога боку, нацыянальны ўціск шматмільённых мас нярускіх народнасьцяй, і ў першую чаргу сялянскіх мас, неабходна аднесьці да асноўных устояў самадзяржаўнага ладу, на якіх ён трымаўся. Дзяржаўны апарат працаваў у гэтым напрамку даволі чотка і бесьперабойна, ужываючы самыя рознастайныя мэтоды: народныя масы заставаліся без асьветы, скарыстоўваліся нацыянальныя, бытавыя і рэлігійныя адрозьненьні і асаблівасьці, адны нацыі нацкоўваліся на другія, практыкай пагромаў, організоўваных ахранкай і жандармэрыяй, трымалася „роўнавага" ў краіне.

Буржуазная навука, у тым ліку і гісторыя, была кінута на службу самадзяржаўнаму ладу, абапіраўшамуся на блёк памешчыкаў і буржуазіі. Ёй была пастаўлена задача — „навукова" абгрунтаваць прынцыповыя доктрыны і дзяржаўную практыку існаваўшага грамадзка-палітычнага ладу: „няўхільнасьць" экономічнай няроўнасьці людзей, адзінства інтарэсаў усіх грамадзкіх станаў і кляс. І ня толькі гэта. Навуцы ўмянялася ў абавязак пераканаць шырокія народныя масы, што „так было, так будет".

---

[1]) Историк-марксист, т. 18-19, 1930 г., стар. 28.

Буржуазная гісторыяграфія прыпадносіла факты гістарычнага мінулага краіны ў падтасаваным выглядзе, каб абмануць масы. Гісторыя зьяўлялася навукай, якая давала дзяржаўнай бюрократыі „патрэбныя“ веды і кіраўніцтва ў яе практычнай дзейнасьці.

Гэта з усёй відавочнасьцю паказвае на тое, што „об‘ектыўнай“ навукі, аб якой буржуазія любіць гаварыць, ніколі ня было. Пэўная політычная програма заўсёды праглядае ў гістарычных работах, высьвятляючых ня толькі сучаснасьць, але і самыя далёкія эпохі мінулага. Політычныя погляды буржуазных вучоных, сугучныя з дзяржаўна-нацыяналістычнай ідэолёгіяй, абумаўлялі сабой зьмест і напрамак іх навуковай творчасьці. Работа унівэрсытэцкіх катэдраў рускай гісторыі была цалкам падпарадкавана інтарэсам пануючых кляс і у першую чаргу інтарэсам рускага буржуа, рускага памешчыка.

Найбольш характэрнай рысай буржуазнай гісторыяграфіі дарэволюцыйнай Расіі быў нацыяналізм, зьвязаны з ідэяй рускай дзяржаўнасьці. „Домарксистские историки, — кажа М. Н. Пакроўскі, — профессора университетов знали только историю „государства Российского“, по большей части скромно отводя взоры от его пестрого национального состава. Изучалась исто ,ия „русских“ учреждений и „русских“ законов, — историей „русских“ завоеваний занимались преимущественно не университетские профессорара военные генералы. Что делали народные массы, даже чисто великорусские, об этом почти не говорилось с университетской кафедры. Об этом писали „неблагонадежные“ историки, вроде Костомарова, Щапова или Василия Семевского, которых с кафедры прогоняли или на кафедру не пускали. Народные массы официальными историками систематически изображались не как суб‘ект, а как об‘ект действия: не они делали, а с ними что-то делали“ [1]). Руская буржуазная гісторыяграфія не вывучала і ня цікавілася нацыянальным пытаньнем, не высьвятляла сапраўднай гісторыі народаў, уваходзіўшых у склад б. імпэрыі. Гэта было не выпадкова.

Для рускага буржуазнага гісторыка існавала толькі выключна гісторыя вялікай Расіі, гісторыя рускай дзяржавы. Ідэя дзяржавы (зразумела, буржуазнай дзяржавы), як вечнай катэгорыі, у разьвіцьці якой праяўляецца і ажыцьцяўляецца „гістарычны лёс народу“, была дэміургам, прыкоўваўшым увагу гісторыка, галоўным об‘ектам яго дасьледваньня. Усе асноўныя проблемы ў гісторыяграфіі ставіліся і вырашаліся з пункту гледжаньня дзяржаўнасьці, г. зн. з пункту гледжаньня інтарэсаў рускіх капіталістых і памешчыкаў.

Пасьля С. М. Салаўёва нацыянальна-шовіністычны сьцяг у рускай буржуазнай гістарычнай навуцы вельмі высока быў узьняты В. О. Ключэўскім. Ён у сваёй творчасьці зьяўляўся гісторыкам не народаў Расіі, а гісторыкам Вялікаросіі. На ўсім працягу сваёй вучонай дзейнасьці нацыянальнае пытаньне яго ня цікавіла. Ён займаўся дасьледваньнем працэсу ахопу вялікарускім племенем усёй усходня-эўропейскай раўніны і стварэньня тут цэнтралізаванай дзяржавы. Адмаўленьне нацыянальнага пытаньня зьяўляецца ў яго нічым іншым, як няпрыкрытым шовінізмам, абслугоўваньнем вялікадзяржаўных тэндэнцый буржуазіі. Сваім глыбокім вялікарускім нацыяналізмам, прымаўшым самы агідны шовіністычны характар, Ключэўскі ўмацаваў нацыяналістычную школу ў гісторыі.

Буржуазныя вучоныя паслякастрычнікаўскага пэрыяду, якім з боку партыі і савецкай улады было даверана працягваць і надалей навукова-дасьледчую працу, скарысталі гэтае давер‘е для таго, каб

[1]) Историк-марксист, т. 17, 1930 г., стар. 19.

у сваіх працах, як і раней, праводзіць варожую пролетарыяту буржуазна-нацыяналістычную ідэолёгію. Гэта, прынамсі, можна сьцьвярджаць адносна пераважнай большасьці буржуазных гісторыкаў. Працуючы ў савецкіх краінах, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, яны абярнуліся ў небясьпечных шкоднікаў на ідэолёгічным фронце. Іначай мы іх кваліфікаваць ня можам. Яны абсолютна нічым не адрозьніваюцца ад сваіх сабратаў—шкоднікаў гаспадарчага будаўніцтва. Марксыцка-ленінскае вучэньне, як рэволюцыйная ідэолёгія, змагаючаяся за соцыялізм пролетарыяту, аказалася для іх няпрыемлемым і чужым.

Карэньні вялікарускага шовінізму глыбока ўрасьлі ў зьмест буржуазнай гісторыографіі. Гісторыкі Бахрушын, Платонаў, Маркевіч і інш. да самых апошніх часоў працягвалі распрацоўку пытаньняў рускай гісторыі ў сьвятле ідэолёгічных і мэтодолёгічных установак буржуазнай нацыяналістычнай школы. Да іх належыць і проф. М. К. Любаўскі. Ён, нават, у сваёй апошняй працы „Образование основной государственной территории великорусской народности“, выдадзенай Акадэміяй Навух СССР у 1929 г., у якой ён скарыстоўвае, паводле яго выразу, усе „данные, относящиеся к истории заселения коренной Великороссии до XVI века“, выразна праводзіць нацыяналістычныя погляды, застаецца вялікадзяржаўным гісторыкам. Ён у названай працы цікавіцца вялікарускай народнасьцю, Маскоўскай дзяржавай. Не аналізуючы гаспадарчых процэсаў і ўплываў гэтых процэсаў на грамадзкае жыцьцё, на організацыю дзяржавы, змазваючы барацьбу грамадзкіх кляс, ён стаіць на грунце абароны інтарэсаў вялікарускага племені ад „уціску“ з боку туземных насельнікаў, землі якіх экспропрыяваліся і колёнізаваліся дружынамі князёў-фэўдалаў. Пры такім падыходзе да вывучэньня гістарычнага процэсу Любаўскі, натуральна, лічыць, што асноўным фактарам узвышэньня Масквы і ўзьнікненьня Маскоўскай дзяржавы зьяўлялася нацыянальная сьвядомасьць народу, нацыянальная ідэя выступае ў якасьці асноўнага стрыжакя гістарычнага процэсу.

Любаўскага, як і другіх буржуазных гісторыкаў, нічому не навучыла пролетарская рэволюцыя. Ён не „заўважыў“, што ў пасьпяховым ходзе соцыялістычнага будаўніцтва ўжо праароблена пераацэнка капіталістычнай спадчыны, у тым ліку і культурных каштоўнасьцяй; ён быў упэўнены, што рэволюцыя толькі руйнуе, і ня „прыкмеціў“ таго „дробнага“ факту, як рэволюцыя, на грунце соцыялістычнай экономікі, ужо заснавала моцны падмурак пролетарскай культуры і навукі.

Пролетарская навука, узброеная рэволюцыйнай мэтодолёгіяй марксызму-ленінізму, ужо пасьпела заваяваць цьвёрдыя позыцыі ўва ўсіх без выключэньня галінах ведаў. Яна праводзіць рашучае змаганьне з буржуазнай ідэалістычнай концэпцыяй і мэтодолёгіяй і ў галіне вывучэньня гістарычных процэсаў і мае ў гэтым напрамку значныя дасягненьні. Цяпер гісторыкамі-марксыстымі Савецкага Саюзу ўжо практычна вырашаецца проблема дасьледваньня гісторыі, як гісторыі народаў СССР, і гэтая проблема, бязумоўна, будзе вырашана.

Любаўскі цалкам і поўнасьцю належыць да плыні гісторыкаў-вялікадзяржаўнікаў. Па-перш усяго, ён гісторык Вялікаросіі. „Все, что когда-то попадало в орбиту России, — метка характарызуе Пінткоўскі вялікадзяржаўных гісторыкаў, — по их мнению является достоянием русской истории, и об'ектом русской истории является только Великороссия“ [1]). Зразумела, што вялікадзяржаўныя гісторыкі, вырашаючы ўсе проблемы гістарычнага процэсу з пункту гледжаньня разьвіцьця

[1]) Историк-марксист, т. 17, 1930 г., стар. 22.

рускай дзяржавы, усе нярускія народнасьці залічалі ў „гной“, на якім будавалася гісторыя „абранай“ нацыі.

І калі, пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі, адны з буржуазных гісторыкаў засталіся на непрымірымых позыцыях вялікарасійскага шовінізму, які, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, „адлюстроўвае імкненьне аджываючых кляс панаваўшай раней вялікарускай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“ (Сталін), дык другія з іх, якія апынуліся на працы ў нацыянальных рэспубліках Савецкага Саюзу, ці ўспрыняўшыя буржуазную мэтодолёгію гісторыкі з мясцовых людзей зрабіліся конкрэтнымі носьбітамі і ідэолёгамі контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, які „адлюстроўвае нездавальненьне аджываючых кляс раней прыгнечаных нацый рэжымам дыктатуры пролетарыяту“ (Сталін). Агульнасьць клясавых інтарэсаў, нянавісьць да дыктатуры пролетарыяту, да соцыялістычнага будаўніцтва, выкарчоўваючага рэшткі капіталізму, яднае мясцовы нацыянал - дэмократызм і вялікарасійскі шовінізм у блёк супроць дыктатуры пролетарыяту, за аднаўленьне капіталізму.

У асобе проф. Любаўскага, які да нядаўняга часу быў членам Акадэміі Навук СССР, мы можам наглядаць, як заняты консэрватар-вялікадзяржаўнік, усю сваю навуковую дзейнасьць прысьвеціўшы службе самадзяржаўю (з 1911 г. стаў рэктарам Маскоўскага унівэрсытэту), фактычна не пераставаў яму служыць і ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту і змыкаўся поўным чынам з беларускім контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам.

Мы ня ставім перад сабой задачу—даць *поўны* аналіз гістарычнай концэпцыі Любаўскага. Мы толькі высьветлім асноўныя яго ўстаноўкі на пытаньні гісторыі Беларусі, прычым зьвернем увагу, галоўным чынам, на найбольш цікавячае нас у даны момант нацыянальнае пытаньне ў гісторыі Беларусі.

Як вядома, характэрным для навуковай дзейнасьці Любаўскага зьяўляецца займаемае ім месца ў гісторыографіі так званай Заходняй Расіі. Такім тэрмінам буржуазная гісторыографія называла тэрыторыю Беларусі, Літвы і часткова Украіны, якая ў XIV-XV ст. ўваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, а па пазьнейшай тэрмінолёгіі, у склад Літоўска-Рускай дзяржавы, а затым у канцы XVI сталецьця была інкорпоравана ў склад Рэчы Паспалітай польскай.

Любаўскі, такім чынам, як гісторык Літоўска-Рускай дзяржавы мае непасрэдныя адносіны да гісторыографіі Беларусі. Хаця ня ён першым з рускіх буржуазных гісторыкаў пачаў цікавіцца „историческими судьбами“ заходняй акраіны б. імпэрыі (зрух у гэтым напрамку стаў наглядацца яшчэ з 60-х гг. мінулага стагодзьдзя), але ён далёка пасунуў наперад гэтую справу, скарыстаўшы багатыя архіўныя фонды (Літоўская мэтрыка), і заснаваў цэлую „школу“ дасьледчыкаў. Яму, уласна кажучы, прыпісваецца гонар грунтоўнай распрацоўкі пытаньняў гісторыі Беларусі, стварэньня схэмы гістарычнага процэсу Беларусі. Любаўскі, як гэта ні недарэчна, вядомы грамадзкасьці Савецкай Беларусі, асабліва настаўніцтву і вучнёўскай моладзі, як гісторык Беларусі. Між тым Любаўскі гісторыкам Беларусі нават сам сябе ня лічыў і сапраўды такавым не зьяўляўся. З пачатку і да канца сваёй дзейнасьці ён заставаўся вялікадзяржаўным гісторыкам і вялікарасійскім шовіністым; ён у плеядзе буржуазных рускіх гісторыкаў, практыкаваўшых поўны падзел працы, строга выконваў традыцыі нацыяналістычнай школы, дасьледуючы гісторыю аднэй з акраін імпэрыі; ён, нарэшце,

як ідэолёг буржуазна-памешчыцкай Расіі, шчыра захоўваў заветы „православия, самодержавия і народности“.

Вывучаючы гістарычныя процэсы, якія адбываліся пераважна на тэрыторыі Беларусі, Любаўскі ставіў перад сабой вельмі яскрава акрэсьленую мэту — даказаць усімі сваімі „вучонымі“ сіламі, сродкамі і мажлівасьцямі адсутнасьць гісторыі Беларусі, неіснаваньне беларускай і іншых нацыянальнасьцяй, як такіх, на Беларусі і давесьці, што Беларусь была з даўнейшых часоў непадзельнаю сустаўною часткаю „Руси восточной“, што яна была шчыльна зьвязана з ёю экономічным і політычным жыцьцём і г. д. Адным словам, мэта, пастаўленая Любаўскім, цалкам адпавядала політыцы царскага ўраду ў адносінах да нацыянальных меншасьцяй, насяляўшых былую „вялікую непадзельную“.

Каб ня быць галаслоўнымі наконт такіх мэтаімкненьняў Любаўскага, дадзім яму самому мажлівасьць выказацца: „В настоящее время игнорирование истории Литовской Руси уже не может иметь своего оправдания. В последнее время как в русской, так и в польской литературе появилось немало трудов, проливших свет на внутреннюю историю Литовско-Русского государства, на его политическую и общественную организацию. *Наступило время воспользоваться этими трудами, и Литовскую Русь, уже более столетья об‘единенную с Русью, восточною политически, об‘единить с нею и в научном сознании*“[1]) (падкрэсьлена намі. С. і Б). Такая яго асноўная мэта, зьдзяйсьняць якую яму прышлося па працягу даволі доўгага часу.

Мэта абумовіла і самы зьмест яго навуковай дзейнасьці. Адгэтуль можна судзіць, што сапраўды з сябе прадстаўляе школа Любаўскага.

Падыходзячы да кароценькага аналізу поглядаў Любаўскага на гісторыю Беларусі, спачатку нам патрэбна прасачыць, адкуль узяліся тыя карэньні, з якіх вырасла любаўшчына, а затым і выкласьці асноўныя моманты поглядаў Любаўскага на гістарычны процэс Беларусі, і менавіта, на нацыянальнае быцьцё гэтай краіны. Што прымусіла Любаўскага і яму падобных у такім, а ня іншым сьвятле заняцца вывучэньнем гісторыі Беларусі, — вось пытаньне, на якое мы павінны даць адказ з тым, каб у далейшым, аналізуючы яго погляды, нам лягчэй было-б орыентавацца ў іх сутнасьці.

Пічэта, напрыклад (да-рэчы сказаць, верны пасьлядоўца Любаўскага, а затым і верны саюзьнік беларускіх нацдэмаў), тлумачыць, што „московская школа историков в лице Любавского отказалась от того централизма, который преобладал в направлении ее историографии и стала на путь изучения отдельных составных частей русского государства. Этот сдвиг московской школы весьма знаменателен, как *отражение неудовлетворительности преобладавшим настроением* в московской историографии. С другой стороны, *в научный оборот был пущен новый материал*, который до сих пор почти не был предметом исследования“ [2]) (падкрэсьлена намі. С. і Б). Зварачацца да псыхолёгічных фактараў, як гэта робіць Пічэта, значыць нічога не сказаць аб тэй зацікаўленасьці да гісторыі Беларусі, якая праявілася ў Любаўскага і яго школы, або, з другога боку, тлумачыць гэта пускам у навуковы зварот новага матар‘ялу таксама нельга, бо гэта будзе несапраўдна. Так можа тлумачыць толькі той, хто сваім абавязкам лічыць патрэбным зачыняць вочы на рэальны бок справы.

---

[1]) Проф М. К. Любавский— „Очерк истории Литовско-Русского Государства до Люблинской унии включительно“. Выд. 2-ое. 1915 г., стар. 4.

[2]) Проф. В. И. Пичета — „Введение в русскую историю“. ГИЗ, 1923 г., стар. 187.

Што гэта быў за час (80-90 гг. XIX ст.), у які зрабіўся зрух маскоўскай гістарычнай школы ў бок зацікаўленасьці да „окраин“? Гэта быў час магутнага роськвіту рускага прамысловага капіталізму, пашырэньне яго экспансіі на „окраины“ Расіі, у тым ліку і на Беларусь, Украіну і Літву. Адначасова з гэтым расьлі і ўзмацняліся вялікадзяржаўныя тэндэнцыі ў ідэолёгіі рускага капіталіста, рускага буржуа.

На тэрыторыю Беларусі, якую рускі прамысловы капіталізм разглядаў, як колёнію для збыту сваіх тавараў (ён ня быў зацікаўлены ў насаджэньні тут прамысловасьці), дзе мясцовая прамысловасьць пусьціла яшчэ слабыя карэньні, прэтэндаваў у тых-жа самых мэтах і польскі прамысловы капіталізм. Паміж конкурэнтамі адбываецца пэўная барацьба. Гэтая барацьба не магла не праявіцца ў ідэолёгічных зрухах, у нацыяналістычных тэндэнцыях рускай і польскай буржуазіі. Напрыклад, у польскай, мастацкай літаратуры і публіцыстыцы (Сянкевіч, Гурскі — у Польшчы Оржэшко — на Літве і Беларусі) востра ставіцца і праводзіцца думка аб былой вялікай Польшчы, аб польскіх правох на Беларусь, Літву і Украіну, аб прызначэньні і гістарычнай ролі польскай нацыі на „крэсах усходніх“ і г. д. Усё гэта абгрунтоўвалася і навукова. Працы польскіх буржуазных гісторыкаў Чацкага, Ярашэвіча, Нарбута, Даніловіча і іншых падмацоўвалі падваліны гэтай ідэолёгіі. Гэта з аднаго боку.

З другога боку, рускі капіталізм, узброены сілаю рускай дзяржаўнасьці, праводзіў у Беларусі, Літве і Украіне рэальную палітыку, перамагаючы на сваім шляху ўсялякія перашкоды. Русыфікатарская палітыка, распачаўшаяся яшчэ да Мікалая І-га, успрыняўшая практыку Мураўёва, паставіла перад сабой неадкладную задачу *нівэліраваць* гэты край, зрабіць яго *рускім краем.* 80-90-я гг. характарызуюцца ня меншай актыўнасьцю ў гэтым кірунку, як і мураўёшчына. Аб гэтым добра сьведчыць палітыка ўраду Аляксандра III-га.

Характэрным у гэтым сэнсе было выступленьне ў 1887 г. уплывовага публіцыста „Нового Времени“ Салаўева. У гэтым выступленьні па новаму проектуюцца мерапрыемствы па „обрусении“ Беларусі таму менавіта, што палякі зноў „подняли голову“ [1]). Мала чым адрозьніваліся і выступленьні С. Южакова, які даводзіў неабходнасьць колёнізацыі Беларусі, хаця ён і не адмаўляў пры гэтым мажлівасьці згоды паміж рускім і польскім уплывамі.

Руская гістарычная навука ў гэтай палітыцы адыграла, у пэўным сэнсе, ролю цяжкой артылерыі. Ёй была дадзена рускім капіталізмам баявая задача: разьбіць конкурэнта і зрабіць краіну рускай, і, акрамя таго, давесьці, што гэтая краіна на працягу ўсяго свайго гістарычнага існаваньня была рускай.

Такія мотывы зруху ў рускай гістарычнай навуцы, у прыватнасьці ў маскоўскай гістарычнай школе; гэтым і тлумачыцца зацікаўленасьць да гістарычнага мінулага Беларусі школы Любаўскага; вось гэтым і толькі гэтым тлумачыцца, чаму Любаўскі і яго школа ў такім, а ня ў іншым разрэзе вывучала гісторыю Беларусі; гэтым тлумачыцца, нарэшце, чаму менавіта ў гэты, а не ў ранейшы час, так узброена выступае руская гістарычная школа.

Тон у гэтым выступленьні належыць у пэўнай ступені Любаўскаму. Вось як, напрыклад, характарызуюць яго дзейнасьць удзельнікі зборніку, выдадзенага ў яго гонар: „В вашем лице мы чтим крупного

[1]) Б. Соловьев.—„Обрусение Западного Края“. „Новое Время“. 1887 г. № 3912.

русского ученого, своими трудами в науке русской истории *создавшего новую область,* открывшего для научного исследования богатые источники истории Западной Руси и ставшего *главою школы последователей в этой одласти.* Мы чтим в вас профессора, *строго берущего и деятельно умножающего великое научное и нравственное наследие издавна славной кафедры русской истории* в Московском Университете“ [1]) (падкрэсьлена намі—*С.* і *Б.*). Мы ня будзем спыняцца на тым, што ён браў і памнажаў „великое наследие издавна славной кафедры русской истории“, нам трэба зьвярнуць увагу на тое, што ён *стварыў* новую галіну, новую школу і стаў яе ідэйным кіраўніком. А што гэта была за школа? Гэта была тая-ж школа гісторыкаў-вялікадзяржаўнікаў, для якіх гісторыя ёсьць гісторыя толькі вялікарускай нацыі, якія цалкам стаялі за прыгнечаньне нацыянальных меншасьцяй і якія ў гэтым напрамку „навукова“ дапамагалі монарху будаваць і ўзмацняць „турму народаў“.

Аднак, зусім ня так разважаюць некаторыя буржуазныя вучоныя, напрыклад, Пічэта, які адносіць Любаўскага да прадстаўнікоў нацыянальна-культурнага (!) руху на Беларусі. [2]) Цікавая мэтаморфоза поглядаў! У 1917 годзе ў зазначаным вышэй зборніку, удзел у складаньні якога прымаў і Пічэта, Любаўскага самі ўсе ўдзельнікі, у тым ліку і Пічэта, залічылі ў прадстаўнікі вялікадзяржаўнага нацыяналізму, а ў 1924 годзе Пічэта залічае яго ў прадстаўнікі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Вось так магія! Але аб гэтай магіі мы скажам ніжэй, бо расшыфроўка яе ня зусім будзе зразумелай без папярэдняга азнаямленьня з поглядамі Любаўскага.

Такім чынам, нам зразумела, чаму Любаўскі так горача схапіўся за вывучэньне гісторыі Беларусі і, нават, заснаваў цэлую школу сваіх пасьлядоўцаў.

Паглядзім, як ён гісторыю Беларусі вывучае.

Першае, што кідаецца ў вочы — гэта тое, што Любаўскі адмаўляў гістарычнае прошлае ў жыцьці беларускай нацыі, ужо ня кажучы аб тым, што ён нідзе ні словам не ўспамінае аб клясавай барацьбе ў Беларусі. „Белорусское племя в большей части изжитого им времени, — кажа ён, — не имело своей собственной государственности и *его история поэтому есть преимущественно история племени и особой разновидности национальной русской культуры“* [3]) (падкр. намі. *С.* і *Б.*). Выходзіць, што Беларусь гісторыі ня мела, што яе гісторыя зьяўляецца ні чым іншым, як гісторыяй рускай. Але, нават, — як далей зазнае Любаўскі, — і „в таком разрезе мне (г. зн. яму. *С.* і *Б.*) не приходилось до сих пор изучать историю Белоруссии. Да это в сущности еще дело будущего“ [4]). Зразумела, што ён ня мог раней, нават, і ў „таком разрезе“ вывучаць гісторыю Беларусі таму менавіта, што такая праца пярэчыла яго асноўным поглядам, як вялікарасійскага шовініста.

Любаўскі стаіць на тым пункце гледжаньня, што рускі гістарычны процэс меў дзьве плыні. Аднэю з гэтых плыняў была гісторыя Заходняй Расіі, прычым гэтая плынь, паводле яго меркаваньня, зьяўлялася другараднаю; яна працякала роўналежна з асноўнаю плыньню — вя-

[1]) „Сборник статей в честь М. К. Любавского“. М. 1917 г. Прадмова—ліст.

[2]) Проф. У. Пічэта—„Формы нацыянальнага і опозыцыйнага руху на Беларусі“. Полымя, № 2(10); 1927 г. стар. 145.

[3]) Проф. М. К. Любавский „Основные моменты истории Белоруссии“, 1918 г., стар. 7.

[4]) Там жа.

лікарускай. Вывучэньне заходня-рускай плыні, разважае ён, дапамагае высьветліць рускі гістарычны працэс цалкам. Як бачым, гісторыя Беларусі і Літвы, а таксама часткова і Украіны адыгрывалі ў яго концэпцыі толькі „службовую“ ролю на фоне яго ўстановак на гістарычны працэс Расіі. „Если при этом смотреть, — даводзіць ён, — на историю северо-восточной, Великой Руси, как на главное и основное течение русской жизни, то и с другой стороны изучение параллельно литовско-русского течения чрезвычайно важно, ибо дает материал для всевозможных сопоставлений и сравнений, а через них облегчает уяснение исторического процесса северо-восточной Руси“ [1]).

У другім месцы ён яшчэ выразьней падкрэсьлівае, што „изучение литовско-русской истории является одним из средств к углублению понимания русского исторического процесса в древнейший его период“. Зразумела, што прыведзеныя цытаты зусім нельга тлумачыць, як папытку дасьледчыка, пры высьвятленьні гістарычнага мінулага данай народнасьці, азнаёміцца таксама з гісторыяй суседніх народаў, што дапамагае больш глыбокаму ўясьненьню рэчаіснасьці. Такая ўстаноўка была-б правільнаю. Але Любаўскага ў гэтым „западозрыць“ нельга. Не дзеля таго ён гісторык Вялікай Расіі, каб вывучаць гісторыю „не абраных“ нацый. Раскрываючы задачу неабходнасьці высьвятленьня гістарычных фактаў Літоўска-Рускай дзяржавы, ён кажа: „Прежде всего надо иметь в виду, что в настоящее время приходится иметь дело с государством, которое во время оно об‘единяло добрую половину Руси. На образование великого княжества Литовского пошла не только область, населенная литовским племенем, но и старинные русские земли в бассейнах З. Двины и Днепра—Полоцкая, Смоленская, Чернигово-Северская, Киевская и Волынская. Это была исконная Русь, сидевшая на старом корню, медленно эволюционировавшая, но не срывавшаяся с своих жизненных устоев, — в противоположность Руси Суздальской, которая, расселившись по Верхней Волге и ее притокам, устроила там свою жизнь на *новых основаниях*, отличных от Приднепровской и Подвинской Руси“ [2]). Ї Любаўскі сьпяшаецца залатаць той разрыў, які гэтыя „новые основания“ Суздальскай Русі маглі прычыніць „цэльнаму і стройнаму“ рускаму гістарычнаму працэсу, сьцьвярджаючы, што „Об‘единение западно-русских земель вокруг Літвы было в сущности восстановлением разрушенного политического единства киевской эпохи, нахождением утраченного политического средоточия“ [3]).

Такім чынам, гісторыя Літоўска-Рускай дзяржавы ёсьць просты працяг гісторыі Кіеўскай Русі. Гісторыя Літоўскай Русі, гэтай старажытнай рускай зямлі, далей разважае Любаўскі, чамусьці не зьяўлялася об‘ектам дасьледваньня гістарычнай навукі. Руская гісторыёграфія ня выконвала сваёй прамой задачы. Вось гэты прабел ён і бярэцца папоўніць, каб даць поўны малюнак гісторыі Расіі. „Правда, Подвинская и Приднепровская Русь, — гаворыць Любаўскі, — подчинилась власти литовских князей. Но при этом подчинении западная Русь не только не теряла своего исторического наследия, но и передавала его господствующей земле, которая сама во многом устраивалась по образцам этой Руси, вводила у себя русский язык, русские учреждения, русское право и даже русскую веру. Вследствие всего этого

[1]) Любавский,—„Очерк“, стар. 3.
[2]) Там-жа, стар. 1.
[3]) Там-жа, стар. 36.

и история литовско-русского государства является в известном смысле прямым продолжением, дальнейшим развитием Киевской Руси“ [1]). Да такога вываду прыходзіць Любаўскі ў выніку праробленага ім вывучэньня генэзісу політычнай улады і таго ядра дзяржаўнасьці (літоўскай), што лёг у аснову ўзьнікненьня Літоўска-Рускай дзяржавы; у выніку распрацоўкі пытаньня аб разьвіцьці і ўзмацненьні політычнай улады, пашырэньня тэрыторыі яе ўплыву, высунуўшы ў якасьці асноўнага фактару аб'яднаўчых тэндэнцый грамадзтва і організацыі дзяржавы — фактар нацыянальны, менавіта нацыянальны рускі элемэнт. Рускі элемэнт, паводле Любаўскага, і зьяўляўся рухоўнаю сілай ў разьвіцьці Літоўска-рускай дзяржавы, спрыяўшай пашырэньню тэрыторыі дзяржавы на ўсход. Адначасова тэрыторыяльны рост дзяржавы зьмяняў унутраную сутнасьць яе: літоўскі нацыянальны элемэнт паступова страчваў сваё значэньне ў дзяржаве, і апошняя, па меры тэрыторыяльнага росту, усё прыкметней і прыкметней рабілася рускай дзяржавай. „Русская стихия, — заключае Любаўскі, — окончательно возобладала в этом государственном союзе в течение XIV века“. І ў другім месцы яшчэ раз падкрэсьлівае: „Короче — великое княжество литовское в XIV веке стало еще более чем в XIII в. государством русским, в котором политически господствующая народность подпала под духовное и культурное преобладание народности подчиненной“ [2]). Мы ня будзем спыняцца на ідэалістычных установках концэпцыі Любаўскага, ня будзем даказваць усю неабгрунтаванасьць высоўваемай ім нацыянальнай ідэі, як асноўнага рухавіка гістарычнага процэсу (ці-ж маглі існаваць нацыянальныя сувязі ў фэўдальную эпоху, ды пры тым яшчэ ў раньнюю яе стадыю?), мы толькі зварачаем увагу чытача на тое, як настойліва вялікадзяржаўны гісторык праводзіць сваю тэзу аб рускім элемэнце, аб рускай стыхіі, захлынуўшай усё літоўскае, а стала быць, і ўсё беларускае і украінскае, што мелася на тэрыторыі Літоўска-рускай дзяржавы. І гэта робіцца толькі для таго, каб адстаяць коордынальную тэзу сваёй концэпцыі — давесьці, што Літоўска-Руская дзяржава ёсьць працяг гістарычнага разьвіцьця Кіеўскай Русі, дзе рускі дзяржаўны організм не пасьпеў канчаткова сформавацца і „оно (русское государство—*С.* і *Б.*) в конце концов распалось на несколько частей, между которыми оставалась только национальная и церковная связь, а не политическая“ [3]).

І калі ўзмацнілася Маскоўская дзяржава, якая разьвілася затым у імпэратарскую Расію — ёй Любаўскі аддае і „карты ў рукі“: туды павінна пацягнуцца і „истинно-русская“ заходняя зямля, пасьля таго як Люблінскай вуніяй з Польшчай спынілася яе самастойнае дзяржаўнае жыцьцё. Так Любаўскі „задним числом“ апраўдваў захопніцкія мерапрыемствы рускага гандлёвага капіталу пры Кацярыне II-й (падзелы Польшчы) і тэорэтычна абгрунтоўваў колёнізацыйную практыку рускага самадзяржаўя ў другой палове XIX-га і XX-м стагодзьдзях у Беларусі, Літве і Украіне. Зусім слушна ў свой час заўважыў Ленін: „Люди всегда были и всегда будут глупенькими жертвами обмана и самообмана в политике, пока они не научатся за любыми нравственными, религиозными, политическими, социальными фразами, заявлениями, обещаниями разыскивать интересы тех, или иных классов“ [4]).

---

[1]) Любавский „Очерк“, стар. I.

[2]) Там-жа, стар. 41.

[3]) Любавский, М. „Лекции по древней русской истории до конца XVI в.“ изд. 3-е. М. 1918 г., стар. 100.

[4]) Ленін, т. XVI, изд. 3-е, стар. 353.

Вышэй мы ўжо зазначалі, што, паводле прызнаньня самога Любаўскага, ён не займаўся дасьледваньнем гісторыі Беларусі, нават, як і „особой разновидности национальнай русской культуры“. Але Кастрычнікаўская рэволюцыя паставіла рубам нацыянальнае пытаньне. Савецкаю ўладаю была ўжо распрацавана і зацьверджана вядомая „Дэклярацыя правоў народаў Расіі“ ад 1 лістапада 1917 г., якая абвяшчала роўнасьць народаў Расіі і іх правы на самавызначэньне аж да аддзяленьня і стварэньня самастойных дзяржаў. Вялікадзяржаўныя погляды Любаўскага не пахіснуліся. Ён нічога ня хоча ведаць аб беларусах, як нацыі.

Для абгрунтаваньня гэтай сваёй думкі Любаўскі прыцягвае „ўпартыя факты гісторыі“ і знаходзіць, што ў кругабегу жыцьця „Белоруссия все более и более оскудевала национальными силами. Все, что было в народной массе сильного, деятельного, творческого, все это либо отчуждалось от нее, либо уходило на сторону. И вот получилось таким образом белорусское племя без истории, с одной археологиею и этнографиею, — говорю это, конечно, Cum grano salis, для более резкого и выпуклого выражения своей мысли“[1]). Тут і бяз „большай рэзкасці і выпукласьці“ зразумела кожнаму ўся нікчэмнасьць яго вучоных абгрунтаваньняў, калі толькі на гэта глядзець, як на довады, і калі гэтыя довады прыняць за аргуманты ў доказ пастаўленай тэзы. Але, калі мы прымем пад увагу той момант, той час, у які ён гэта гаворыць і тое асяродзьдзе, да якога зьвернута яго прамова, дык мы павінны будзем зрабіць іншы вывад. Гэта адбывалася ў 1918 годзе ў Маскве, дзе ён рабіў даклад „Беларускаму Навуковаму т-ву“, ганаровымі сябрамі якога лічыліся сам Любаўскі, Карскі, Доўнар-Запольскі, Сапуноў і іншыя асобы, кой-каго з якіх можна сьмела аднесьці да зграі чорнасоценцаў; гэта гаварылася Любаўскім у той час, калі пролетарыят гэроічна вёў барацьбу з абнаглеўшай і ашалеўшай ад злосьці контр-рэволюцыяй розных масьцей; гэта гаварылася ў той час, калі пролетарыят Беларусі і бядняцка-серадняцкія масы сялянства стагналі пад ботам кайзэраўскіх окупантаў; гэта адбывалася, нарэшце, тады, калі сусьветная контр-рэволюцыя, узброеная па апошняму слову тэхнікі, з усіх бакоў нахлынала на адзіную ў сьвеце пролетарскую дзяржаву. Зусім зразумела таму гіронія дакладчыка па адрасу гістарычнага мінулага Беларусі.

І не дарэмна Любаўскі ў гэты час зварачаўся да ўсяго таго, што было „сильного... в народной массе“, г. зн. да ўсяго контр-рэволюцыйнага, і не дарма ён „выпукляў сваю думку: беларускія контр-рэволюцыянэры яго добра разумелі, яны вельмі хутка пачалі „тварыць гісторыю“.... контр-рэволюцыйную ў выглядзе барацьбы з пролетарыятам і бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства, ідучы на згоду з першым папаўшымся ворагам улады саветаў. Сход „Беларускага Навуковага т-ва“, на якім Любаўскі рабіў свой даклад аб гісторыі Беларусі, быў, па сутнасьці, шыльдай, пад прыкрыцьцем якой намячаўся блёк дзьвюх антысавецкіх сіл: вялікадзяржаўных шовіністаў і беларускіх нацдэмаў для барацьбы з бальшавікамі. Цяпер нам будзе ясным, чаму ні адзін з „шчырых барацьбітоў за беларускі народ“ не супярэчыў Любаўскаму, калі ён адмаўляў гісторыю беларускага народу.

Дык як-жа супярэчыць, калі Любаўскі на ўсе лады расьпяваў „салаўіныя песьні“ накшталт таго, што „Белорусское научно-культурное общество, народившееся в тяжелый момент, переживаемый *русским народом во всех его ветвях,* поставившее своей задачей организацию

[1]) Любавский—„Основные моменты“, стар. 22-23.

просвещения Белоруссии, *совершенно правильно поняло свой долг перед родиной* и своим *племенем, совершенно точно уяснило очередные задачи белорусского патриота.* Но история Белоруссии при всем том являет нам воочию, што никакое совершествование жизни, никакой прогресс невозможен для страны и племени, если все живые и творческие силы его будут уходить на сторону, не будут работать дома, на местах, если всегда будут смотреть в сторону, стремиться туда, где живется веселее и радостнее, чем в тихой, серой *и заплаканной родине.* История показывает нам вместе с тем, что *только опираясь на братский великорусский народ, в тесном духовном и политическом единении с ним,* белорусское *племя может утвердить для себя достойное национальное бытие*"[1]) (падкрэсьлена намі—*С. і Б.).* Тут, бачыце, і "русский народ во всех его ветвях", тут і „точное уяснение очередных задач белорусского патриота", тут і „заплаканная родина", тут і настаўніцкі заклік да „опоры на братский великорусский народ" тыпу Любаўскіх і К-о,—адным словам, увесь „закон і прарокі" для „прадстаўнікоў" беларускага народу.

Вельмі паказальным зьяўляецца той факт, што для Любаўскага ў 1918 году „Белорусское племя" яшчэ ня жыло ні ў якой сваёй частцы і меры „достойным нацыянальным" жыцьцём, а што гэтага жыцьця яно магло дабіцца пры ўмове „тесного духовного и политического единения" з брацкім вялікарускім народам. Ён закрывае вочы на тое, што беларускі народ — пролетарыят і працоўнае сялянства—яшчэ ў Кастрычніку 1917 году, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, здабыў для сябе сапраўднае нацыянальнае жыцьцё. Аб якім-жа гэта яшчэ *будучым* вызваленьні можна гаварыць? Аб такім вызваленьні могуць толькі марыць Любаўскія і ім падобныя. Да рэчы заўважыць, тэрмін „Белоруссия" стаў ужываць ён толькі з гэтага году. У дарэволюцыйных яго пісаньнях гэты тэрмін для яго не існаваў.

Характэрна, што для Любаўскага беларусы не зьяўляюцца нацыяй, а яны ёсьць толькі „племя". Гэта інакш нельга расцаніць, як злую праяву вялікарасійскага шовініста да ранейпрыгнечаных царызмам нацыянальных меншасьцяй. Ён гэта робіць не на „ўзьвей вецер", а *сьвядома* праводзіць пастаўленую перад сабой мэту.

Спрабуйце, скажам, знайсьці ў пісаньнях Любаўскага аб тым, што ў беларусаў ёсьць свая ўласная мова! На такое пытаньне вы можаце атрымаць ў яго такі адказ: „Политическое обособление, однако, не повело за собой обособления культурного. Кривичи Полоцкие и Дреговичи, как и Кривичи Смоленские и другие славянские племена приняли христианство, вошли в обще-русскую церковную организацию, усвоили пачатки просвещения и *обще-русский литературный язык*, создавшийся на основе церковно-славянского языка и того *наречия*, на котором говорило население Приднепровской Руси, и зажило *общими со всей остальной Русью* духовными интересами и стремлениями"[1]) (падкр. намі.—*С. і Б.).* Выходзіць, што беларусы ў мове нічым не адрозьніваліся ад велікарусаў, што яны жылі аднымі інтарэсамі з усёй астатняй Русьсю. Гаварыць так, значыць нічога не разумець. Ня бачыць ніякіх асаблівасьцяй у культурным жыцьці беларускага народу, — сьвядома скрыўляць факты гісторыі.

Ці сапраўды-ж ня было ў беларускіх мас ніякай розьніцы ў культурных інтарэсах пры параўнаньні хаця-б з вялікарусамі? Сам Любаўскі ня можа абыйсьці таго факту, каб не сказаць, што „одни мысли

[1]) Любавский—„Основные моменты", стар. 11-12.

и стремления", якімі жыло насельніцтва Беларусі і насельніцтва Вялікаросіі, былі парушаны, бо „Татарский погром, постигший северо-восточную Русь и южно-русские земли, окончательно предоставили Полоцкую землю ее собственным силам. Покинутое на произвол судьбы русское население этой земли естественно должно было искать себе спасения в покорности литовским князьям"[1]). Любаўскі тут ня можа зьвесьці канцы з канцамі. Мы ня станем спыняцца на экономічных і політычных асаблівасьцях жыцьця славянскіх народаў, бо гэта адцягнула-б нас далёка ад тэмы, мы толькі падкрэсьліваем, што ў „моністычнай Русі" Любаўскага маюцца трэшчыны. „За своими лесами, — гаворыць ён — и болотами Кривичи Полоцкие и Дреговичи жили *особно от остального русского населения, знать не хотели его интересов и стремлений*"[2]) (падкрэсьлена намі—*С. і Б.*). Апошняя тэза служыла беларускім нацдэмам тым „камнем",на якім яны будавалі свае „вялічэзныя будынкі" гістарычнага мінулага Беларусі.

Любаўскі, жадаўшы абярнуць беларусаў у рускіх, сам заблытаўся. З ніжэй паданай цытаты, наскрозь пранікнатай вялікарасійскім шовінізмам, гэтая блытаніна выступае яшчэ больш відавочна. „Племя, населявшее древнюю Полоцкую Русь, — гаворыць ён, — потеряло много жизненных сил, которые ушли в Великое княжество Литовское на строительство чужой государственности и общественности, на создание иной, *не чисто русской культуры*"[3]) (падкрэсьлена намі—*С. і Б.*). Паводле меркаваньняў Любаўскага, беларусы павінны былі будаваць толькі чыста-рускую культуру, ды іначай ён і ня мог сабе ўявіць.

Сваю нацыянальную програму ў адносінах да нацыянальных меншасьцяй Любаўскі, як гэта ні ганебна, канчае апологіяй антысэмітызму, які прапаведваецца ў фундамантальных гістарычных дасьледваньнях. „Распространение евреев,—чытаем мы,—и их экономическое засилье вызвало уже в половине 16 века сильное раздражение в литовско-русском обществе"[4]). Чым яго гэтая тэза адрозьніваецца ад чорнасоценна-пагромшчыцкіх? Ён тут мяшае ў адну кучу ўсе пласты яўрэйскага насельніцтва і не знаходзіць розьніцы паміж яўрэйскім купцом. і растаўшчыком, з аднаго боку, і яўрэйскім рамесьнікам і бедняком, з другога боку. Ён ня хоча разабрацца ў рэчаістасьці і становіцца на пункт гледжаньня чорнасоценца, прыцягваючы ўсялякую брыду сабе на дапамогу, накшталт антысэміцкіх водзываў тагочасных хронік, якія адбівалі настроі конкурэнтнай барацьбы сярод гандлёвых груповак грамадства і барацьбы фэўдалаў з растаўшчыцкім капіталам. Варожасьць шляхціца-прыгоньніка да яўрэя-банкіра і растаўшчыка Любаўскі тлумачыць, як праяву антысэміцкіх настрояў усяго неяўрэйскага насельніцтва да яўрэйскага народу, змазваючы сутнасьць справы, яе клясавую падаплеку, і тэтым самым выяўляе сваю профэсарскую нянавісьць да яўрэйскіх працоўных мас, свой махровы антысэмітызм сваю прыхільнасьць да чорнасоценнай тэорыі „племенной вражды".

Мала таго, Любаўскі імкнецца свой антысэмітызм пацьвердзіць гістарычнымі фактамі, зазначаючы, што „Против евреев выражала свое неудовольствие шляхта на вальных сеймах"[5]).

І ўсё гэта Любоўскі піша ў 1910 г. і паўтарае ў 1915 г. Гэта рабілася тады, калі па ўсёй Расіі чорнасоценная кліка разжыгала анты-

[1]) Любавский—„Основные моменты", стар. 14-15.
[2]) Там-жа, стар. 11.
[3]) Любавский—„Очерк", стар. 119.
[4]) Там-жа, стар. 119.
[5]) Там-жа, стар. 119.

сэміцкую барацьбу, організоўвала яўрэйскія пагромы, ад якіх у першую чаргу, а ў большай частцы і выключна, цярпеў яўрэйскі пролетарыят, яўрэйская бедната. Любаўскі шчыра выконваў заказ чорнасоценнага ўраду і поліцэйскай зграі з вышыні унівэрсытэцкай катэдры.

„Когда проклятая царская монархия,—казаў Ленін,—доживала свое последнее время, она старалась натравить темных рабочих и крестьян на евреев. Царская полиция в союзе с помещчиками и капиталистами устраивала еврейские погромы“ [1]). Любаўскі ў гэтых адносінах ня толькі не адставаў ад поліцыі, ён быў яе ідэёвам натхніцелем і кіраўніком.

Выкладзеныя намі погляды Любаўскага зьяўляюцца толькі адным са звеньняў яго рэакцыйнай вялікадзяржаўніцкай ідэолёгіі. Але Любаўскі—больш „шырокая натура“. У якасьці характэрнай рысы яго сьветапогляду трэба адзначыць панславізм. Ідэолёг рускага імпэрыялізму апранаецца ў тогу панславіста.

Захірэўшыя ідэі панславізму прыкметна адраджаюцца ў пэўных колах рускай буржуазіі ў часе імпэрыялістычнай вайны 1914-1917 гг. Буржуазныя прэса хавала сапраўдныя прычыны імпэрыялістычнай бойкі. Вайна тлумачылася, як вынік „няўхільных“ нацыянальных конфліктаў. Горача праводзілася думка аб супольнасьці інтарэсаў усіх славянскіх народаў, аб неабходнасьці змаганьня супроць агульнага ворага—немцаў. Выдаецца кніга Любаўскага „История западных славян“, інсьпіраваная ваяўнічымі настроямі рускай імпэрыялістычнай буржуазіі. (Яшчэ да выданьня гэтай кнігі Любаўскім чыталіся ў Маскоўскім унівэрсытэце і на Вышэйшых жаночых курсах лекцыі па гісторыі заходніх славян). Задачай Любаўскага і яму падобных было — падагрэць патрыотычныя пачуцьці ў масах, тым больш гэта неабходна было і таму, што вайсковымі ўдачамі руская армія пахвастацца не магла, мары аб „двухмесячнай“ вайне разьвеяліся, як дым, вайна зацягнулася, гаспадарка разбуралася, устоі царызму трашчалі, нарасталі рэволюцыйныя падзеі.

У прадмове да кнігі аўтар зазначае, што яна будзе карыснай „не для одних только учащихся, но и для широкой публики, особенно в настоящее время — обостренного внимания и интереса к судьбам славян“. Тут-жа ён выяўляе свае адносіны і да вайны. „История западных славянских племен,—піша ён,—связана и внутранне и внешне: внутренне сходством социально-политической эволюции и культурного развития, внешне — общностью борьбы за существование, понесенными в этой борьбе жертвами и потерями и конечно злой иронией судьбы, заставившей чуть ли не большинство их сражаться в рядах своих исконних поработителей и истребителей“ [2]). Думка гісторыка зразумелая. Ён за тое, каб заходнія славяне (г. зн. палякі, чэхі, славакі і іншыя) выступілі-б за агульную славянскую справу супроць сваіх „исконних поработителей и истребителей“ — немцаў. У тагочаснай політычнай сытуацыі гэта азначала жаданьне, каб салдаты—славяне з нямецкіх армій перайшлі-б на другі бок акопаў, далучыліся да ўсходніх славян, г. зн. перайшлі-б на бок рускай арміі, узмацнілі-б пахіснуўшыйся рускі імпэрыялізм. Гэтым тлумачыцца і раптоўнае замілаваньне Любаўскага да палякаў, прызнаньне, што „история польского народа как наиболее близкого к рускому народу по связи их истории изложена с большей подробностью“. Любаўскі, далей, падкрэсьлівае, што ў эпоху нацыянальнай барацьбы „приходится обнимать не только мыслью, но и чувством национальную жизнь и стремления разных народностей,

---

[1]) Ленин—„О еврейском вопросе в России“, изд. „Пролетарий“, 1924 г. стар. 75.
[2]) Проф. М. К. Любавский „История западных славян“. М. 1917 г. Предисловие.

а в особенности, конечно, народностей родственных, природою предназначенных к взаимной поддержке и союзу в решительных коллизиях международной борьбы“ [1]). І, аднак, гэты „шчыры“ прыхільнік славянства, заклікаючы славянскія народы на барацьбу з немцамі, па свойму вырашае нацыянальнае пытаньне: Беларусь і Украіна ў яго не вызываюць сумненьняў, бо яны, па яго думцы, зьяўляюцца рускімі землямі, адносна-ж Польшчы станоўчага адказу няма, але і тут ён ня ідзе далей адозвы царскага ўраду ад 1 (14) жніўня 1914 г., які палякам абяцаў даць „Польшу, свободную в своей вере, в языке, в самоуправлении„, „воссоединенную воедино под скипетром русского царя“.

Панславізм, як вядома, узьнік яшчэ ў канцы XVIII ст., меў прыхільнікаў і ў Расіі. Панславіцкія ідэі мелі месца і сярод славянскіх народаў Заходняй Эўропы. Панславізм узьнік, з аднаго боку, на глебе імкненьняў да незалежнасьці славянскіх народаў, прыгнечаных Турцыяй і Аўстра-Вэнгрыяй, з другога боку — на глебе захопніцкіх імкненьняў рускага самадзяржаўя. Заходні панславізм бачыў у Расіі апору для адваёвы незалежнасьці. Рускі-ж панславізм спадзяваўся на праглыненьне славянскіх і суседніх з імі народаў і ўключэньня іх у склад імпэрыі. У гэтым, уласна кажучы, выяўляецца ўся рэакцыйнасьць абедзьвюх панславіцкіх плыняў, калі прыняць пад увагу тое, што руская імпэрыя была самай моцнай апорай міжнароднай рэакцыі, злейшым ворагам міжнароднага рэволюцыйнага руху.

Любаўскі, які ў часе імпэрыялістычнай вайны трактаваў аб „агульна-славянскіх інтарэсах“, умацоўваў ідэолёгічныя позыцыі рускага імпэрыялізму, рыхтаваў глебу для зьняволеньня славянскіх народаў пад бот рускага цара.

Характарызуючы Любаўскага, як панславіста, мы крыху ўхіліліся ад нашай тэмы. Мы прымушаны былі гэта зрабіць для таго, каб выразьней акрэсьліць яго палітычны твар і крыху паўней выявіць яго погляды. Агульны фон яго концэпцыі, афарбаванай у адценьні рускага панславізму, з агіднымі рысамі чарнасоценства складаюць груба-рэакцыйную ідэолёгію гэтага зацятага вялікадзяржаўніка.

У заключэньне зробім яшчэ некалькі заўваг.

Даны намі аналіз поглядаў Любаўскага на нацыянальныя моманты гісторыі Беларусі ня ставіў перад сабой мэты выявіць поўную схэму гісторыі Заходняй Русі. „Мы толькі зазначылі, што гісторыю гэтай „окраины“ ён разглядаў як адну з другарадных плыняў агульнага рускага гістарычнага процэсу. Яго схэма гісторыі Літоўска-рускай дзяржавы была амаль цалкам успрынята нашымі (у Савецкай Беларусі) буржуазнымі і дробна-буржуазнымі гісторыкамі, распрацоўваўшымі схэму гісторыі Беларусі. Школа Любаўскага знайшла сабе „пачэснае месца“ ў нашых навукова-дасьледчых і навучальных установах. Чыталіся унівэрсытэцкія курсы і складаліся падручнікі па гісторыі Беларусі, пераважна на аснове прац Любаўскага. Тут жыла любаўшчына, толькі не ў вялікадзяржаўным, а ў нацыянал-дэмократычным выглядзе. Гісторыкі-нацдэмы схэму Любаўскага прыстасавалі да гісторыі Беларусі, прычым гэтае прыстасаваньне было праароблена вельмі прымітыўна: там, дзе Любаўскі ўжываў тэрміны „рускі“, „Западная Русь“, нацдэмаўскі гісторык стаў ужываць тэрміны — „беларускі“, „Беларусь“, дэміург гістарычнага процэсу — „руская нацыянальная ідэя“ была заменена „беларускай нацыянальнай ідэяй“. У процівагу вялікадзяржаўніцкім тэндэнцыям рускага гісторыка, бела-

---

[1]) Проф. М. К. Любавский — „История зап. славян“, стар. 4.

рускімі буржуазнымі гісторыкамі была створана тэорыя нацыянальнай самабытнасьці, шукаліся, высасваліся з пальцаў крыніцы „нацыянальнай самасьвядомасьці“ беларускага народу; прыцягваліся ўсе сродкі да таго, каб уразумець таямніцы „душы народнай“. Ня гледзячы на розьніцу гэтых дзьвюх установак на гістарычны процэс Беларусі паміж імі наглядалася поўнае сужыцьцё. Сам Любаўскі з „спокойной душой“ супрацоўнічаў у БАН, зьмяшчаючы ў яе выданьнях свае працы. Ён, зразумела, добра ведаў сутнасьць ідэолёгіі беларускіх нацдэмаў. На іх імкненьні—аздабляць тэорыю нацыянальнай „самабытнасьці“ ўсё новымі і новымі аргумантамі, ён, відаць, не глядзеў, як на сур'ёзную справу. Зьмена тэрміну „рускі“ на „беларускі“ яго не непакоіла. Для яго важней было „протащить“ свае агульныя мэтодолёгічныя ўстаноўкі, сваю концэпцыю ў літаратуру, каб гэтая концэпцыя стала-б „достоянием читающей публики“, г. зн. каб рабіць уплыў на савецкую грамадзкасьць, змагацца з марксыцка-ленінскай концэпцыяй у гістарычнай навуцы.

Нацдэмы, у сваю чаргу, з „легким сердцем“ скарыстоўвалі акадэмічны багаж (тлумачачы яго па своему) вялікадзяржаўнага вучонага, абгрунтоўваючы імі тэорыю „самабытнасьці“, „вялічэзнасьць“ гістарычнай спадчыны беларускага народу.

Гэта былі, па сутнасьці, два бакі адной мэдалі, дзьве рознавіднасьці буржуазнай ідэолёгіі, якая проціпастаўлялася ідэолёгіі рэволюцыйнага пролетарыяту. То была форма барацьбы буржуазнай навукі з пролетарскай навукай. Гэтая барацьба адлюстроўвала барацьбу клясаў у савецкіх краінах, барацьбу рэштак вялікадзяржаўнай і мясцовай буржуазіі супроць пролетарыяту, супроць соцыялізму за аднаўленьне капіталістычнага ладу. Мэта клясавага змаганьня, як бачым, яднае на пэўных этапах вялікарускі і мясцовы нацыяналізмы. Яны ободвы ў навуцы імкнуцца адмаўляць прынцыпы марксызму-ленінізму аб клясавай барацьбе, аб істоце дзяржавы, аб ролі рабочай клясы ў рэволюцыйным змаганьні за сапраўднае вызваленьне працоўных мас ад эксплёатацыі, ад галечы і беднасьці. Буржуазная навука высоўвае свае тэзы: аб буржуазнай дзяржаве, як вечнай катэгорыі, аб неабходнасьці прымірэньня клясавых інтарэсаў, аб нацыянальным адзінстве народу. Клясавыя інтарэсы буржуазная навука падмяняе нацыянальнымі інтарэсамі, адначасова выступаючы супроць правадзімай компартыяй і савецкай уладай нацыянальнай палітыкі. І вялікарускі шовініст і мясцовы нацыянал-дэмократ актыўна змагаюцца супроць інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных у духу ленінскай нацыянальнай палітыкі. Вялікадзяржаўны шовініст, часам, маскуецца таксама пад інтэрнацыяналізм. XVI зьезд УсеКП(б) наступным чынам характарызуе сутнасьць вялікадзяржаўнага рускага шовінізму: „Галоўную небясьпеку на даным этапе прадстаўляе вялікадзяржаўны ухіл, які прабуе рэвізаваць асновы ленінскай нацыянальнай палітыкі і які пад сьцягам інтэрнацыяналізму прыкрывае імкненьне аджываючых клясаў панаваўшай раней вялікарасійскай нацыі вярнуць сабе страчаныя прывілеі“.

Задача марксыцка-ленінскай навукі — выкрываць контр-рэволюцыйную істоту нацыяналізмаў розных колераў.

Неадкладная задача і абавязак пролетарскіх гісторыкаў — даць сапраўдную гісторыю Беларусі, як гісторыю нацыянальнасьцяй, насяляўшых яе тэрыторыю, як гісторыю барацьбы клясаў.

Справа ідзе не аб тым, ці існавала самастойная беларуская дзяржаўнасьць, ці не існавала. Справа ідзе аб тым, каб паказаць, карыстаючыся марксыцка-ленінскім мэтодам, спэцыфічныя асаблівась-

ці конкрэтнага разьвіцьця таго або іншага народу, на фоне вывучэньня гаспадарчых стасункаў і клясавых узаемаадносін у грамадзе, на фоне барацьбы грамадзкіх клясаў. Асноўныя прынцыпы марксыцка-ленінскага вучэньня трэба правільна прымяніць да конкрэтнай гісторые Ня трэба шукаць рысаў спэцыфічнасьці гістарычнага процэсу там, дзі іх ня было, нельга ігнараваць і тымі адрозненьнямі і асаблівасьцямі. на якія паказвае конкрэтны гістарычны матар'ял.

Змагаючыся на два фронты — з вялікадзяржаўнымі тэндэнцыямі, ў гістарычнай навуцы, як галоўнай небясьпекай на даным этапе пролетарскай рэволюцыі і выкрываючы антымарксыцкую сутнасьць нацдэмаўскіх схэм—мы павінны, на аснове вучэньня марксызму-ленінізму, будаваць схэму гісторыі Беларусі. „Безусловным требованием марксисткой теории,—гаварыў Ленін,—при разборе какого бы то ни было социального вопроса является постановка его в определенные исторические рамки, а затем, если речь идет об одной стране (например, о национальной программе для данной страны), учет конкретных особенностей, отличающих эту страну от других в пределах одной и той-же исторической эпохи".

А. М. Сяргеяў.

# Зоймемся вывучэньнем сурогатаў кармоў.

Кармовае пытаньне—самае вузкае месца нашай жывёлагадоўлі. Пытаньне колькаснага павялічэньня і якаснага паляпшэньня нашай жывёлагадоўлі ўпіраецца ў кармовую проблему. Кожны год мы трацім тысячы тон мяса і малака на зімнім недакорме жывёлы. За зіму наша жывёла кожны год траціць у жывой вазе мінімум 50—60 кг. Замест 2.000 і больш літраў малака карова дае ледзь 1.000 літраў, а часта і таго менш. Падыходзячы да новай уборачнай кампаніі, нам неабходна памятаць аб цяжкасьцях з грубымі кармамі ў мінумым годзе. Зразумела, што зараз-жа ліквідаваць усе недахопы ў кармовым пытаньні немагчыма. Каб як трэба організаваць кармовую базу, патрабуюцца гады. Але-ж трэба к разьвязаньню кармовай проблемы падыйсьці так, каб пераход на вышэйшую кармовую базу па магчымасьці пазбаўлены быў усіх тых шурпатасьцяй, якія звычайна ўласьцівы організацыйнаму моманту.

Некаторую ролю пры гэтым павінны будуць адыграць так званыя сурогаты корму. Аб некаторых з іх (дравесны корм) ужо даволі многа пісалася ў газэтах і часопісах.

Што мы павінны разумець пад сурогатамі корму?

Звычайныя кармовыя сродкі, якія дае нам паша і сенажаць, якімі мы звычайна карыстаемся, называюцца проста кармамі. У выпадку недахопу гэтых кармоў даволі часта скарыстоўваюцца ў якасьці корму такія продукты, якія звычайна ў корм ня ідуць. Адными гэтымі кармамі карміць жывёлу нельга, бо яны ня маюць у сабе адпаведнай колькасьці пажыўных матэрый. Яны могуць служыць толькі падсобным кормам, чаму і носяць назву сурогатаў корму. Маецца шмат такіх сурогатаў. Адны з іх малапажыўныя, і іх жывёла есьць з неахвотай, другія наадварот, даволі пажыўныя і паядаюцца жывёлай ахвотна. У нас пры загатоўцы корму на зіму гаспадары скарыстоўваюць з кармовых сродкаў толькі самыя галоўныя. На сурогаты звычайна не зьвяртаюць увагі, лічачы іх „дробязьзю“, якая ня мае вялікага гаспадарчага значэньня. Погляд—памылковы. Гэтыя „дробязі“ могуць аказаць вялікую ўслугу гаспадарцы. Жыцьцё высоўвае перад колгасамі і саўгасамі ў сучасны момант вельмі адказную задачу — даць максымум корму і пры тым корму больш таннага. Кармовыя сурогаты памогуць гаспадарцы ўвязаць свае кармовыя балянсы з намечанымі задачамі. Але-ж справа з сурогатамі ўскладняецца тым, што гэтыя сурогаты, у выніку такіх адносін да іх, да гэтага часу ня зусім дасканала вывучаны. Ёсьць шмат такіх сурогатаў корму, якія маюць вельмі малы раён свайго пашырэньня і аб якіх мала хто ведае.

У той-жа час яны даволі каштоўны, чаму і трэба пашырыць веды аб іх сярод шырокіх колаў насельніцтва. На Беларусі недахоп к вясьне кармоў—рэч звычайная. Каб выйсьці з гэтага становішча, сяляне паступалі па-рознаму. Скарыстоўваліся самыя рознастайныя сурогаты, і набываўся вельмі багаты вопыт у гэтых адносінах. Але-ж у друку гэты вопыт і гэтыя сурогаты амаль што зусім ня высьветлены. І гэта—недахоп, бо шукаючы, чым-бы замяніць кармы ў сваёй гаспадарцы, сяляне часта натыкаліся і на каштоўныя выхады з становішча, скарыстоўваючы тыя ці іншыя сурогаты корму.

Працуючы ў экспэдыцыі па вывучэньні буйнай рагатай жывёлы ў БССР, нам ня раз даводзілася сустракацца з падобнымі выпадкамі. Так, рэгістратарам, якія працавалі на Мазыршчыне, даволі часта даводзілася чуць пра расьліны „вадзяны асот“ (Петрыкаўскі раён), „разак“ (Юравіцкі р-н), пры дапамозе якіх некаторыя з сялян спрабавалі павялічыць кармовы балянс у сваёй гаспадарцы. Пад гэтымі назвамі сяляне разумеюць адну і тую-ж расьліну, батанічная назва якой—*целарэз сабуравідны* з сямейства вадакрасаў. Гэта адзін з най-



Целарэз сабуравідны
(Stratiotes Ocoides L.).

больш вядомых і пашыраных у сярэдняй паласе, СССР і ў нас, у БССР, прадстаўнікоў сямейства вадакрасаў. Расьце ў азёрах, балотах, асушальных каналах і інш. вадазборах са стаячай альбо павольна бя-

гучай вадой. У вёсцы Кажушкі Юравіцкага раёну каля 50% абсьледваных экспэдыцыяй гаспадарак карысталіся целарэзам, як кормам. Сяляне в. Кажушкі завяраюць, што карыстаньне целарэзам у іх вёсцы пачалося з 1922 году. Падштурхнула іх к гэтаму тая ахвота, з якой жывёла паядала расьліну ў бяскорміцу. Шкодных вынікаў ад ужываньня целарэзу сяляне пакуль што не назіралі. Па зьвестках сялян целарэз у в. Кажушкі скарыстоўваецца такім чынам. Лісьце і карэньні даюцца буйнай рагатай жывёле, „храпка“ сьвіньням. Авечкі з прыемнасьцю паядаюць яе ва ўсякім выглядзе—у сухім і з сечкай. Лісьце і карэньні даюцца буйнай рагатай жывёле сумесна з саломенай рэзкай. Зімою сяляне езьдзяць на азёры і каналы, робяць на лёдзе прорубкі і дастаюць адтуль асобнымі граблямі целарэз. Затым целарэз прывозіцца да дому, дзе яго перад дачай жывёле запарваюць (каб адтаў) і мяшаюць з рэзкай, альбо запарваюць і абліваюць варанай бульбай (растоўчанай і разьмешанай у гарачай вадзе). Сьвіньням там целарэз даецца рэдка. Згодна паведамленьня праф. Пелехава Н. Н. (Запіскі Беларускай С.-Г. Акадэміі, т. III), шырока ўжываецца карыстаньне целарэзам, як кармовым сродкам і на поўначы БССР (Віцебшчына), а таксама і ў сумежных раёнах РСФСР (былая Пскоўская губ.). Там яго скармліваюць, галоўным чынам, сьвіньням. Вось даныя аналізаў, зробленых катэдрай агульнай зоотэхніі Беларускай С/Г. Акадэміі.

Склад целарэзу:

| | |
|---|---|
| Вада . . . . . . . . . . | 93,63% |
| Солі . . . . . . . . . . | 1,10% |
| Абалоніна . . . . . . . . | 0,78% |
| Бялок . . . . . . . . . . | 0,71% |
| Тлушч. . . . . . . . . . | 0,20% |
| Безазотны экстракт матэрый . | 0,38% |

У Азарыцкім раёне рэгістратары наткнуліся на другі сурогат, карыстаньне якім было даволі пашыранае. Сяляне завуць гэтую расьліну „бабоўнік“. Правільная-ж назва яе „белакрыльнік балотны“ з сямейства аронікавых. Сяляне спэцыяльна езьдзяць за бабоўнікам і зьбіраюць яго па вільготных і нізкіх мясцох, альшаніках і тарфяніках. Дома бабоўнік дробна сякуць і даюць сьвіньням, якія ядуць яго з вялікай ахвотай. Адмоўных бакоў, паводле слоў сялян, ад карыстаньня бабоўнікам не назіралася. Сьвіньні заставаліся здаровымі. Якасьць продукцыі не пагаршалася.

У розных мясцовасьцях бабоўнік завуць па-рознаму. На Магілеўшчыне яго завуць „жытніца“, у б. Цьвярской губ.—„лягушачнік“, у б. Аланецкай губ.—„вадзяны корань“. У іншых мясцох—„хлебнік“. Пад назвай „калла“ разводзіцца ў цяпліцах у якасьці дэкоратыўнай расьліны. Сваю назву „хлебніка“ гэтая расьліна атрымала за тое, што ў паўночных абласьцях СССР зьбіраюць карані апошняй, высушваюць іх, вымываюць у вадзе і падмешваюць у хлеб. Гэта, па нашай думцы, сьведчыць аб высокай спажыўнасьці гэтых карнявішч. Як целарэз, так і бабоўнік, у вялікай колькасьці растуць у балотах. У літаратуры ёсьць указаньне аб скарыстоўваньні ў якасьці корму раскі, той звычайнай раскі, якая знаёма нам усім і якая вельмі часта густа пакрывае паверхні балот і азёр БССР. Вылаўленая і высушаная раска захоўваецца на зіму і скармліваецца ў вараным выглядзе пераважна сьвіньням. (Дача да 1 кг на галаву ў дзень). М. Дзевэль у сваім

артыкуле „Новые корма для скота“ (Вестник Псковского губернского земства за 1914 г. №№ 28-29) кажа аб галубкох (вадзяная лілія) і жоўтым імху і іх скарыстоўваньні ў якасьці кармовага сродку.

БССР багата на балоты. Усе пералічаныя вышэй расьліны вельмі распаўсюджаны па гэтых балотах. Трэба шырэй паставіць пытаньне аб вывучэньні і скарыстоўваньні гэтых сурогатаў корму.



Белакрыльнік балотны.
(Calla palustris).

Па нашай думцы, мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны: 1) выявіць на мясцох самы факт карыстаньню тымі ці іншымі сурогатамі кармоў; 2) падрабязна апісаць тэхніку скарыстоўваньня гэтых сурогатаў і тыя вынікі, якія ад гэтага атрымліваліся; 3) там, дзе гэта магчыма, палажыць пачатак скармліваньню гэтых сурогатаў; 4) сабраць і пераслаць узоры сурогатаў на Горацкую Зональную Станцыю Малочнай Г-кі для іх падрабязнага аналізу.

Нам здаецца, што прапрацаваўшы гэта пытаньне, краяведы дапамогуць нашым саўгасам і колгасам у справе разьвязаньня кармовай проблемы—баявой задачы сёнешняга дня.

Горкі, Зональная Станцыя
Малочнай Гападаркі

М. Дабратворскі.

# На барацьбу за павышэньне ўраджаю насеньня чырвонай канюшыны.

Пасьля вырашэньня збожжавай проблемы, у сельскай гаспадарцы набывае першачарговае значэньне жывёлагадоўчая проблема, якая ва ўмовах БССР зьяўляецца найбольш актуальнай. Шпаркае разьвіцьцё жывёлагадоўлі, якое адбываецца ў апошні час, магчыма вырашыць толькі пры правільнай організацыі кармовай базы. Зусім зразумела, чаму ў апошні час аддаецца столькі ўвагі палявому травасеяньню. Палявое травясеяньне ў нас уводзіцца ня толькі для забесьпячэньня жывёлагадоўлі кармамі, але і для павялічэньня ўраджаяў збожжавых культур.

З кожным годам шматпольны севазварот адваёўвае ўсё новыя і новыя абшары ў трохполкі. Плошчы, занятыя кармовымі травамі, шпарка растуць. Сярод гэтых траў першае месца займае чырвоная канюшына, што відаць з табліцы агульнай плошчы, якую займае канюшына, віка і сэрадэля ў БССР.

| | 1927 г. | | 1928 г. | | 1929 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | га | % | га | % | га | % |
| Канюшына . . . | 90.023 | 50,1 | 111.434 | 49,7 | 159.030 | 64,4 |
| Віка . . . . . | 79.416 | 44,2 | 98.652 | 44,0 | 75.404 | 30,8 |
| Сэрадэля . . . . | 10.154 | 5,7 | 13.796 | 6,3 | 10.261 | 4,8 |

Яшчэ шпарчэй расьце плошча, засеяная канюшынай у апошнія гады; так, у 1930 годзе яна займае 237.695 га, а ў 1931 423.866 га. Яшчэ больш яскрава відаць тэмп надзвычайнага росту канюшыны. з параўнаньня з 1927 годам. Калі 1927 год прыняць за 100%, то прырост у 1928 г. будзе 123,8%, у 1929 — 176,6%, 1930 — 264% і ў 1931 — 470,7%. За 5 год плошча пад чырвонай канюшынай узрасла ў 4,7 разы. І ўсё-ж такі, бязумоўна, палі БССР далёка „ненасычаны“ канюшынай у параўнаньні з тымі задачамі, якія пастаўлены партыяй і ўладай у напрамку соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі. Канюшына дае ня толькі вялікія ўраджаі добрага сена, але і ўгнойвае глебу. Пасьля канюшыны ў глебе застаецца 179 кілё азоту на гектар; такую колькасьць азоту мы можам даць, укладаючы $35^1/_2$ тон гною на га.

Пашырэньне засеваў чырвонай канюшыны ня можа існці бяз шпаркага павялічэньня насеннаводзтва. Насеньня канюшыны нам кожны год не хапае, бо ўраджаі атрымліваюцца надзвычайна нізкія. За апошнія чатыры гады сярэдні ўраджай па БССР не дасягае і 2 цэнтнэраў з га, а ў леташні, неўраджайны год былі гаспадаркі, якія ледзьве атрымалі $^1/_2$ цэнтн. з га; на Урале-ж чырвоная канюшына часта дае больш 8 цэнтнэраў.

Якая-ж прычына такіх нізкіх ураджаяў насеньня чырвонай канюшыны?

Справа ў тым, што чырвоная канюшына належыць да такіх расьлін, якія ня могуць даваць насеньня без запылкаваньня шасьціножкамі, а чырвоную канюшыну запылкоўваюць амаль выключна чмялі, колькасьць якіх памяншаецца, дзякуючы распашцы (распашкаю зьнішчаюцца месцы, дзе чмялі будуюць свае гнёзды).

З другога боку, павялічваюцца пасевы насеннай канюшыны, і чмялі ня могуць абслужыць гэтых вялікіх плошчаў. Вось чаму паўстае пытаньне аб спэцыяльных мерах па запылкаваньні чырвонай канюшыны. Падобна таму, як збожжавыя расьліны для павялічэньня ўраджаяў патрабуюць цэлага шэрагу агрыкультурных мерапрыемстваў, так і насенная канюшына, апрача адпаведнай апрацоўкі глебы і ўгнаеньня, патрабуе абавязкова запылкаваньня шасьціножкамі.

Кім-жа мы можам замяніць чмялёў, якія зараз ужо ня могуць здавальняюча абслугоўваць узросшых плошчаў насеннай канюшыны? Такімі шасьціножкамі зьяўляюцца пчолы. Звычайна пчолы рэдка наведваюць чырвоную канюшыну, бо ім цяжка дастаць нектар з канюшынных кветак, але досьледамі розных сельска-гаспадарчых станцый устаноўлена, што пры адпаведных умовах пчолы ідуць на канюшыну і павялічваюць яе ўраджаі. Так, на Шацілаўскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыі канюшына бяз пчол давала ўраджаі ўсяго толькі 75 кілё на гектар, а з пчоламі 190 кілё; мы бачым, што пчолы павялічылі ўраджай на 115 кілё, ці ў два з паловай разы. Калі лічыць кошт кілёграма канюшыннага насеньня ў 1 рубель, то выходзіць, што пчолы павялічылі даход аднага гектара на 115 рублёў ня ўлічваючы мёду, які зьбяруць пчолы з канюшыны. Бязумоўна, пры спрыяючых умовах ураджай можа быць павялічаны яшчэ болей.

Адзін з спэцыялістаў па чырвонай канюшыне проф. Лісіцын піша, што *„самай галоўнай умовай посьпеху* (канюшыннага несеннаводства— *М. Д.*) *зьяўляецца запылкаваньне пчоламі. Канюшыннае насеннаводзтва бяз пчол існці ня можа. Бяз пчол мы хутка ня будзем атрымліваць насеньня канюшыны, гэта трэба добра запамятаць“.*

Вось чаму кожны колгас, які мае пчолы, павінен выкарыстаць іх для запылкаваньня насеннай канюшыны.

Але не заўсёды пчолы ахвотна ідуць на чырвонуюканюшыну, бо трубачка вяночку канюшыны даўжэй кароткага хабатка пчол, і апошнім цяжка даставаць адтуль нектар. Калі-ж канюшына ў данай мясцовасьці цьвіце ў такі час, калі навокал няма іншых меданосаў, то пчолы ахвотна ідуць на канюшыну і, бяручы з яе нектар і пылок, запылкоўваюць яе, а значыцца павышаюць ураджай насеньня. Калі-ж адначасова з чырвонай канюшынай будуць цьвісьці такія меданосы, як белая ці швэдзкая канюшына, гарчыца, грэчка, сэрадэля, ліпа, рапс і інш., то пчолы паляцяць на гэтыя меданосы, а на чырвонай канюшыне іх будзе мала. Таму цьвіценьне насеннай канюшыны трэба прыстасоўваць да такога часу, калі ўжо адцьвітуць галоўныя меданосы—ліпа, грэчка і інш. Вось чаму выгадней пакінуць на насеньне

атаву двухукоснай канюшыны; апрача таго, на ёй будзе болей чмялёў, бо колькасьць іх да канца лета павялічваецца, што вынікае з іх біолёгіі.

Чмяліныя сем'і ўвосень распадаюцца, рабочыя і самцы гінуць, а маладыя самкі, кожная паасобку, зімуюць зарыўшыся ў зямлю ці мох. Вясной кожная перазімаваўшая самка адшуквае старое мышынае гняздо на зямлі ці ў нары, а часта і сама знайшоўшы спадручную мясьціну робіць першую лузачку, у якую адкладае некалькі яечак. Выведзецца чарва, і самка павінна карміць яе пылком расьлін і мёдам. Калі чарва першай лузачкі вырасьце і зробіць сабе капшучкі, самка на іх будуе 1—2 лузачкі, куды і адкладае некалькі яец.



Схэма разьвіцьця чмялінага расплоду.

Зразумела, што адной саміцы цяжка выгадаваць многа чарвы. І таму чмяліныя гнёзды разьвіваюцца спачатку вельмі павольна, і толькі з паяўленьнем рабочых колькасьць чмялёў у гнёздах хутка павялічваецца; але найбольшую „сілу“ чмяліныя гнёзды набываюць у канцы лета, бо на разьвіцьцё чмяля ад яйца і да дарослай формы патрабуецца каля 3-х тыдняў.

Нямала ў чмялёў і ворагаў, якія зьнішчаюць як іх саміх, так і іх гнёзды. Вароны, буслы, асаеды, лісы—не пакінуць ня зьнішчаным ніводнага знойдзенага гнязда. Ёсьць у іх ворагі і з шасьціножак, напр., чмялі-зязюлі, якія прыводзяць да зьнішчэньня шмат гнёзд.

Часта, дзякуючы дажджлівай восені, насенную канюшыну (з атавы) не ўдаецца сабраць, таму трэба рабіць так, каб цьвіценьне яе ня вельмі зацягвалася. Для гэтага тую частку канюшыны, атава якой будзе пакінута на насеньне, трэба скасіць *у першую чаргу*, і лепш за ўсё тады, калі яна толькі выкідае зялёныя галоўкі. Гэта прынясе карысьць ня толькі пасеннаводзтву, але і жывёлагадоўлі.

У № 140 „Социалистического земледелия“ Інстытут кармоў прыводзіць прымерныя тэрміны пакосу; ён раіць касіць канюшыну „ў момант выкіданьня галоўкі“, чым значна павялічваецца зьмест бялку ў сене, якое робіцца больш пажыўным для жывёлы.

Падкашваць можна толькі двухукосную (раньнесьпелую) канюшыну, а аднаўкосную (лазоўку) нельга, бо яна дрэнна адрастае і дае нізкі ўраджай.

Да часу цьвіценьня насеннай канюшыны павінна быць *скошана ўся канюшына, якая ня будзе пакінута на насеньне, а таксама* і ўсе лугі; калі на межах і краёх лесу, побач з канюшыннымі насеньнікамі, растуць *сьмяцьцёвыя меданосы, то яны таксама павінны быць выкашаны.* Што гэта зьяўляецца надзвычайна важным, сьведчыць выпадак, які быў на Шацілаўскай с.-г. дасьледчай станцыі, аб якім піша профэсар Лісіцын. У іх гаспадарцы „Махавое“ было 64 га канюшыны. Калі пачала яна цьвісьці, то пчол на ёй зусім ня было. Ужо наступіла поўнае цьвіценьне, а пчолы на канюшыну ня ішлі, бо ў гэты

час яны працавалі на лузе, які быў у самым цьвеце. Аддалі загад скасіць луг, і на трэці-ж дзень, калі завяла скошаная трава, усе пчолы кінуліся на канюшыну і працавалі на ёй у вялікай колькасьці.

Для запылкаваньня аднаго га канюшыны патрэбны 3—4 сям'і пчол. З гэтага разьліку лепш за ўсё пчол ставіць пасярэдзіне канюшыннага поля. Пры перавозцы пчол на адлегласьці бліжэй 3 кілём. ад пчальніка трэба ведаць, што ўся лётная пчала можа зьвярнуцца на старое месца і згубіцца, калі ня прынять адпаведных мер. Сама перавозка зьяўляецца даволі складанай, таму ня маю мажлівасьці ў гэтым кароткім артыкуле даць адпаведную інструкцыю; адсылаю да спэцыяльнай тэхнічнай інструкцыі, якая разаслана Колгаснасеннаводсаюзам. Пчолы, апрача нектару, бяруць з канюшыны яшчэ і пылок, а таму трэба даглядаць пчол так, каб ім патрабавалася вельмі многа пылку; для гэтага трэба, каб у вульлёх было ў гэты час шмат дзятвы. Ня трэба забывацца і аб нашых дармовых працаўнікох—чмялёх, бо ад іх таксама у значнай ступені залежыць ураджай насеннай канюшыны; чмаліныя гнёзды, якія зпаходзяць у часе касьбы, трэба ахоўваць, а не разбураць.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, сёлета, згодна дырэктывы Насеннаводцэнтру, колгасы будуць скарыстоўваць пчол для запылкаваньня насеннай чырвонай канюшыны. Сэктар Зоолёгіі БАН з свайго боку праводзіць дасьледчую працу па вывучэньні запылкаваньня чырвонай канюшыны пчоламі. Дасягнутымі посьпехамі ў гэтым пытаньні мы ня можам задаволіцца, бо трэба павялічыць ураджай насеньня на га не на 1 цэнтнэр, а па крайняе меры на 3—4 цэнтнэры ў першыя-ж гады, бо шпаркі рост колгасаў патрабуе пераходу на новыя, культурныя формы землекарыстаньня, для чага патрэбна шмат насеньня канюшыны.

Зразумела, што і краязнаўчыя організацыі не павінны застацца ў баку ад гэтага важнага мерапрыемства; яны павінны дапамагчы колгасам правесьці ў жыцьцё дырэктыву Насеннаводцэнтру—з аднаго боку, а з другога—павесьці дасьледчую працу па вывучэньні гэтага пытаньня. Дасьледчая праца павінна высьветліць, які ўплыў мела наведваньне пчол на павялічэньне ўраджаю і якая частка гэтага ўраджаю выпадае на іх долю, бо ўраджай насеньня канюшыны будзе зьяўляцца вынікам працы ня толькі пчол, але і чмялёў. Таму першая задача, якая будзе стаяць перад краязнаўчымі організацыямі — гэта вывучэньне наведваньня чырвонай канюшыны чмялямі і пчоламі. Для гэтага неабходна вылучыць спробную дзялянку (з роўным травастоем) размерам 2×2 мэтры і на ёй раз у пяцідзёнку падлічваць пчол і чмялёў (паасобку), якія прыляцяць на яе працаваць. Гэты падлік робіцца ў працягу аднэй гадзіны тры разы ў дзень. Падлік трэба рабіць у ясны і бязьветраны дзень. Першы падлік робіцца паміж 8—11, другі 1—3, трэці 4—6 гадзінамі. Калі пчолы вывезены на сярэдзіну канюшыннага поля, то гэта пляцоўка выбіраецца на адлегласьці 100 мэтраў ад пчальніка.

Для таго, каб устанавіць, на якую адлегласьць ад пасекі лётаюць пчолы, г. зн. радыус працы запылкавальнага пчальніка, трэба вылучыць яшчэ тры дзялянкі такога-ж разьмеру на адлегласьці № 2 на 200 м., № 3 на 400 м. і № 4 на 800 ад пчальніка. На гэтых дзялянках утвараецца таксама падлік прыляцеўшых на працу пчол. Падлік на гэтых дзялянках трэба зрабіць у той-жа дзень, як і на асноўнай дасьледчай пляцоўцы, ці ў наступны дзень. Калі пчальнік ня вывезены непасрэдна на канюшыну, то вызначыць адлегласьць канюшыны ад

пчальніка, а дасьледчыя дзялянкі выбраць так, каб устанавіць радыус палёту пчол на канюшыну за ўзяткам. Для таго, каб высьветліць, з якой даўжынёй хабатка пчолы працуюць на конюшыне, трэба налавіць 100 шт. пчол, якія працуюць на канюшыне і *жывымі* заварыць варам хвілін на 5, сцадзіць ваду і пакласьці ў 75⁰ сьпірт. Ня ўсе пчолы запылкавальнага пчальніка паляцяць на канюшыну, таму неабходна высьветліць, што-ж перашкаджае ім працаваць на ёй, а таму неабходна ўзяць спробы пчол ад 5—6 сямей пчальніка для біомэтрычных дасьледваньняў. Спробы бяруцца так: да звужанага лятка вульля прыстаўляюць шыйку бутэлькі ці злавіўшы пінцэтам кідаюць у тую-ж бутэльку ня менш 100 шт. ад кожнай сям'і. Заварваюць жывых варам і перакладаюць у 75⁰ сьпірт кожную спробу ў асобную бaначку, куды кладзецца этыкетка, на якой алоўкам (ня хэмічным) пішацца: 1) № сям'і, ад якой узяты пчолы, 2) дата ўзяцьця спробы, 3) адрас пчальніка і 4) хто браў спробу. Этыкетка згортваецца напісаным бокам унутр, каб аловак ня сьцёрся.

Адначасова з цьвіценьнем чырвонай канюшыны будуць цьвісьці і іншыя меданосы, а таму трэба выявіць тыя расьліны, на якіх у гэты час будзе многа пчол і на якой адлегласьці яны ад пчальніка.

Калі канюшына пасьпее, то трэба асобна сабраць яе з кожнай дзялянкі, абмалаціць і ўзважыць насеньне, як мага дакладней.

Для контролю неабходна ўзяць пад нагляд насенную канюшыну суседніх колгасаў ці саўгасаў, у якіх ня будзе запылкавальных пчальнікоў, выдзеліць там 1—2 дзялянкі, зрабіць 2—3 разы на працягу цьвіценьня канюшыны падлік чмялёў і пчол, а потым іх абмалаціць і ўзважыць насеньне.

Спробы пчол ня могуць быць апрацаваны самімі краязнаўцамі, бо для гэтага патрэбны спэцыяльныя прылады, таму для вымерваньня пчол неабходна накіраваць у Сэктар Зоолёгіі БАН.

На падставе ўсіх гэтых назіраньняў можна будзе бачыць, наколькі пчолы павысілі ўраджай насеньня канюшыны, і зрабіць вывады для далейшага выкарыстаньня іх у гэтым напрамку.

---

### Сьпіс літаратуры.


1. Андреева, Н. Роль пчелы в опылении среднерусского культурного красного клевера.—„Известия Шатиловской Обл. С.-Х. Оп. Станции", т. II, в. № 4, 1927.
2. Веприков, П. Культура трав на семена. 1931.
3. Губин, А. Опытная контрактация пчел для опыления красного клевера. „Коллективное Пчеловодное Дело" № 3—4, 1930.
4. Дабратворскі, М. Чмялі—запылкавацелі канюшыны „Наш Край", № 5, 1927.
5. „ Чмялі-зязюлі (Hymenoptera Psithyridae) „Наш Край" № 4, 1928.
6. „ Нашы чмялі. „Наш Край" № 11, 1928.
7. „ Матар'ялы да вывучэньня сельска-гаспадарчага значэньня чмялёў.—„Працы Станцыі барацьбы са шкоднікамі" пры Н.Д.І. Сельск. і Лясн. Гасп. імя Леніна", т. III, 9, 1927.
8. „ Матар'ялы да пазнаньня чмялёў Беларусі. „Матар'ялы да выв. флёры і фауны Беларусі" т. II, 1928.
9. Лисицин, П. Культура клевера на семена. 1929.
10. Манохин, И. Пчелы и клевер. „Пчеловодное Дело", № 12, 1925, „Пчела и пасека" № 8, 1927, № 3, 1929.
11. „ Результаты трехлетней работы Кунгурского О-ва Пчеловодства по применению пчел в качестве опылителей клевера. „Пчела и пасека", № 6—7, 1928.
12. „ Колхозы, утраивайте урожай, организуйте опылительные пасеки. „Колхозная пасека", № 2, 1930.

13. Рэнард, К і Лаппо, А. Матар'ялы па вывучэньню біолёгіі цьвіценьня чырвонай канюшыны (Trifolium pratense L.) рознага паходжаньня. „Запіскі Беларускай Дзярж. Ак. С.-Г., т. VI, 1927.
14. Скориков, А. Клевероводство и опылители. „Изв. Гос. Инст. Опытн. Агрономии" т. V, № 6.
15. „ Урожайность семян красного клевера и опылители. „Изв. отд. Прикл. Энтом." Г. И. О. А. т. III, в. 2, 1928.
16. „ К вопросу о поднятии семенной продукции клевера. „Изв. Гос. И-та Опытн. Агрономии" т. VI, № 2.
17. Щербаков, Ф. Энтомологические условия семенной культуры клевера на севере русского чернозема. „Труды Шатиловской С.-Х. Опытн. Ст." сер. VI. Энтомологический Отдел. 1919, № 7, 1920, № 8, 1922, № 9.

---

Л. Балкавец.

# Збор лекавых расьлін у БССР

## Агульныя заўвагі.

Загатоўка лекавай сыравіны па БССР займае значнае месца сярод іншых сельска-гаспадарчых загатовак і мае вялікае значэньне як для унутранага рынку, так і для экспорту. На гэту галіну с.-г. прамысловасьці краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і асабліва пры школах павінны зьвярнуць вялікую ўвагу ў мэтах павялічэньня нашага экспорту, падвядзеньня некаторай матар'яльнай базы пад краязнаўчыя організацыі і вывучэньня саміх лекавых расьлін для практычных мэт. Па пляне загатоўка лек. сыравіны па БССР на 1931 год разьлічана на 2.000 тон розных лекавых расьлін. З гэтай колькасьці амаль што палавіна—для экспорту.

Асобам, якія будуць зьбіраць лекавыя травы, трэба добра азнаёміцца з расьлінамі, каб не засьмеціць лекавых расьлін іншымі, падобнымі па выгляду да лекавых. Але аднаго знаёмства з лекавымі расьлінамі мала. Якасьць лексыравіны залежыць ад шмат якіх прычын: 1) ад часу зьбіраньня кожнай расьліны, 2) спосабу сушкі і 3) ад упакоўкі сухіх расьлін. Вось чаму патрэбна добра азнаёміцца як з агульнымі правіламі, якія могуць быць прыстасаваны да ўсіх расьлін, так і з тымі, якія неабходна прыстасаваць да паасобных расьлін.

Ня ўсе лекавыя расьліны можна скарыстаць цалкам, г. зн. іх корань, ліст, кветкі, насеньне, бо лекавая матэрыя знаходзіцца ў аднэй расьліны ў корані, у другой у лісьце і г. д. Напр., у дзівасіла бяруць корань, у мяты—ліст, у ліпы—кветкі. Апрача гэтага, трэба памятаць, што і вызначаныя часткі расьлін ня ў кожную пару маюць аднолькавую колькасьць лекавай матэрыі—іншыя бываюць „мацнейшымі" з вясны, другія наадварот—увосень.

Трэба таксама памятаць, што добра і своечасова сабраныя расьліны можна папсаваць няўмелайсушкай, ад якой яны могуць страціць ня толькі свой выгляд, але і лекавую вартасьць. Нарэшце, добры матар'ял можна папсаваць нядбалай альбо неадпаведнай упакоўкай. Ніжэй мы падаем кароткую параду, як зьбіраць і сушыць лекавыя расьліны, прычым папярэдне заўважым, што для сушкі трэба мець хоць-бы самыя простыя прылады: драўляныя рамы, на якія нацягнута самае простае палатно (радно). Насыпаўшы на такія рамы тонкі пласт лісьця ці кветак, іх можна паставіць на якія-небудзь падстаўкі пад павецьцю, на гумне альбо пад жалезным дахам, калі дом ці амбар крыты жалезам.

Трэба мець падрыхтаваную тару: папяровыя мяшочкі, скрыначкі, драўляныя скрынкі, шкляныя слоікі і г. д. Трэба старацца, каб сабраныя

расьліны не закрываліся на мясцох, а адпраўляліся на цэнтральныя базы; каб у часе перавозак лексыравіна не намокла і г. д.

## Агульныя правілы збору і сушкі лекавых расьлін.

1. Зьбіраць лекавыя расьліны толькі ў пагодныя, сонечныя дні.
2. Сушыць хутка, каб захаваць колер і пах.
3. Сушыць выключна ў цяні, а не на сонцы, бо ад сонца траціцца ня толькі колер, але і некаторыя лекавыя ўласьцівасьці.
4. Карэньне ачышчаецца ад пяску, абтрасаецца альбо абмываецца вадой. Калі трэба—зьдзіраецца з іх скурка. Грубае карэньне, каб яно лепей сохла, можна разразаць удоўж.
5. Ягады зьбіраць зусім сьпелымі, ачышчаць ад галінак, пяску і інш. Сушыць рассыпаўшы тонкім слоем, каб не падавіць.
6. Насеньне зьбіраць сьпелым, прасушыць на вольным паветры, падсеяць, ачысьціць.

## Якія расьліны трэба зьбіраць.

1. **Аер, явар** (Acorus Calamus). Зьбіраць карэньне ўвосень (у верасьні). Адмыўшы ў рэчцы ад пяску, абразаць бакавыя карэнчыкі, рэзаць на кавалкі (10-12 см); грубое-ж карэньне рэзаць і ўздоўж і сушыць на печы ці на рамах. Карэньне аеру ўжываецца са скуркай, г. зн. неачышчанае, і бяз скуркі. І таму трэба даведацца, колькі якога патрэбна. Абразаць скурку трэба акуратна, каб ня зрэзаць белай сярэдзіны. Высушанае карэньне добра запакаваць, каб ня страціла паху. У 1931 годзе патрабуецца 500 тон карэньня неачышчанага і 100 тон ачышчанага. Сухое ачышчанае павінна быць белае ці трохі ружаватае, крохкае, прыемна пахнучае. За 1 кілё ачышчанага аернага карэньня плаціць 25 кап., а за неачышчанае—12 кап.

2. **Блёкат чорны** (Hyoscyamus). Зьбіраць лісьце перад зьяўленьнем кветак. Сушыць трэба хутка, каб не пажоўкла. Найлепш сушыць на рамах. Ліст, які зьбіраюць пасьля красаваньня, калі ўжо ёсьць насеньне—не гадзіцца. Высушваць добра і добра пакаваць, каб не пацярушылася. Патрабуецца блёкату—240 тон, цана—24 кап. за кілё.

3. **Бярозавыя пупушкі.** Зьбіраць трэба ў красавіку, сушыць можна на печы, падаслаўшы палатно ці паперу. Пупушкі, якія ўжо распусьціліся, ці папокаліся, дрэнна пасушаныя, з гальлём—бракуюцца. Цана за кілё—50 кап.

4. **Брусьнічны ліст.** Зьбіраць у красавіку, сушыць на печы ці ў печы (пасьля хлеба), каб захаваць натуральны зялёны колер. Пачарнеўшы ці буры ліст—бракуецца. Цана за кілё 20 кап.

5. **Валяр'яна.** У БССР валяр'яны расьце многа па балоцістых лугох, каля рэчак, па нізкіх хмызьняках. Патрэба ў валяр'яне не малая, але наша дзікая валяр'яна дае лексыравіну ня высокай якасьці, і гэта, галоўным чынам, таму, што яе зьбіраюць не ў пару. Валяр'янавае карэньне можна капаць у маі задоўга перад красаваньнем, але веснавое карэньне драбнейшае і слабейшае. Найлепш капаць валяр'яну ўвосень, калі карэньне яе цяжэйшае і мае большую лекавую вартасьць. Яшчэ больш гэта вартасьць (таксама і вага) павялічыцца, калі валяр'яну скасіць да красаваньня. Карэньне капаць можна аж да замаразкаў. Выкапаўшы—абмыць ад пяску і сушыць пад дахам ці на печы, складаць у слоікі ці ў грубыя папяровыя мяшочкі, каб ня зьнік пах. Цана за 1 кілё 89 кап. Патрэбна 25 тон.

Доньнік, баркун (Melilotus officinalis) расьце па схілах чыгуначных шляхоў. Зьбіраць трэба кветкі з тонкімі верхнімі галінкамі, з лісьцем, у часе красаваньня, г. зн. прыблізна ў ліпені. Сушыць, як усе іншыя расьліны так, каб захаваць колер і пах. Цана 20 кап. за кілё.

7. Дуброўка, лапчатка (Potentilla Tormentilla). Тоўсьценькае круглаватае карэньне найлепш капаць у красавіку, абмыць ад пяску і сушыць, як і іншае карэньне. Сушанае павінна быць цёмна-бурага колеру зьверху, а ў сярэдзіне чырванаватае. Цана 36 кап. за кілё.

8. Дурнап'ян, дурман (Datura Stramonium). Зьбіраць лісьце зялёнае, перад зьяўленьнем кветак і сушыць хутка, каб не пажоўкла. Сушанае пакаваць добра, каб не пацерці, бо такая бракуецца. Цана—30 кап. за кілё. Па пляну патрэбна 10 тон.

9. Суніцы, паземкі (Fragaria vesca). Ягады зьбіраць зусім сьпелымі, сушыць на печы на палатне, можна нават і на сонцы. Сушаныя павінны быць мясістыя, чырвоныя з цёмнымі зерняткамі, ня зьбітыя ў камкі. Цана—2 руб. за кілё.

10. Цынтурыя, цьвінтарэй (Erythraea centaurium). Зьбіраць цэлыя расьлінкі з кветкамі. Карэнчыкі адрываць ці адразаць, сушыць у цяні павязаўшы ў невялічкія пучкі. Сушаныя павінны захаваць ружовы колер, лісьце—зялёны. Цана за кілё 36 кап. Патрэбна 15 тон.

11. Браткі (Violo tricolor). Усім вядомыя зёлкі, якія растуць на полі, з жоўтымі кветкамі, а часамі і трохкаляровыя. Зьбіраць найлепш у маі. Сушыць павязаўшы ў пучкі, можна і не вязаць. Цана 20 кап. за кілё.

12. Дзяцеліна чырвоная. Зьбіраць у часе красаваньня, адрываючы самыя галоўкі без сьцебялькоў. Сухія павінны быць буравата-фіялетавага колеру. Цана 25 кап. за кілё. Патрэбна 40 тон.

13. Крушына (кара). Зьдзіраецца ў вясну з маладых сучкоў цалкам, трубачкамі. Парэзаўшы сучкі на кавалкі па 15—20 сэнтымэтраў даўжынёй, зрабіць разрэз па кары ўздоўж і пакруціўшы зьняць. Зьнятыя трубачкі крушынавай кары ня трэба ні зьвязваць у пучкі, ні скручваць як лыкі ў кружкі, а сушыць вольна. Сухія павінны захаваць зьверху шэры колер, а ў сярэдзіне жаўтаваты. Цана за кілё 18 кап. Патрэбна 350 тон.

14. Лантуш (Convallaria majalis). Каштоўнае лякарства, робіцца з сьвежых лантушавых кветак на чыстым сьпірытусе, але там, дзе такая пераапрацоўка не арганізавана, зьбіраюць і сушаць кветкі. Сушыць хутка, у цяні. Сушаныя павінны быць сьветлага, жаўтаватага колеру, чуць пахучымі. Цана за кілё—2 рублі.

15. Лантушавы ліст—зьбіраць у часе красаваньня або трохі раней, у маі, хвасткі адразаць, сушыць у цяні (пад дахам), каб не пажоўклі. Цана за кілё—25 кап.

16. Дзераза (Lycopodium clavatum). Зьбіраць жоўценькія шышачкі, падобныя да сьвечак, у жніўні, калі пылок у іх ужо відаць, але яшчэ ня сыплецца. Браць без галінак і сушыць на паперы. З сухой дзеразы пылок лёгка высыплецца на паперу, і тады яго яшчэ трэба прасеяць на самае густое сіта, каб ня было сьмецьця. Цана за кілё 4 руб. Патрэбна 19 тон.

17. Ліпавы цьвет. Зьбіраць кветкі з прыкветнымі сьветлымі лісткамі. Сухі цьвет павінен быць сьветлага жаўтаватага (натуральнага) колеру, прыемна пахнуць. Цана—70 кап. за кілё.

18. Ядловец, ялавец, ядлінец (Juniperus communis). Зьбіраць сьпелыя ягады, чорныя з шызаватым налётам. Перабраць, каб ня было гальля, і сушыць. Цана—15 кап. за 1 кілё.

19. Дзьмухавец, шчотачкі, адуванчык (Taraxacum officinalis). Капаецца ў маі карэньне, адразаецца пры самым камлі, адмываецца ад пяску і сушыцца як і ўсякае іншае. Сухое павінна быць грубаватае, крохкае, бурага колеру зьверху, а ў сярэдзіне белаватае. Цана—50 кап. за кілё.

20. Папарaць мужчынская. У вёсках ведаюць толькі два гатункі папараці: вялікую (звычайную) і глухую. Але гэта „глухая“ мае многа розных гатункаў, з якіх адзін завецца „папарацьцю мужчынскай“ і належыць да лекавых расьлін. Корань гэтай папараці грубы, нібы качан, зложаны з прадаўгаватых палачак, якія ў аптэчнай справе завуцца „пальчыкамі“. Патрабуюцца толькі гэтыя пальчыкі, добра прасушаныя, чорна-бурага колеру зьверху і зялёнага ўсярэдзіне (калі пераламаць). Цана—24 кап. за кілё.

21. Рабіны. Ягады сушыць сьпелыя, чыста перабраныя, бяз усякіх лісткоў і галінак. Сушаныя павінны захаваць натуральны колер. Цана 30 кап. за кілё. Патрэбна—50 тон.

22. Сон (Pulsatilla patens). Зьбіраць раньняй вясной, як толькі зьяўляцца кветкі, з маладым лісьцем пры камлі. Сушыць можна зьвязаўшы ў пучкі. Цана 15 кап.

23. Сасновыя пупушкі—зьбіраць у красавіку, з канцоў галінак (але не з вяршынак!), адшчыкваць усю купку (каронку) цалкам, каб не рассыпаліся разам са смаліцай. Вельмі добра выкарыстаць дрэвы, якія ўжо сьсечаны. Каб не псаваць маладняк і атрымаць добры продукт, лепш зьбіраць з ніжэйшых сукоў у дрэўцах, якія ўжо вырасьлі на 6—8 мэтраў вышыні. Цана—25 кап. за кілё.

24. Зубішча, ражкі, спарыньня, якія растуць на жытніх каласох. Сушыць на печы на паперы. Цана—1 руб. за кілё.

25. Мучанішнік (Arctostaphyllos uva ursi). Зьбіраць ліст у чэрвені і ў пачатку ліпеня, сушыць хутка, каб не пачарнелі і не пажоўклі. Цана—20 кап. за кілё.

26. Бабок (Menyanthes trifoliata). Зьбіраць бабковы ліст вельмі лёгка, бо яго масамі можна знайсьці на кожным балоце. Кветкі адрываць і сушыць на рамах, рассыпаўшы тонкім пластом. Сухое лісьця павінна быць зялёнае. Цана—25 кап. Патрэбна—100 тон.

27. Кмен, кмін (Carum carvi) жаць і вязаць у невялікія снапкі, калі насеньне ўжо трохі падсыхае. Сушыць можна пад страхой, пасьля абмалаціць сухое, падсеяць, ачысьціць ад галінак і іншага сьмецьця. Цана—50 кап. за кілё.

28. Чарніцы—зьбіраць сьпелыя, сушыць на печы ці ў лёгкім духу ў печы (пасьля хлеба), каб сок не выцякаў і каб ягады ў камкі ня ссыхаліся. Перабіраць ад лісьця, сачыць, каб ня было пяску. Цана—2 р. за кілё.

29. Ваўчкі (Bidens tripartitus). Гэта трава расьце масамі на балотах у двух гатунках; зьбіраць толькі той гатунак, у якога шырэйшы ліст, як-бы на трое перасечаны. Зьбіраць перад самым красаваньнем з кветкамі, але не распушчанымі. Грубейшыя сьцебялькі адкідаць. Цана—25 кап. за кілё.

**Ад рэдакцыі.** Надаючы вялікае значэньне ўдзелу краязнаўчых організацый у павялічэньні экспорту наогул і лекавай сыравіны ў прыватнасьці, Рэдакцыя лічыць неабходным зараз-жа разгарнуць збор лекавых расьлін (якія яшчэ ня позна зьбіраць), уцянуўшы ў гэту справу вучняў, піонэраў, колгасьніц, бяднячак і сераднячак вёскі. Аб часе, месцы і парадку здачы сабранай лекавай сыравіны можна даведацца ў мясцовых аптэках і органах Наркамгандлю.

Проф. П. Ф. Салаўёў

# Вынікі вывучэньня церазьзерніцы[1]).

Іогансэн у сваёй рабоце (Johannsen W. Prof. Elemente der exacten Erblichkeitslehre. Jena 1909) шмат увагі аддае церазьзерніцы. Прызнаючы, што церазьзерніца можа быць выклікана living рознымі шкоднікамі расьліннага і жывёльнага паходжаньня, ён сьцьвярджае, што зьявы церазьзерніцы, аб якіх ён трактуе, зусім не залежаць ад шкоднікаў. Паводле аўтара, зьявы таго і іншага парадку ў большасьці *вельмі лёгка* можна адрозьніць між сабой. Правёўшы цэлы шэраг экспэрымэнтаў з ячменямі, у якіх наглядаецца церазьзерніца, Іогансэн робіць вывад, што гэта зьява *спадчыннасьці*. У той-жа час, робячы звычайны аналіз зьяў шляхам матэматычнай апрацоўкі, аўтар не дае выразнага тлумачэньня, чаму ў адны гады церазьзерніцы больш, а ў другія менш; чаму чыстыя лініі бéз церазьзерніцы даюць апошнюю і наадварот, і, такім чынам, даводзіцца спамінаць аб мутацыях[2]).

Мне здаецца, што памылка Іогансэна ў тым, што ён занадта ўпэўнена настойвае на тым, што ў яго экспэрымэнтах ня можа быць гутаркі аб удзеле шкоднікаў у афармленьні вынікаў экспэрымэнту. Таксама вельмі сьмела запэўняць, што надта лёгка адрозьніць пашкоджаньні, зробленыя шасьціногімі, ад пашкоджаньняў іншага парадку.

Я, з свайго боку, схіляюся да думкі, што ў экспэрымэнтах Іогансэна з ячменямі мела месца шкоджаньне шасьціногіх, перш за ўсё швэдзкай мушкі (Oscinella frit L.), а таксама і іншых форм (Thripidae, Chlorops taeniopus Mg., Meromyza saltatrix L., Phorbia, s. Adia genitalis Schnabl.).

Яшчэ ў 1894 г. проф. Ліндэман, маючы ўласную багатую практыку, добра растлумачыў зьяўленьне церазьзерніцы і шчарбатасьці калосься. У мяне няма ўласнай практыкі адносна ячменю, але, я на працягу шэрагу гадоў вёў нагляданьні над церазьзерніцай і шчарбатасьцю жыта і цімафейкі. Наколькі, сапраўды, *лёгка* ці *цяжка* выявіць і давесьці шкодніцкую работу ў даным выпадку вусеняў жытняй коласавай мухі (Amourosoma, s. Cleigastra flavipes Flln), я ведаю сам. Упачатку трэба было затраціць шмат часу і папрабаваць шэраг спосабаў, каб устанавіць у нашай мясцовасьці тэрмін, на працягу якога можна сустрэць унутры калосься вусені мухі, якія затым для капшукаваньня (окуливания) спадаюць на зямлю і іх адшукаць будзе ўжо цяжка. Пры апошняй умове можна было-б памылкова зрабіць той самы вывад, які зрабіў Іогансэн.

---

[1]) Церазьзерніца — шчарбатасьць каласоў жыта, ячменю, пшаніцы і інш.

[2]) Закон мутацый — закон скачкаабразнага разьвіцьця арганізмаў, якому падпарадкаваны і рост расьлін.

Але справа ў тым, што і зараз, як відаць, гэткія непаразуменьні, з лёгкай рукі Іогансэна, маюць месца.

У кнізе проф. Жагалава мы чытаем наступнае: „...паасобныя віды жыта досыць яскрава адрозьніваюцца неаднолькавай *спадчыннай схільнасьцю да ўтварэньня* бясплодных кветак, прыводзячых да т. зван. „*церазьзерніцы*“ (курсыў аўтара). Тое самае паўтарае ён і ў іншым месцы ў наступных выразах: „Так, *некаторыя збожжавыя расьліны (жыта, ячмень) бываюць схільны да так зван. „церазьзерніцы*“, г. значыць да ўтварэньня больш-менш значнай колькасьці пустых кветак, нязможных стварыць зерне. У гэткіх „церазьзерных“ ці „шчарбатых“ каласох зярняты, якія завязаліся, жывяцца заметна лепш, а таму бываюць больш буйнымі, як у каласох з нормальным і поўным налівам зерня. Пасьля гэтага зусім зразумела, што аднабочны адбор на буйнасьць зерня можа разам з тым зьявіцца адборам на малы лік завязаных зярнят, г. значыць на моцнае разьвіцьцё *церазьзерніцы. Па нагладаньнях-жа германскіх сэлекцыянэраў*[1]) *гэта адзнака зьяўляецца ў значнай меры спадчыннай і, такім чынам, можа быць лёгка замацавана ў патомстве.* Гэтыя меркаваньні прымушаюць ня толькі прымаць пад увагу поўнасьць коласу пры адборы на буйнасьць зерня, але таксама *асьцярожна адносіцца да машыннага сартаваньня і ня браць для сяўбы найбольш буйнае зерне, бо яно* (курс. аўт.) ў значнай меры можа вынікнуць ад калосься з церазьзерніцай.“

Тут асабліва выразна С. І. Жагалаў праводзіць ідэю спадчыннай перадачы *церазьзерніцы як ў жыта, гэтак у ячменю,* спасылаючыся на замежную практыку, і апрача таго робячы вывад адносна сартаваньня зярнят такога роду, што вывад можна аднесьці да шкодніцтва, хоць магчыма і несьвядомага.

Той самы аўтар прыводзіць вынікі экспэрымэнтаў Іогансэна па 1911 год уключна і, карыстаючыся табліцай апошняга, абмяркоўвае гэтыя вынікі. Тая блытаніна і неадпаведнасьць фактаў з тэндэнцыйнымі тэорэтычнымі прадпасылкамі, якія выяўляюцца ў экспэрымэнце, прымушае Жагалава высказацца гэтак, што „*на прыкладзе ячменю вывад аб неспадчыннасьці мае далейшае пацьвярджэньне*“.

Між тым сапраўды гутарка павінна ісьці аб мэханічных пашкоджаньнях, якія, як вядома, ня маюць спадчыннасьці.

Зразумела, што калі вусені мух зьелі асобныя зярняткі ў коласе, дык ня можа быць гутаркі аб *флюктуацыях*, тым больш аб спадчынных уласьцівасьцях, а неабходна гаварыць толькі аб мэханічных пашкоджаньнях. У сваёй заметцы аб „белакалосасьці жыта“ я зноў вяртаюся да Cleigastra flavipes F., а таксама дэмонструю цяжкасьці выяўленьня мэханічных пашкоджаньняў на прыкладзе клапоў (Trigonotylus ruficornis Geoffr і Notostira erratica L.). Можна было-б у некаторых выпадках тэорэтычна разважаць у тым сэнсе, што выпад з коласу асобных кветак і далей пладоў не зьяўляецца вынікам работы шкоднікаў, а няправільнай работы ветру пры апылкаваньні. Але якраз пра больш спрэчную, як жыта расьліну, спэцыяліст гаворыць наступнае: „Адным з найбольш тыповых самаапылкавальнікаў зьяўляецца ў нашых шыротах ячмень, асабліва двохрадны (Hordeum distichum)“. „У жыта гэты перанос пыльцы адбываецца пры дапамозе ветру“.

Яшчэ Ліндэман, выяўляючы сапраўдную прыроду церазьзерніцы, спамінаў аб такіх яе тлумачэньнях, якія нібы выключаюць работу

[1]) Сэлекцыянэры—тыя, хто займаецца паляпшэньнем пароды (зерня, ската, коняй) шляхам адбору лепшых экзэмпляраў.

шасьціногіх, кажучы: „З прычыны таго, што церазьзерніца робіцца прыкметнаю для гаспадара толькі пазьней, калі пачнуць пасьпяваць зярняты, г. зн. у канцы чэрвеня, дык яму *цяжка зьвязаць* гэтую хваробу калосься з работай шасьціногіх, *якія больш за месяц таму назад сядзелі ў коласе, і нічым тады ня выклікалі да сябе яго ўвагі і, такім чынам засталіся яму зусім невядомымі. Дзеля гэтага, зразумела,* (курсыў аўтара), што гаспадар і церазьзерніцу тлумачыць звычайна ўплывам надвор'я, мяркуючы, што яна вынікла пасьля дажджоў, якія ішлі ў часе красаваньня хлябоў і пашкодзілі іх апылкаваньню".

Наколькі шкодным можа быць разрыў і раз'яднаньне тэорэтыкаў (зоолёгі, этномолёгі) і практыкаў (агрономы, сэлекцыянэры), ня ўвязваючых узаемна сваю работу, паказвае наступны прыклад:

Ю. А. Філіпчанка абмяркоўвае экспэрымэнты Вавілава пры скрыжаваньні тыповых азіяцкіх і афрыканскіх форм ячменю, дзе наглядалася нават частковая бясплоднасьць, якая сьведчыць аб незалежным разьвіцьці гэтых дзьвёх груп".

У заўвазе Ю. А. Філіпчанка піша: „Вавілаў паказвае пры гэтым на гэтак званую „церазьзерніцу", г. зн. недаразьвіцьцё ў шмат якіх расьлін пэўнай часткі кветак, а таксама на зьяўленьне ў $F_2$ ад скрыжаваньня H. vulgare var polidum з Абісініі, з H. vulgare var coeleste з Японіі 4% зусім бясплодных расьлін, 15% часткова бясплодных, 66% з церазьзерніцай і толькі 15% нормальна пладавітых. *Аднак* $F_1$ *ад гэтага скрыжаваньня было зусім нормальным,* тым часам як менавіта *гібрыды* $F_1$ між болей далёкімі формамі і зьяўляюцца перш за ўсё бясплоднымі. *Міма волі ўзьнікае пытаньне: ці не залежала ў даным выпадку бясплоднасьць гібрыдаў* $F_2$, *таксама, як і церазьзерніца ад якіх-небудзь асаблівых умоў экспэрымэнту* (курсыў аўтара), а зусім не ад генэтычнай аддаленасьці афрыканскіх і азіяцкіх ячменяў?"

Мне здаецца зусім зразумелым і натуральным тое, што вялізная ўласная практыка памяшала Ю. А. Філіпчанка, не дазволіла яму цалкам далучыцца да таго тлумачэньня, якое дае сваім экспэрымэнтам Н. І. Вавілаў. *Міма волі зьявілася думка аб нейкіх асаблівых умовах экспэрымэнту.* Але тут Ю. А. Філіпчанка не дагаварыўся да канца, бо яму, магчыма, ня былі добра вядомы біолёгічныя факты з жыцьця шкодных для хлебных расьлін шасьціногіх. Дзеля гэтага, я, заканчваючы недагаворaную тут думку, прыходжу да таго, што церазьзерніца ў экспэрымэнтах Вавілава зьявілася ў выніку работы шасьціногіх, магчыма шведзкай мухі.

Пераходзячы да агульных вывадаў, я павінен выказацца наступным чынам:

1) Тэорэтычныя досьледы, якія асноўваюцца на зьявах церазьзерніцы, прыводзяць да памылковых вывадаў у тым выпадку, калі яны ня ўлічваюць у патрэбнай ступені работы шкодных шасьціногіх.

2) Аб спадчыннасьці церазьзерніцы ня можа быць гутаркі, бо мэханічныя пашкоджаньні патомству не перадаюцца.

3) Практычны вывад з вучэньня аб церазьзерніцы ў тым сэнсе, што належыць з асьцярожнасьцю падыходзіць да адбору буйнага зерня пры сартаваньні збожжа, зусім беспадстаўны. Чыстыя лініі застаюцца чыстымі лініямі, а работа шкодных шасьціногіх ідзе сваёю чаргою на палёх незалежна ад таго, якія гатункі на іх засеяны.

Вывучаючы вусені жытняй коласавай мухі (Amaurosoma flavipes F.) ня ў прыродных умовах, прымушаючы зімаваць іх капшучкі ў пакоі, я пераканаўся, што найбольш няспрыяючай для разьвіцьця мух умо-

вай зьяўляецца сухасьць паветра і сухасьць глебы, у якой зімуюць капшучкі.

Такім чынам, у гэтым напрамку павінны быць вынайдзены меры барацьбы з гэтым шкоднікам, які на нашых палёх часам прыносіць вельмі значную шкоду.

## Літаратура


1. Линдеман К. „О насекомых повреждающих колосья хлебов.“ Москва. Изд. Тихомирова 1894 (Ёсьць 3 выданьне 1913 г.).
2. Соловьев П. „Фенологические. наблюдения“. Записки Горецкого сел.-хоз. института, т. 3. 1925 г.
— „Фэнолёгічныя назіраньні ў Горках у 1925 годзе“. Працы Навуковага Таварыства. Горкі. т. I 1926.
— „Фэнолёгічныя нагляданьньні ў 1926 годзе ў Горках“. „Наш Край“ (Менск) 1926. № 12.
— „Чарговыя фэннагляданьні ў Горкак“. Запіскі Беларускай сельска-гаспадарчай Акадэміі, т. XI, 1930.
3) Жагалов, С. И. „Введение в селекцию сельско-хозяйственных растений“ Изд. 3. ГИЗ, 1930.
4) Салаўёў П. „Белыя каласы ў жыце і шкоднікі поля“. „Плуг“ (Менск) № 7, 1925.
5. Филипченко Ю. А. „Частная генетика. ч. I. Растения“ 1927.

Яз. Мацюкевіч.

# Колектывізацыя і клясавая барацьба ў вёсцы.

(*Мсьціслаўскі раён*)

На аснове ажыцьцяўленьня генэральнай лініі комуністычнай партыі, у выніку непрымірымай, бязьлітаснай барацьбы з правай небясьпекай, як галоўнай на даным этапе, і „левымі“ загібамі, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму, рабочая кляса і шырокія масы працоўных СССР пад выпрабаваным кіраўніцтвам свайго правадыра і організатара — комуністычнай партыі дабіліся за апошнія гады вялізарнейшых посьпехаў на ўсіх фронтох соцыялістычнага будаўніцтва. У галіне прамысловасьці ўжо бясспрэчна, канчаткова і беспаваротна вырашана проблема „хто каго“ на карысьць соцыялізму.

Уступленьне ў строй новых прадпрыемстваў 518 гігантаў соцыялістычнай прамысловасьці, якія будуць пушчаны ў эксплёатацыю ў бягучым годзе, яшчэ больш узмацняе позыцыі соцыялізму ў сыстэме ўсёй народнай гаспадаркі нашай краіны. СССР з краіны аграрнай, адсталай у тэхніка-экономічных адносінах хутка ператвараецца ў краіну індустрыяльна-аграрную, што зьяўляецца адным з важнейшых фактараў у справе пабудовы соцыялізму ў СССР — бацькаўшчыне сусьветнага пролетарыяту.

На аснове ўзмацненьня камандуючых вышынь у сыстэме народнай гаспадаркі, на аснове бурнага разьвіцьця соцыялістычнай прамысловасьці, стала магчымым у масавым маштабе прыступіць да перабудовы на соцыялістычны лад распыленай, дробнай бядняцка-серадняцкай сялянскай гаспадаркі. Соцыялістычная прамысловасьць, забясьпечваючы сельскую гаспадарку патрэбнымі машынамі, якія сапраўды робяць рэволюцыю на палёх, падводзіць тэхнічную базу пад колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Рост колгаснага будаўніцтва за апошнія два гады так хутка пасунуўся ўперад, што колькасныя паказчыкі колектывізацыі сельскай гаспадаркі, якія былі намечаны па пяцігодцы, даўно ўжо перасягнуты. Партыяй і савецкаю ўладаю пастаўлена перад працоўнымі масамі нашай краіны задача — да канца пяцігодкі ў асноўным скончыць колектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Гістарычны паварот бядняцка-серадняцкіх мас сялянства да соцыялізму адбыўся ў выніку ўпартай, сыстэматычнай, настойлівай барацьбы рабочае клясы і яе партыі за перавод вёскі на соцыялістычны шлях, за суцэльную колектывізацыю сельскай гаспадаркі і ліквідацыю кулацтва як клясы на яе аснове. Вялізарны размах колгаснага будаў-

ніцтва быў організацыйна падрыхтаваны ўсім ходам ажыцьцяўленьня ленінскага коопэрацыйнага пляну. На X зьезьдзе РКП(б) У. І. Ленін усебакова і падрабязна высьветліў сувязь колектывізацыі, коопэраваньня вёскі і індустрыялізацыі краіны. Ён казаў, што пераход дробных гаспадарак да гаспадаркі колектыўнай можа быць забясьпечаны толькі, „калі маеш мацнейшую буйную прамысловасьць, здольную даць дробнаму вытворцу такое дабро, што ён убачыць на практыцы перавагу гэтай буйнай гаспадаркі“. Пабудаваць соцыялізм можна толькі ў тым выпадку, калі „перавесьці гаспадарку краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу сучаснай буйнай вытворчасьці“ (Ленін). Зараз асноўныя бядняцка-серадняцкія масы сялянства на існуючых жывых прыкладах усьвядомілі і ўпэўніліся, што буйная гаспадарка мае ўсе перавагі над дробнаю, колектыўная праца над аднаасобнаю.

Перабудова дробнай сялянскай гаспадаркі на соцыялістычны лад адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Кулацтва ўсімі мерамі, усімі магчымымі спосабамі імкнецца сарваць пасьпяховы рух колектывізацыі, прымяняючы розныя мэтоды барацьбы: распаўсюджаньне чутак аб вайне, тэрор у адносінах да застрэльшчыкаў колектывізацыі, падпольная агітацыя, шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы і г. д.

Вось рад фактаў кулацкай дзейнасьці, накіраванай на зрыў пасьпяховага ходу колектывізацыі сельскай гаспадаркі, на зрыў гаспадарча-палітычных кампаній, якія праводзяцца партыяй і органамі савецкай улады. Факты ўзяты з Мсьціслаўскага раёну, дзе колектывізацыя бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак за апошнія паўтара гады значна пасунулася ўперад.

Мсьціслаўскі раён па свайму экономічнаму становішчу адзін з багацейшых раёнаў у БССР. Добрая, ураджайная чарназемна-сугліністая глеба дае магчымасьць разьвіцьця розных галін сельскай гаспадаркі. Ураджаі зернавых культур у Мсьціслаўскім раёне заўсёды вышэй, чым у цэлым радзе другіх раёнаў БССР. Нядрэнна растуць тэхнічныя культуры — лён, каноплі, бульба. Ёсьць усе падставы для інтэнсыўнага разьвіцьця жывёлаводзтва, асабліва сьвінаводзтва. У шырокім маштабе можна разьвіваць садоўніцтва. У мінулым годзе раён быў колектывізаваны па ахопу бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак усяго на 8 процантаў. Апошні год раённая партыйная організацыя разгарнула вялізарнейшую работу па мобілізацыі бядняцка-серадняцкіх мас сялянства вакол пытаньняў колектывізацыі. У выніку гэтай работы, у выніку бязьлітаснай барацьбы з кулацтвам, на аснове актыўнасьці працоўных мас, ленінскіх прынцыпаў добраахвотнасьці ў колектывізацыі выканана задача ЦК КП(б)Б і СНК аб проценце колектывізацыі сельскай гаспадаркі да дня разгортваньня масавага севу. На 15 мая бягучага 1931 году Мсьціслаўскі раён па ахопу бядняцка-серадняцкіх гаспадарак колектывізаваны на 52 проц. На 1 чэрвеня бягучага году процант колектывізацыі перасягнуў 60. Ёсьць паасобныя сельсаветы — Старасельскі, Пацолтаўскі,—у якіх праведзена амаль суцэльная колектывізацыя. Дружная і пасьпяховая работа колгасьнікаў большасьці колгасаў па выкананьні задач вясеньняй пасеўнай кампаніі, гаспадарчае замацаваньне колгасаў, што зьяўляецца зараз адным з важнейшых пунктаў програмы работы раённай партыйнай організацыі, пасьпяховае правядзеньне ўборачнай кампаніі, на што райпарторганізацыяй павінна быць зьвернута асаблівая ўвага — даюць пэўную падставу для завяршэньня да канца 1931 году суцэльнай колектывізацыі ў раёне.

У барацьбе супроць колектывізацыі кулацтва ня грэбуе ніякімі сродкамі, ніякімі мэтодамі, абы перашкодзіць, сарваць мерапрыемствы партыі і ўраду.

Перш за ўсё пушчаецца кулацтвам у ход агітацыя сярод адсталых бядняцка-серадняцкіх элемэнтаў у вёсцы. Кулацтва скарыстоўвае самыя, здавалася-б, маленькія недахопы ў жыцьці і рабоце колгасаў і на гэтых недахопах будуе сваю контр-рэволюцыйную работу па разлажэньні колгасаў, па ўнясеньні ў асяродзьдзе колгасьнікаў разладу, няверра ў колгаснае будаўніцтва, няверра ў сілы і магчымасьці зьнішчыць гэтыя недахопы. Там, дзе своечасова кулацкай агітацыі не даецца адпор, дзе не вядзецца належным чынам палітычная растлумачальная работа сярод бядняцка-серадняцкага сялянства, там іншы раз кулацтву ўдаецца адцягнуць аднаасобнікаў ад колгасаў.

Надзвычай характэрны выпадак меў месца ў Ходасаўскім сельсавеце. У пачатку сяўбы ў в. Казлоўка і Бялінец былі організаваны колгасы. У выніку кулацкай агітацыі, опортунізму мясцовай ячэйкі колгасы распаліся. Калі-ж на гэтыя вёскі была зьвернута РК КП(б)Б належная ўвага, праведзена ў вёсках палітычная работа колгасы зноў адноўлены, замацаваны і працуюць.

Кулацтва, заможніцкія элемэнты і падкулачнікі не абмяжоўваюцца, зразумела, толькі агітацыяй, накіраванай супроць мерапрыемстваў партыі і ўраду. Аблюбаваным сродкам для застрашэньня бядняцка-серадняцкіх мас сялянства зьяўляюцца размовы аб вайне. Трэба адзначыць, што асноўныя масы сялянства асабліва колгасьнікі гэтых пагроз не баяцца і самі даюць рашучы адпор клясаваму ворагу.

У Пацолтаўскім сельсавеце, калі мясцовыя савецкія працаўнікі паднялі пытаньне аб індывідуальным абкладаньні выяўленых кулакоў, яны адчынена застрашаліся кулакамі, каб гэтага не рабіць.

Ёсьць і такія выпадкі. У Рылаўшчынскім сельсавеце ў вёсцы Малая Лешчанка організаваўся колгас. Каб застрашыць колгасьнікаў, кулакі падпалілі гумно старшыні колгасу ў надзеі на тое, што маса колгасьнікаў спалохаецца і пачнецца адліў з колгасу.

Выкананьне пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца самым моцным ударам па кулаку і яго агітацыі. Вось чаму кулацтва об'ектам сваіх нападак на мерапрыемствы партыі і савецкай улады менавіта бярэ пяцігодку. Скарыстоўвае нашы „вузкія“ месцы, цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва.

Кулацтва і заможніцкія элемэнты ўсімі мерамі, усімі спосабамі імкнуцца сарваць пасеўную кампанію. У весцы Ксендзаўшчына Мазалаўскага сельсавету было ўстаноўлена, што кулацкія элемэнты на працягу ўсёй зімы амаль зусім не даглядалі, не кармілі коняй. Рабілася гэта з тою мэтаю, каб зімою ня выконваць цьвёрдых заданьняў па вывазцы лесу, а ў час веснавой сяўбы ня выконваць цьвёрдых заданьняў па пасеву.

У в. Мазалаве кулацтва ўжывае яшчэ мэтод барацьбы — гэта шкодніцтва. У в. Новае Сяло выяўлена, што некаторыя кулацкія элемэнты сьвядома сеюць пшаніцу там, дзе слаба расьце нават грэчка. Гэта робіцца з тою мэтаю, каб паказаць, што цьвёрдае заданьне выканана, але не „ўрадзіла“ нічога на полі, вось чаму і па загатоўках здаць нічога нельга.

У мэтах зрыву колгаснага будаўніцтва знутры кулацтва імкнецца пралезьці ў колгасы, практыкуючы для гэтага подкуп і спайваньне колгасьнікаў (в. Глазаўшчына).

Вось рад фактаў кулацкай работы, накіраванай на разбурэньне колгасаў, на зрыў колгаснага будаўніцтва.

Трэба адзначыць, што зараз клясавая барацьба ў вёсцы адбываецца галоўным чынам вакол колгасаў. На гэтай арэне выходзяцца дзьве сілы — пролетарыяту і працоўных мас сялянства, з аднаго боку, а з другога боку — сілы кулака і яго дапаможнікаў.

Барацьба з кулацтвам далёка яшчэ ня скончана, хаця кулацтву і нанесены руйнуючы ўдар. Адчуваючы блізкасьць пагібелі, кулацтва шалёна супраціўляецца і ўсялякімі спосабамі імкнецца адстаяць свае позыцыі.

Барацьба за суцэльную колектывізацыю БССР і на гэтай аснове ліквідацыя кулацтва як клясы — важнейшая задача соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтая задача рабочаю клясаю, бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам компартыі будзе выканана.

---

А. Я. Крукоўскі.

# Як вывучаць карысныя выкапні краязнаўчым організацыям.

У рэконструкцыйны пэрыод социялістычнага будаўніцтва вывучэньне карысных выкапняў набывае асабліва важнае значэньне.

Разгорнутая бальшавіцкімі тэмпамі індустрыялізацыя краіны, будаўніцтва саўгасаў, колектывізацыя сельскае гаспадаркі і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнае колектывізацыі, інтэнсыфікацыя сельскае гаспадаркі, шпаркае разгортваньне будаўніцтва, а ў тым ліку і жыльлёвага, дарожнае будаўніцтва, хэмізацыя народнае гаспадаркі—вымагаюць неадкладнага вывучэньня ўсіх тых відаў карысных выкапняў, якія неабходны для выкарыстаньня ў социялістычным будаўніцтве ці ў стане сыравіны для прамысловасьці, ці ў стане будаўнічых матар'ялаў, ці ў стане агро-руд.

У БССР карысныя выкапні дасьледуюцца пераважна 2 ўстановамі: 1) Геолёгічным Інстытутам БАН (рэгістрацыя месцараджэньня выкапняў, устанаўленьне генэзісу іх) і 2) Горным Аддзелам ВСНГБ (падлічэньне запасаў карысных выкапняў і ўстанаўленьне мажлівасьці і спосабу эксплёатацыі). Аднак, паказаныя ўстановы займаюцца вывучэньнем карысных выкапняў пераважна для патрэб рэспубліканскага значэньня, а шэраг запатрабаваньняў мясцовага значэньня імі не задавальняецца, а таму ў дзейнасьць краязнаўчых організацый увaходзіць у сучасны момант разгарнуць належную плянавую працу па вывучэньні карысных выкапняў, увязаўшы яе з мясцовымі плянамі социялістычнага будаўніцтва.

Дасьледваньне карысных выкапняў даволі складаная праца, тым ня меней для краязнаўчых організацый яна пасільна ў 2-х ступенях: 1) разьведваньне і рэгістрацыя месц выхаду і заляганьня карысных выкапняў, у чым могуць прыняць удзел шырокія колы краязнаўцаў, незалежна ад іх асьветы; 2) пры некаторым экспэдыцыйным і лябораторным абсталяваньні т-ваў яны змогуць праводзіць, хоць і не дакладна, вывучэньне колькаснага і якаснага складу адшуканых карысных выкапняў, што могуць выконваць больш падрыхтаваныя ў галіне геолёгічнае навукі краязнаўцы.

У тым выпадку, калі апошняя ступень дасьледчае працы для краязнаўчых організацый па розных акалічнасьцях і непасільна, дык патрэбна ўсё-ж разгортваць працу па разьведваньні і рэгістрацыі месц выхаду карысных выкапняў, бо нават праца ў паказаным кірунку мае пэўную вартасьць, як папярэдняя для сталых затым досьледаў геолёгічных і горна-пашуковых экспэдыцый.

## Якое абсталяваньне патрэбна мець для краязнаўчага вывучэньня карысных выкапняў, кошт яго і дзе можна здабыць?

Мінімальна для паказанае працы патрэбна мець наступныя экскурсійныя прылады:

1) Карту ў маштабе $^1/_{200000}$, пры дапамозе якое ўкладаюцца маршруты, па іх праводзяцца экскурсіі, а таксама на гэтай-жа карце адзначаюцца выхады і заляганьне карысных выкапняў. Пры адсутнасьці такое карты мажліва карыстацца і 5-ці км Каштуе ліст карты ў маштабе $^1/_{200000}$ ад 20—50 кап., карта 5 км. каштуе 1 р. 35 к.—1 р. 75 к.

2) Горны компас, лепш з дыёптрамі; ён патрэбны для азначэньня кірунку заляганьня пластоў (простирания пластов), нахілу (падения) і кута нахілу вынайдзеных пластоў карысных выкапняў. Каштуе ад 40—102 руб.

3) Рулетка, ці мэтр для вымераў. Першая каштуе ад 9—33 руб., другі—ад 60 кап.—1 р. 65 к.

4) Шагамер; патрэбны для вымераў, дзе ня трэба вялікая дакладнасьць, але патрэбна хуткасьць у правядзеньні вымераў. Каштуе 15 руб.

5) Геолёгічны малаток, лепш Златавустаўскага тыпу № 3 ці 4 (можна карыстацца, зразумела, геолёгічным малатком проф. Паўлава, ці кайла—французкага тыпу). Малаток неабходная рэч для адбіваньня кавалкаў напатканых мінэраляў. Каштуе 2-3 руб.

6) Набор зубіл featured рознае формы і разьмераў хоць-бы ў 3-4 штукі. Яны патрэбны для выбіваньня крышталяў, скамянеласьцяй. Каштуе паказаны набор 3-4 руб.

7) Лупа з 6—15 кратным павялічэньнем; каштуе ад 2 р. 50 к.— 6 руб. 50 к.

8) Мяшок для носкі сабраных узораў карысных выкапняў, лепш за ўсё рукзак; каштуе 3 р. 50 к.—8 р. 50 к.

9) Сякерку-кірку і жалезьнячок, лепш сапэрны; першая патрэбна для адсяканьня тычак і інш., другая для ачысткі абгаленьняў пластоў, пракопкі шурфаў. Іх можа зрабіць любы каваль, абойдуцца ў 6—10 руб.

10) Зонд, ці шчуп даўжынёю ў 2-3 м, ён патрэбны для акантурваньня карысных выкапняў.

11) Капельніцу і саляны квас 10% рошчыну для пробы прысутнасьці вапняковае матэрыі; каштуюць 1-2 руб.

12) Дастатковую колькасьць паперы, ці лепш спэцыяльныя мяшэчкі разьмерам ня менш, чым 14.22 см з матэрыі для зьбіраньня абразцоў выкапняў; запісную кніжку з нумараванымі старонкамі, блёкнот для маляваньня, алоўкі для запісу назіраньняў і каляровыя для замалёвак, этыкеткі, могуць быць у форме квітаруса. Для прац у раўчуковай мясцовасьці ня шкодзіць мець і вяроўку, пры дапамозе якое магчыма дасьледваньне абгаленьняў вельмі крутых схілаў. Пералічаныя дробныя рэчы будуць каштаваць 7-8 руб.

13) Добра яшчэ мець хоць-бы танны фото-апарат.

Неабходна, таксама мець для працы па вывучэньні карысных выкапняў для краязнаўцаў, незнаёмых з геолёгіяй, дапаможную экскурсійную літаратуру, хоць-бы наступную:

1) Первые шаги в науке о земле—Иогана Вальтера, ГИЗ, 1922 г., каштуе каля 40 к.

2) Что такое геология и как собирать геологические коллекции— П. Степанова ГИЗ 1925 г.—40 к.

3) Геологический и минералогический кабинет начальной школы— В. И. Маркина, ГИЗ, каля 40 к.

4) Геолог любитель—В. Шевченко, изд. „Красная газета“ 15 кап.

Для больш падрыхтаваных краязнаўцаў мажліва яшчэ параіць і наступныя дапаможнікі:

1) Полевая геология, т. I и II; акад. В. А. Обручева, Нефтяное издателяство НТУ ВСНХ СССР, 1930 году. — Кошт двух тамоў да 13 руб.

2) Методика гидрогеологических исследований, вып. I; Н. А. Мазарович, Материалы Центральной Гидрогеологической Станции НКЗ РСФСР, 1926 г.—3 р. 50 к.

3) Почвы и их исследование в природе — проф. Красюка. ГИЗ 1929 г. — 1 р. 75 к.

Пры адсутнасьці ў краязнаўцаў геолёгічнае падрыхтоўкі мажліва набыць такую і праз самаадукацыю, прапрацаваўшы хоць-бы наступную літаратуру:

1) Учебник геологии—проф. С. А. Яковлева, Гиз 1929 г. — 1 р. 50 к.

2) Жизнь и история земли — проф. Н. Мильковича, ГИЗ 1928 г. — 2 руб;

3) Настоящее и прошлое земли ч. I и II-ая — проф. В. К. Агафонова, АГОНО, 1926 г. 7 р. 45 к. (мажліва набыць у савецкіх букіністаў);

4) Учебник минералогии — А. Я. Герд и В. А. Герд, ГИЗ 1927 г. — 1 руб.

5) Химия — П. П. Лебедева, ГИЗ, 1930 г. — 1 р. 65 к.

6) Введение в изучение геологии Европейской России — проф. Архангельского (ёю забясьпечаны амаль усе краязнаўчыя організацыі).

Для сталае геолёгічнае падрыхтоўкі, якую могуць набыць асобы з сярэдняю асьветаю, мажліва параіць апрача прыведзенае яшчэ наступную літаратуру:

1) Введение в геологию — проф. Ф. Ю. Левинсон-Лессинг, НТО ВСНХ, 1923 г., 1 р. 50 к. (мажліва набыць у савецкіх букіністаў);

2) Физическая геология т. I и II — И. В. Мушкетова, ГИЗ, 1924 г., каштуюць каля 11 р. 50 к.

3) Минералогия — проф. Нечаева А. В., ГИЗ, 1924 г. 2 р. 75 кап.

4) Мажліва карыстацца працамі проф. Н. М. Федоровского „Генезис минералов“, „Описание минералов“ и „Определение минералов“, Гостехиздательство 1923 г., каштуюць каля 7 рубл. і мажліва выпадкова набыць у кнігарнях і савецкіх букіністаў.

5) Курс петрографии — проф. В. И. Лучицкого, ГИЗ, 1922 (таксама выпадкова мажліва набыць у савецкіх буканістаў).

6) Краткий курс кристаллографии — проф. Земятченского (мажліва набыць у савецкіх букіністаў);

7) Учебник низшей геодезии — А. Н. Бик—А. С. Чеботарева, ГИЗ, Москва-Ленинград, 1930 г., 3 р. 50 к.

8) Мажліва карыстацца і „Низшей геодезияй“,—М. Пославского Москва „Новая деревня“ 1928 г., 3 р. 25 к.

Па карысных выкапнях і геолёгіі БССР мажліва параіць:

1) Рэгістрацыйны сьпіс карысных выкапняў БССР — проф. М. Т. Бліодухо, БАН, 1931 г. 2 р. (выдадзена на правох рукапісу).

2) Геологический очерк БССР и Западной области РСФСР—проф. А. М. Жирмунского, ГТРУ ВСНХ СССР, 1930 г., 20 кап.

Пералічаныя прылады і падручнікі, за выключэньнем фотоапарату, каштуюць 175—200 руб.[1]) і набыцьцё іх пасільна можа быць для некаторых краязнаўчых організацый. Пры адсутнасьці-ж паказанае колькасьці сродкаў ад часткі абсталяваньня покуль што прыдзецца зусім адмовіцца, а частку яго можа зрабіць кожны краязнаўца.

Так, з звычайнага компасу, які каштуе 2-3 руб., магчыма зрабіць горны компас. Для гэтага бярэцца моцная, добра зробленая невялічкая 4-кутная драўляная, ці лепш мядзяная дошчачка, бакі якой павінны быць роўналежны лініям N-S, (Пн-Пд.) OW (Ус.-Зх) сама дошчачка павінна быць па лініі Пн-Пд. даўжэй, чым па Ус-Зх. На гэтай дошчачцы адчэрчваецца месца для компасу (гл. малюнак 1), а навокал яго адчэрчваецца правільная акружына для градуснае сеткі. Акружына затым пры дапамозе транспортыру падзяляецца на 360⁰ і яны занумароўваюцца так, каб нумары былі распаложаны ва ўзрастаючым парадку супроць ходу часавое стрэлкі (гл. той-жа малюнак). Потым на ўсх. баку трэба адкласьці паўакружыну, каб палавіна яе прыходзілася супроць 90⁰ акружыны компасу. Ад палавіны к канцом чвэрткі акружыны затым падзяляюцца на 90⁰ кожная і занумароўваюцца градусы так, каб на месцы падзелу паўакружны быў 0⁰, па канцох 90⁰. Пасьля гэтага на абадку компасу, ці пад абадком умацоўваецца грузік і горны компас будзе гатовы. Пры пабудове горнага компасу трэба ўнікнуць такіх мэталёвых частак, якія прыцягваюць магніт.




Мал. 1.

Заміж горнага компасу мажліва карыстацца звычайным компасам з дадаткам да яго клінамэтру і эклімэтру. Найбольш простая прылада — клінамэтр складаецца з дошчачкі даўжынёю у 25—30 см, шырынёю ў 10 см. На ёй, на 2-х простастаўных падпорках, вышынёю кожная ў 15—20 см умацоўваецца транспортыр акружынаю ўніз з грузікам. Для працы з такою прыладаю патрэбна мець рэйку даўжынёю ў 1,5—2 мэтр. Рэйка падкладваецца пад клінамэтр пры выяўленьні ступені нахілу пласта, а як гэтае рабіць, будзе сказана ніжэй.

Больш папрацаваўшы можна зрабіць і больш складаную прыладу—эклімэтар (гл. мал. 2, літ. „а"). Ён складаецца з завостранае зьнізу рэйкі, якая вышынёю ў рост чалавека, да рэйкі ў верхняй частцы прымацоўваецца вінтом або гваздом лінейка, зробленая так, як паказана на мал. 2 літ. „б", на карацейшым канцы лінейкі прымацоўваецца дугою ўніз транспортыр з грузікам. Для вэртыкальнае ўстаноўкі рэйкі бліжэй к ніжняму канцу прыбіваюцца 2 пляначкі,

[1]) Тут прынята пад увагу, што патрэбна яшчэ будзе набыць якую-колечы выдадзеную гідрографічна-геолёгічную літаратуру аб дасьледванай мясцовасьці і аб патрэбэ ў якой сказана ніжэй.

ніжняя з шпяньком, верхняя з грузікам (мал. 2, літ. „в"). Калі да верхняга краю лінейкі роўналежна ёй дадаць яшчэ простую трубачку (мал. 2, літ. „г") тоўшчаю ў 1 см у дыямэтры, у адзін канец якое ў цэнтры будзе ўстаўлена маленькае шкляное вочка, а ў другі крыжаваныя тоненькія дроцікі ці валаскі (той-жа мал., літ. „д"), то такою прыладаю, апрача вымераў нахілаў, яшчэ магчыма карыстацца і пры недакладных нівэліровачных працах. Тоненькую шкляную трубку можна здабыць у аптэцы, але яе трэба аправіць, каб пры пераносах прылады пры рабоце яна не магла разьбіцца.



Мал. 2.

Заміж трубкі лінейку можна зрабіць з дыёптрамі (той-жа мал. літ. „е"), або проста ў край лінейкі па канцох забіць 2 цьвячкі, шляпкі якіх былі-б на аднэй простай лініі, роўналежнай краю лінейкі (той-жа мал. літ. „ж").

Рулетку, пры адсутнасьці сродкаў для набыцьця яе, магчыма замяніць добраю тонкаю вяроўкаю, падзеленаю вузламі на паўмэтры і мэтры, але для змотваньня такое вяроўкі трэба зрабіць прыладу на выгляд шпулькі, да якое адным канцом вяроўка і павінна быць прывязана.

Можна абыйсьціся і без шагамеру, экскурсыйны мяшок ня цяжка і самому краязнаўцу пашыць, сякеру-кірку і сапэрны жалезьнячок можна замяніць звычайнымі лёгкімі сякерай і жалезьняком (апошні бяз ручкі каштуе 40—60 кап.).

Зонд ці шчуп можна зрабіць у больш-менш абсталяванай кузьні. Ён уяўляе сабою (гл. малюнак 3) жалезны прут круглы ці квадратовы, таўшчынёю ў дыямэтры да 2 см, мае зьверху вушка, а кнізу пераходзіць у полы паўцыліндр (ложку) дыямэтрам у 3-3,5 см з зьмеявіком на канцы (гл. на малюнку пад № 1), або толькі з адным зьмеявіком (гл. на малюн. пад № 2). У апошнім выпадку зьмеявік павінен быць зроблены такім, каб на ім магла трымацца парода. Даўжыня ўсяго зонду можа быць у 2-3 м, даўжыня ножкі з зьмеявіком ад 0,50—0,75 м, зьмеявіка да 0,50 м.

Пры дапамозе палкі, закладзенае ў вушка, зонд на манэр сьвердла глыбіцца ў зямлю і ўзьніманьнем яго паступова дастаюць з зямлі пароды.

*Увага:* Паварочваць і ўздымаць зонд лепш пры дапамозе паваротнага ключа. Гэты ключ (гл. на малюнку пад № 3) складаецца з 2-х жалезных дужак, адна з якіх робіцца адкідною на шарніры і прымацоўваецца да другое, суцэльнае з ручкамі ключа. Для круглага зонду

нутраныя часткі скобак павінны мець выгіб па дыямэтры зонду, а каб паваротны ключ лепш зажымаў зонд, дык нутраныя часткі скобак робяцца з вэртыкальнымі насечкамі ў выглядзе грэбняў. Калі зонд квадратовы, то нутраныя часткі скобак павінны быць зроблены з квадратовай дзіркай па разьмеры таўшчыні зонду. Адзеты на зонд паваротны ключ зажымаецца пры дапамозе вінта (гл. на малюн. пад № 4), пры патрэбе, аслабіўшы вінт, ён па зонду перасоўваецца ўверх і ўніз.



Мал. 3.

Набор экскурсійнага абсталяваньня ў апошнім выпадку будзе каштаваць 40—50 руб., а такія сродкі можа здабыць кожная раённая краязнаўчая організацыя.

Для азначэньня сабраных карысных выкапняў пры дапамозе паяльнае трубкі—патрэбна мінімальна мець, калі праводзіць такое па „Определителю минералов (курс минералогии, ч. III) проф. Федоровского Н. М.“ [1]) (Гостехиздательство, 1923 г., 1 р. 85 к.):

а) Прылады:

1) вагу Бэранжэ і рознавесак да яе ад 0,01—500 гр, каштуюць да 40 руб. Пры недахопе сродкаў заміж вагі Бэранжэ можна купіць рагавыя коштам ў 4-5 руб., тады гэта з рознавескам абойдзецца ў 20—22 руб., 2) паяльную трубку, 3) стэарынавыя сьвечкі (штука каштуе 15—20 кап.), 4) пляцінавы дроцік з дзяржалкай, 5) мінэралёгічны пінцэт, 6) агатавую ступку, 7) сталёвую ступку Абіха, 8) срэбную пласьцінку (яе можна замяняць і старымі срэбнымі монэтамі), 9) фарфаравую пласьцінку, 10) магніт, ці магнітную стрэлку, 11) тугаплаўкія прабіркі (набор у 4-5 шт.), 12) шкляныя адкрытыя і з аднаго канца залітаваныя трубкі (набор 10—15 штук, а можна і менш), 13) часавое шкло (набор у штук 10), 14) рагавую лыжку, 15) мэнзурку, 16) шкалу цьвёрдасьці з 10, або хоць 8 мінэраляў [2]), 17) набор сітак у 7 шт. з дыямэтр. ячэек 7 mm, 5 mm, 3 mm, 2 mm, 1 mm, 0,5, mm. 0,25 mm.

Рэактывы:

1) Буру ($Na_2B_4O_7+10, H_2O$).
2) Азотнакіслую закісь Кобальта ($CoN_2O6+6\ H_2O$).
3) Фосфарную соль ($NH_4NaHPO_4+4\ H_2O$).
4) Соду (у ёй не павінна быць сернакіслых соляй ($Na_2CO_3$).
5) Помесь ёдзістага калія і серы (KL+S).
6) Хлёрыстае волава ($SnCl_2$).
7) Мэталёвае волава ў станіёлях (Sn).
8) Окісь медзі (CuO).
9) Азотны квас ($HNO_3$) 10% рошчына.

[1]) Для азначэньня мінэраляў паводле памянёнага падручніка патрэбна меншая колькасьць прылад і рэактываў і затрата сродкаў, а з гэтае прычыны і раіцца паказаны падручнік, набор прыладаў і рэактываў для працы па ім.

[2]) Лупа паказана ў разьдзеле экскурсійнага абсталяваньня.

10) Серны квас ($H_2SO_4$) 10% рошчына
11) Саляны квас (HCL) „ „
12) Мэталёвы магній ў стане тоненькага дроціка (Mg).
13) Рэактыўную паперу чырвоную і сінюю лакмусавую і куркумавую.

Памянёных рэактываў досыць на пачатак мець на 50—75 гр, а то і менш, рэактыўнае паперы на 25—30 кап.

Усё пералічанае лябораторнае абсталяваньне і рэактывы будуць каштаваць каля 100 руб. Мажліва з АОНАП'а купіць іх спэцыяльны набор (без вагі і рознавеску), які каштуе 35 руб. і прыстасаваны ўвогуле для працы па азначніку Федароўскага, а з вагою і рознавескам ад 55—75 руб.

Набыцьцё пералічанага лябораторнага абсталяваньня ізноў такі можа быць даступна толькі для часткі краязнаўчых організацый, але мажліва і тут частку прылад зрабіць самому краязнаўцу.

Напрыклад, шкалу цьвёрдасьці 7 ступеняй можна заміж пакупное скласьці такую: 1) кавалак тальку, 2) кавалак каменнае солі, ці рагавую пласьцінку, 3) медную монэту, 4) жалезную плітку, 5) кавалак шкла, 6) кавалак палявіку, 7) кавалак кварцу ці крэменю.

Таксама ня цяжка зрабіць і паяльную трубку. Для гэтага трэба выстругаць кругла 2 палачкі таўшчынёю ў дыямэтры 2-3 см, адна з іх павінна быць з муштуком і даўжынёю ў 25 см, другая ў 10—15 см, прапячы затым па даўжыні ў абедзьвюх палачках жагалам дзірачкі і ўставіць карацейшую палачку ў ніжні канец (які без муштука) даўжэйшае пад простым кутом і атрымаецца паяльная трубка. Калі ў злучэньні (калене) трубка будзе прапушчаць паветра, то трэба месца злучэньня залітаваць чым-небудзь, хоць-бы воскам, смалою, а каб канец кароткае трубкі не абгараў на агні, то яго трэба абгарнуць мяккай бляшкай.

У раённым т-ве краязнаўства пры адсутнасьці сродкаў для набыцьця прылад і рэактываў для азначэньня мінэраляў патрэбна мець хоць-бы самадзельную шкалу цьвёрдасьці, саляны квас 10% рошчыну, лупу, фарфаравую пласьцінку, азначнік горных парод па надворных прыкметах, што абойдзецца ў 5—6 руб.

Набыць усё абсталяваньне і экскурсійнае і лябораторнае мажліва:

1) Карту ў маштабе $^1/_{200000}$ з Геокартпрому (Москва, Центр., Кузнецкий Мост, д. № 9), 5-вёрстку мажліва набыць праз ЦБК пры БАН.

2) Экскурсійнае і лабораторнае ці з АОНАП'а (Масква), ці з Кнігоспілкі (Харків, Горянівський пров., ч. 2).

Зусім зразумела, што трэба ўмець карыстацца як усімі пералічанымі вышэй экскурсійнымі прыладамі, так і прыладамі і рэактывамі па азначэньні мінэраляў, што пералічаны вышэй.

Аб карыстаньні мернымі экспэдыцыйнымі прыладамі патрэбныя даведкі дае рэкомэндаваная вышэй літаратура па геодэзіі (зварачаем увагу на аддзелы: 1) інструманты, якія ўжываюцца пры геодэзічных працах; 2) вымеры ліній на мясцовасьці, 3) здымка контураў лентай, 4) вылічэньне плошчаў, 5) бусольная здымка, 6) глазамерная здымка), а ў крайнім выпадку мажліва карыстацца хоць-бы М. В. Усковым.— „Практические работы по начальному курсу географии“ (ГИЗ, каштуе 45 кап.).

А аб карыстаньні прыладамі і рэактывамі для азначэньня мінэраляў гл. „Определитель минералов“ (курс минералогии; ч. III) проф. Н. М. Федоровского.

Тут мажліва даць толькі некаторыя кароткія заўвагі аб карыстаньні горным компасам, ці звычайным з дадаткам да яго клімэтру.

Пры дапамозе горнага компасу апрача выкарыстаньня яго для орыентыроўкі дасьледчыка і яго карт на мясцовасьці, для горызонтальнае здымкі вучасткаў заляганьня карысных выкапняў пры несагласным напластаваньні вызначаецца прасьціраньне (лінія прасьціраньня) пласту, нахіл яго (лінія нахілу) і кут нахілу (угол падения).




Мал. 4.

Прасьціраньнем пласту (гл. малюнак) завецца лінія перасячэньня нахіленага пласту з паверхняй зямлі. Лінія, якая ляжыць у плоскасьці пласту і пэрпэндыкулярная да лініі прасьціраньня (гл. той-жа малюнак), завецца лініяй нахілу пласту, ці проста нахілам. Гэтыя дзьве лініі і вызначаюць палажэньне пласту адносна старонак сьвету.

Кірункі ліній прасьціраньня і нахілу пласту вызначаюцца па наступнаму прынцыпу: дасьледчык становіцца над лініяй прасьціраньня з горным компасам, ці звычайным, орыентуе яго так, каб паўночная лінія компасу саўпала з лініяй паўночнага канца стрэлкі компасу (магнітным мэрыдыянам) і потым ці пры дапамозе дыёптраў, ці проста на вока вызначаецца кірунак лініі прасьціраньня і вызначаецца вугал паміж магнітным мэрыдыянам і лініяй прасьціраньня па адліку компасу.

Па гэтаму-ж прынцыпу вызначаецца кірунак па старонках сьвету і лініі нахілу пласту.

Больш важным зьяўляецца вызначыць лінію нахілу пласту, бо яна ўжо дае мажлівасьць вызначыць і лінію прасьціраньня, таму што яна (лінія нахілу) пэрпэндыкулярна лініі прасьціраньня. Так, напрыклад, калі ўстаноўлена, што лінія нахілу пласту мае кірунак з ус. на зх., дык відавочна, што лінія прасьціраньня будзе мець кірунак з пн. на пд., калі лінія нахілу будзе мець кірунак з пн.-ус. на пд.-зх., дык лінія прасьціраньня будзе мець кірунак з пн.-зх. на пд.-ус. і г. д.

Кут нахілу пласту вымяраецца клінамэтрам, які маецца ў горным компасе, а калі яго няма, дык тым самадзельным клінамэтрам, аб якім сказана вышэй. Паколькі паверхня пласту часта бывае няроўнаю, дык пры вымеру кута яго нахілу пад горны компас ці клінамэтр раіцца падкладаць рэйку ўздож лініі нахілу і на яе ставіць мерныя прылады (гл. малюнак), гэта гарантуе ад дапушчэньня грубых памылак.

Кут нахілу пласту адзначаецца знакам $\angle$, пасьля якога ставіцца той лік градусаў, які вызначаны прыладамі, напрыклад, $\angle 15^{\circ}$.

На геолёгічных картах прынята нахіл пласту і прасьціраньне адзначаць стрэлачкай, пэрпэндыкулярнай да лініі прасьціраньня, прычым гэты знак на картах правільна орыентуецца па старонках сьвету і пры ім пішацца лік градусаў кута нахілу.

Калі, напрыклад, на геолёгічнай карце пастаўлены знак 15° ↘, то гэта азначае нахіл пластоў на пд.-ус. пад кутом у 30°.

Гэтымі прынцыпамі патрэбна кіравацца і краязнаўцам пры азначэньні тых ці інш. нахіленых пластоў карысных выкапняў пры картаграфаваньні іх.

Трэба ўмець здымаць і маляваць пляны невялікіх кавалкаў дасьледванае мясьціны хоць-бы спосабам „глазомерной“ зьёмкі, аб чым патрэбныя матар'ялы ёсьць у паказаных геодэзіях або ў кніжцы проф. В. П. Буданава: „Для чего краеведу нужна географическая карта“ (каштуе 1 руб., але, здаецца, ёю забясьпечаны ўсе краязнаўчыя організацыі).

## Дасьледчая праца.

Праца па вывучэньні карысных выкапняў праводзіцца шляхам экскурсій і экспэдыцый і складаецца з наступных момантаў:

1) Папярэдняга азнаямленьня з намечанай для дасьледваньня мясцовасьцю па даступнай гідрографічна-геолёгічнай і глебазнаўчай літаратуры. Сьпісы яе мажліва знайсьці ў бібліографіях.

2) З укладаньня маршрутаў экскурсій ці эспэдыцый, патрэбных для адшуканьня карысных выкапняў. Тут трэба вызначыць, якой гушчыні сеткаю экскурсій ці экспэдыцый патрэбна пакрыць дасьледваемую мясцовасьць, ці іначай кажучы, у якіх конкрэтна мясьцінах павінен пабываць дасьледчык, адшукваючы карысныя выкапні і які час для гэтага патрэбна затраціць. Пры вызначэньні маршрутаў патрэбна заўсёды браць пад увагу рэльеф мясцовасьці, і асноўнымі, апорнымі пунктамі для вывучэньня патрэбна вызначаць тыя, дзе ёсьць добрыя прыродныя абгаленьні, як равы, карэнныя берагі рэк, глінішчы, розныя глыбокія ямы, якія капаюцца ў даны час, студні і інш., а таксама і тыя месцы, якія дакладна апісаны ў геолёгічнай літаратуры.

Для ўкладаньня маршрутаў патрэбна хоць-бы самае элемэнтарнае папярэдняе знаёмства з рэльефам месца досьледу, якое мажліва набыць, ці па літаратурных крыніцах, ці праз апытаньне асоб, якія ведаюць рэльеф раёну, ці вывучэньнем карты, на якой паказаны равы, стромкія берагі рэк і інш. віды рэльефу.

Пры наяўнасьці паказаных вышэй умоў маршруты будуюцца такім чынам, каб яны праходзілі праз паказаныя месцы натуральных абгаленьняў, адкуль ужо пры патрэбе ў час палявое працы краязнаўца робіць тыя ці іншыя маршрутныя адыходы, каб пры дапамозе prakopki шурфаў, зондыровак прасачыць той ці іншы від карысных выкапняў, або тую ці іншую геолёгічную зьяву.

Пабудаваныя, такім чынам маршруты, ды калі яшчэ дасьледчык умее адшукаць па карце патрэбныя об'екты на мясцовасьці, маюць тую перавагу, што дасьледчык адразу накіроўваецца ў пэўныя мясьціны выхадаў карысных выкапняў, і дасьледваўшы іх, ужо потым ці концэнтрычнымі кругамі, ці расходнымі з аднаго пункту дадатковымі маршрутамі, а калі гэта бераг ракі, ці роў, то па кірунку іх прасочвае географічнае пашырэньне знойдзенага об'екту, калі дазваляе гэтаму заляганьне, а ўсё гэта дае мажлівасьць экономіць і сродкі і час.

Калі-ж папярэдніх даных аб намечанай для дасьледваньня мясцовасьці няма такіх, якія-б дазвалялі ўкласьці маршруты так, як аб іх гаварылася, то трэба ўкладаць орыентовачна маршруты, ці зрабіць 1 мэрыдыянальны маршрут, другі шырынёвы праз тэрыторыю досьледаў па рэчных сыстэмах, а потым, па азнаямленьні дасьледчыка з мясцовасьцю, ужо мажліва будзе распрацаваць сталую сетку маршрутаў. Пры такіх акалічнасьцях патрэбна аб мясцох выхадаў карысных выкапняў зьбіраць шмат вестак ад насельніцтва, дасьледуючы затым паказаныя мясцовасьці.

Укладаньне маршрутаў патрабуе пэўнага навыку і набываецца паступова ў процэсе працы.

Падамо яшчэ пару заўваг, як пры некаторым навыку мажліва на аснове самых элемэнтарных папярэдніх вестак аб раёне намеціць маршруты, знайшоўшы тыя месцы, дзе мажліва дасьледваць тыя ці іншыя выхады парод.

На карце Мазыршчыны, напрыклад, пры рацэ будзе паказаны заліўны луг, прылягаючы ў аддаленьні, паводле даных літаратуры да морэны, сярод лугу там-сям уздымаюцца прадаўгаватыя, выцягнутыя ў кірунку цячэньня ракі грады, углядаючыся ў штрыхоўку якіх відаць, што схілы ў іх крутыя і месцамі разбураныя. Для гэтай мясьціны ў гідролёгічнай літаратуры будзе дана характарыстыка, што яна ў мінулыя часы была больш воднаю і заліўны луг зьяўляецца нічым іншым, як былым руслом ракі. На аснове гэткіх даных мажліва ўжо ўявіць сабе, што на лузе, на грудкох верхнія пласты месцамі могуць мець пераадкладзеныя безвалунныя суглінкі нязначных напластаваньняў, могуць быць лугавыя мэргелі, жалезістыя матэры—ортзанды, травяны торф, натоўпы глею, а можа быць нават і сапрапэліты. Калі дзе-колечы ў нізкім беразе ракі і будуць выступаць пяскі, то яны будуць безвалуннымі, пераважна дробна-зярністымі. Пяскі часткі пойменных град ужо некалькі будуць адрозьнівацца ад пяскоў, выступаючых на беразе ракі: яны будуць напамінаць сабою пяскі, прыкрываючыя морэну, але будуць безвалуннымі.

Такім чынам, распрацоўваючы маршруты, дасьледчык ужо наперад прыблізна можа ўяўляць сабе, якія об'екты карысных выкапняў ён напаткае, праводзячы экскурсіі, ці экспэдыцыі ў патрэбныя мясьціны.

Прывядзем другі прыклад. На тэй-жа карце Мазыршчыны будзе паказана шырокае, але няпрыкметна ўзьнятае плято, у паніжэньнях якога залягаюць непраточныя, або хоць і праточныя балоты з грудкамі сярод іх, а ў геолёгічнай літаратуры будуць весткі, што даная мясьціна распаложана ў абшарах морэнных пакладаў. Такія даныя даюць мажлівасьць меркаваць, што ў паказанай і ёй падобных мясьцінах будуць на паверхні сушы сустракацца валуны, на некаторай глыбіні морэнныя суглінкі, па забалочаных у мінулым далінках і лажбінках могуць быць пераадкладзеныя суглінкі, могуць быць і лугавыя мэргелі.

У балотах будзе сустракацца імховы торф, на грудкох, што сярод балот, могуць быць і морэнныя і пераадкладзеныя суглінкі, а месцамі сярод балот рэдка могуць пракідацца валуны, нават вялікіх памераў.

Больш таго, калі з балоцін паказаных месц будуць выцякаць рэчкі, то настоеная на торфе вада будзе ў рэчках жаўтаватага колеру, грунтавая вада і на сушы, у прылягаючых да балот частках, будзе мець жаўтавы колер і аддаваць пахам балота.

Мажліва і яшчэ прывесьці шмат прыкладаў, як на аснове папярэдніх даных аб пэўнай мясьціне мажліва пры ўкладаньні маршрутаў увогуле прадугадваць, дзе і якіх выкапняў варта шукаць, а ў адпаведнасьці з гэтым і будаваць маршруты.

3) З правядзеньня палявой працы па ўкладзеных маршрутах на вызначанай мясцовасьці перш патрэбна ўстанавіць тыпы макро- і мікрорэльефу (іх кароткая клясыфікацыя і прыкметы прыведзены ў проф. Красюка: „Почвы и их исседование в природе"), а затым ужо патрэбна дасьледваць і карысныя выкапні, якія тут ёсьць.

Дасьледваньне пакладаў карысных выкапняў робіцца так: лапатай ачышчаецца (асьвяжаецца) знойдзенае абгаленьне ад самага верхняга да самага ніжняга пласту, праводзіцца затым вымер мэтрам ці рулеткай тоўшчы кожнага пласту паасобку; калі несагласнае напластаваньне парод, дык пры дапамозе горнага компасу, а ў некаторых выпадках і эклімэтру, вызначаецца кірунак заляганьня пластоў, нахіл, кут нахілу (падение и угол падения), і ўсё гэта занатоўваецца адразу ў запісную кніжку і замалёўваецца каляровымі алоўкамі.

Вось прыклад апісаньня абгаленьня (парадак запісу нісходзячы).

Зачыстка № 3 левага берагу Друці ў 200 м. на пд. ад в. Румок Старасельскага с/с. Рагачоўскага р-ну.

1) Перагнойны пласт 0,15 м.

2) Пясок сьветла-шэры з жаўтаватым адценьнем, кварцавы з дамешкай жоўтае сьлюды, дробнага, чорнага мінэралю і глаўконіту, няроўназярнёвы (пераважае дробны) з уключэньнем галькі крышталёвых парод, няроўнасьцю акатаны—0,95 м.

3) Супесь карбонатная бура-жоўтага колеру са зьвілістымі жылкамі чырвонага суглінку і паземнымі вапняковымі жылкамі—1,45 м.

4) Пясок рознакалёрны, кварцавы з дамешкай палявіку, глаўконіту і дробнага грозьдзевіднае формы крэменю, няроўназярнёвы з гравіем і галькай пераважна крышталёвых і радзей вапняковых парод, карбонатны—1,70 м.

5) Пясок сьветла-шэры з слабым зеленаватым адценьнем, акатаны, дробны, кварцавы з дамешкай глаўконіту і акатанага крэменю, з вапняковымі жыламі да глыбіні 2,60 м, а з глыбіні ад 3,70—3,84 м з жалезістымі жылкамі; карбонатны ў верхняй частцы пласту да глыбіні 3,60 м і ў ніжняй з глыбіні 4,56—5,38 м.

Увага: Мажліва апісваць пласты парод і ў васходзячым парадку, але гэтае заўсёды тады і трэба адзначаць у запісах, каб потым не пераблытаць парадку напластаваньня.

Цяпер гл. замалёўку таго-ж абгаленьня на геолёгічным профілі. мал. 5 на стар. 77).

Пасьля гэтага патрэбна адпаведным умоўным знакам на карце, з якою дасьледчык працуе, адзначыць месца выхаду карысных выкапняў.

Звычайна раіцца яшчэ і нумараваць яго, але як у першым, так і ў другім разе №, пастаўлены на карце, трэба занатаваць і ў запісной кніжцы ў тым месцы, дзе апісаны выкапні, адзначаныя на карце.

Затым трэба ўзяць узоры парод з апісаных пластоў, адпаведным чынам напісаўшы да іх этыкеткі. Разьмер узораў парод трэба браць найбольшы, бо пры малым разьмеры немажліва будзе і азначыць іх і скласьці музэйныя колекцыі.

Сярэдні разьмер узораў карысных выкапняў я параіў-бы браць 12.12.12. см, або 16.16.16. см, усякія-ж пароды з прыкметнымі рака-

вінамі лепш, зразумела, браць цалкам. Паколькі пароды і карысныя выкапні з глыбінёй мяняюцца, дык лепш, зразумела, браць узоры па-пластна праз кожныя 25 см, але калі дзеля розных прычын дасьледчык гэтага ня можа зрабіць, то трэба абавязкова ўзяць узоры парод карысных выкапняў і парод з кожнага пласту, а таксама абавязкова браць па-пластна ўсе напатканыя скамянеласьці (палеонтолёгічны матар'ял).




Мал. 5.

Пры ўзяцьці ўзораў парод трэба яшчэ на месцы зрабіць пробу іх саляным квасам, каб даведацца, ці ёсьць вапняковыя матэрыі і аб гэтым адзначыць у запісах.

Этыкеткі для ўзораў парод, як ужо сказана вышэй, мажліва рабіць у форме квітарусаў, іх трэба сшыць і пранумараваць, а ў зьмест іх павінна ўваходзіць:

1) Ачыстка парод праводзіцца не па тоўшчы пластоў, а па пашырэньні іх, каб не замазваць вышэй ляжачай пародай падсьцілаючае, ніжэйляжачае пароды.

2) Паказваецца глыбіня заляганьня падошвы пласту; таксама апісваюцца пароды і пры дачы зондыровак і шурфаў: 1) № горнае вырабаткі, пры дапамозе якое парода дабыта (прабоіна, зондыроўка, шурф, зачыстка), 2) № сьпісу, № узору пароды ці выкапню, 3) глыбіня ў мэтрах ад паверхні, 4) назва пароды, 5) месца распалажэньня, адкуль узята парода, 6) дата і паказаньне колькасьці ўзятых узораў, 7) прозьвішча дасьледчыка.

Мажліва параіць узор этыкетак, прынятых Геолёгічным І-тутам БАН, вось узор яе:

Карашок этыкеткі

праб. № .......... шрф. № .......... зч. № ..........
Сьпіс № .......... Узор. № ..........
Глыб. .......... мэтр.
Парода ..........
Месцазнаходж. ..........
..........
..........
193 ..... г. Кольк. .......... т. .......... шт.

Адрыўная этыкетка

праб. № .......... шрф. № .......... зч. № ..........
Сьпіс № .......... Узор. № ..........
Глыб. .......... мэтр.
Парода ..........
Месцазнаходж. ..........
..........
..........
193 ..... г. Кольк. .......... т. .......... шт.

Запаўняць адрыўную этыкетку, калі парода сухая, можна хэмічным алоўкам, калі сырая, дык лепш простым, бо хэмічны аловак можа разыціся, размазацца і нельга будзе разабраць, адкуль парода ўзята.

Вышэйапісаным спосабам досьледваньня напатканых парод трэба карыстацца і тады, калі прыходзіцца дасьледваць мясьціны, дзе натуральных абгаленьняў, як равоў, карэнных берагоў рэк і інш. няма, а трэба рабіць зондыроўкі, спэцыяльныя пракопкі ці так званыя шурфы.

Пасьля таго, як знойдзены карысны выкапень зарэгістраваны, апісаны і адзначаны адпаведным умоўным знакам на карце, дык мажліва пры патрэбе правесьці дасьледваньне хоць-бы груба орыентыровачна запасаў знойдзенага выкапню.

Дасьледваньне запасаў выкапняў праводзіцца рознымі спосабамі ў залежнасьці ад характару выкапню і ўмоў яго заляганьня.

Калі карысны выкапень залягае пластам і на невялікай глыбіні, дык мажліва параіць наступны спосаб: прасачыўшы ўсе месцы выхаду карыснага выкапню ў натуральных абгаленьнях, затым патрэбна пры дапамозе шурфаў, зондыровак і пракопак (гл. схэматычны плян) акантурыць яго, ці інакш кажучы, прасачыць яго плошчу заляганьня.



Мал. 6.

Устанавіўшы, такім чынам, межы пашырэньня выкапню патрэбна зрабіць горызонтальную здымку плошчы, занятай выкапнем з нанясеньнем на гэты плян усіх зробленых горных выпрацовак (шурфаў, зачыстак, пракопак, зондыровак).

У найбольш характэрных мясцох патрэбна горнымі выпрацоўкамі прайсьці тоўшчу пласту выкапню, каб атрымаць аб гэтым сярэднія даныя і, такім чынам, даныя аб плошчы выкапню і сярэдняй тоўшчы пласту ўжо і даюць мажлівасьць орыентыровачна вызначыць запасы выкапню.

Паколькі карысныя выкапні з глыбінёй заляганьня мяняюцца, дык гэта трэба і высьветліць укладаньнем шырынёвых і мэрыдыянальных профіляў праз вучастак заляганьня карысных выкапняў.

Даныя для гэтага набываюцца ў процэсе працы па акантурваньні вучастку і яго горызонтальнай здымцы, але дадаткова патрэбна яшчэ пры дапамозе нівэліраваньня, калі паверхня вучастку няроўная, устанавіць адносныя вышыні вусьця горных выпрацовак, расположаных па патрэбных кірунках, прыняўшы адну з іх (вышыню

вусьця горнае выпрацоўкі) за асноўную (0) і ўжо на аснове ўсіх паказаных даных геолёгічны профіль будуецца так, як гэта паказана на прыкладзеным малюнку.

Падлічэньне запасаў тых карысных выкапняў, якія залягаюць не пластамі, а паасобнымі гнёздамі і згуртаваньнямі (напрыкл., валунныя




Мал. 7.

награмаджэньні), больш складаная справа. Для высьвятленьня запасаў такіх выкапняў мажліва параіць наступны спосаб: перш варта на аснове абгляду плошчы, занятае выкапнем, разьбіць яе на пласобныя вучасткі з прыблізна аднолькавай колькасьцю выкапню, а потым выбраўшы тыповыя вучасткі патрэбна ўжо зрабіць падлічэньне запасаў, апрадзяліўшы колькасьць іх у куб. м на пэўную плошчу, напрыклад, на 1 га, 2 га і г. д. У радзе выпадкаў тут тады патрэбна будзе з пэўнае плошчы сабраць карысныя выкапні ў крушні, каб выявіць колькасьць іх на пэўнай тыповай плошчы.

Тым-жа спосабам варта карыстацца пры высьвятленьні колькаснага складу такіх карысных выкапняў, якія залягаюць уключэньнямі ў інш. пародах (напр., фосфарыты).

Закончыўшы палявую працу па адшуканьні карысных выкапняў, затым патрэбна апрацаваць сабраныя матар'ялы.

Паколькі памянёная апрацоўка і зацяжная і складаная справаі то сабраныя матар'ялы, запісы аб іх патрэбна перш прывесьці ў таквід, каб яны маглі пэўны час захоўвацца і ў іх мажліва было разабрацца. Для гэтага ўсе ўзоры выкапняў сартуюцца па нумарох абгаленьняў і пластоў, пераглядаюцца ўсе этыкеткі, намокшыя, або паі цёртыя з іх замяняюцца сьвежымі, робяццатыя ці іншыя папрэяў

ў палявых нататках, а затым ужо распачынаюць самую апрацоўку матар'ялаў, якая складаецца з наступных момантаў:

а) Азначэньня сабраных парод пры дапамозе тых прылад, рэактываў і адзначнікаў, сьпіс якіх паказаны вышэй, адзначаючы па мажлівасьці іх якасьць і для якіх патрэб іх варта выкарыстоўваць.

Увага: Карысна зрабіць некаторае і тэхнічнае апрабаваньне карысных выкапняў.

Напрыклад, прыгоднасьць суглінку ці гліны на выраб цэглы можна зрабіць на цагляным заводзе, прыгатаваўшы з тыповых узораў знойдзеных карысных выкапняў некалькі цаглін.

Таксама прыгоднасьць вапнякоў для вырабу вапны мажліва ўстанавіць апрабаваньнем па вапельні і інш.

б) Укладаньня апісаньня карысных выкапняў, у зьмест якога ў асноўным павінна ўваходзіць:

1) Характарыстыка карысных выкапняў, якая павінна даць клясыфікацыю выкапняў па групах, апісаньне колькасьці і якасьці іх і генэзісу, калі гэтыя даныя набыты;

2) Зьвесткі аб географічным разьмяшчэньні паасобных выкапняў, аб умовах знаходжаньня з кароткай характарыстыкай выкапню, даныя аб распрацоўцы карыснага выкапню, хоць-бы па форме, якая ўжываецца ў працах Геолёгічнага інстытуту.

Вось яна[1]):

| № па парадку | Назва пароды або мінэралю | Месцазнаходжаньне адкладу або згуртаваньня | Характарыстыка карыснага выкапню і ўмовы яго знаходжаньня | № узору пароды або мінэралю | Даныя аб распрацоўцы карыснага выкапню |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

У тым выпадку, калі краязнаўчым організацыям непасільна ўкладаць апісаньні карысных выкапняў па вызначанай схэме, дык мае вартасьць скласьці па вызначанай форме толькі рэгістрацыйны сьпіс выкапняў.

в) Укладаньня карты карысных выкапняў на аснове палявых досьледаў і картаграфаваньня (гл. мал. 8 на стар. 81).

Затым неабходна яшчэ папулярызаваць сярод шырокіх колаў працоўных савецкіх устаноў, організацый і плянавых органаў вынікі праведзенай працы, ці інакш гаворачы, неабходна вынікі дасьледчай працы абярнуць у краябудаўнічыя мэты, аддаць на справу соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэта варта правесьці ў форме пастаноўкі дакладаў з дэмонстрацыяй узораў выкапняў, а таксама склаўшы ў музэі колекцыю карысных выкапняў, зрабіўшы, такім чынам, і папаўненьне і выстаўку вынікаў дасьледчай працы ў музэі з адпаведнымі комэнтарыямі экспонатаў.

Якія карысныя выкапні патрэбна вывучаць?

Патрэбна вывучаць усе тыя карысныя выкапні і пры тым сыстэматычна, якія ёсьць і могуць быць напаткаваны ў р-не працы краязнаўчае організацыі.

Як вядома, у БССР карысныя выкапні прадстаўлены пераважна нярруднымі выкапнямі, якія звычайна лічыліся малакаштоўнымі.

[1]) Прыводзіцца крыху ў скарочаным стане.

Аднак вялізарнае разьвіцьцё ў СССР і ў тым ліку ў БССР тэхнікі і хэмізацыі ў рэконструкцыйны пэрыод социялістычнага будаўніцтва даюць мажлівасьць шырокага выкарыстаньня і тых нярудных выкапняў, якія лічыліся малакаштоўнымі.

Карысныя выкапні ў БССР прадстаўлены наступнымі групамі:

1) крышталёвымі і асадачнымі пародамі, занесенымі сюды ледавікамі; яны годны на розныя будаўнічыя патрэбы;

Умоўныя знакі для картаграфаваньня карысных выкапняў

| | |
|---|---|
| Крэйда | Гліна істужкавая |
| Торф | Маргель |
| Галечнік | Крэмень |
| Лёс | Валун крышталёвы |
| Граві | Жалязьняк |
| Валун вапняковы | Фасфарыт |
| Гліна | Супесь |
| Крыніца жалезістая | Пясок |
| Вапняк | Траверцын |
| Крыніца салёная | Апока |
| Інфузорная зямля (трэпел) | Суглінак |

Іскрак (калчадан)

Мал. 8.

2) асадачнымі пародамі, якія ўтварыліся тут у мінулыя геолёгічныя часы; яны часткаю годны на розныя будаўнічыя патрэбы, а часткаю ў стане агро-руд для ўгнаеньня палёў;

3) выкапнямі, утворанымі з рэштак расьлінных і жывёльных організмаў у выніку фізычных і хэмічных процэсаў, што адбываюцца на сушы і у вадзе; гэтыя выкапні знаходзяць тое-ж ўжываньне, што і папярэднія.

З паказаных груп у сучасны пэрыод па БССР вядомы наступныя выкапні:

1) долёміты, долёмітызаваныя вапнякі, вапнякі як пластовыя, так і згуртаваньнямі і ўключэньнямі ў інш. пародах;

2) крэйда;
3) маргелі розных утварэньняў;
4) травэрцыны;
5) крэмні;
6) трэпелы, дыятоміты і інфузорная зямля;
7) апока;
8) валуны крышталёвых парод, галечнік, гравій, розныя пяскі (гляўконітавыя, для шкляных вырабаў і інш.).
9) розныя гліны і суглінкі;
10) лёэс;
11) фосфарыты;
12) торф і сапропэліты;
13) мінэральныя фарбы (умбры, охры);
14) мінэралізаваныя крыніцы.

Група рудных выкапняў прадстаўлена 3-ма адменьнікамі жалязьнякоў, бурымі (ліманіты) чырвонымі (гэматыты) і вівіянітамі (фосфарна-кіслымі).

Зразумела, што ўсе выкапні пералічаных груп і падлягаюць дасьледваньню, але калі няма мажлівасьці вывучаць усе віды, то патрэбна дасьледваць хоць некаторую частку іх, улічваючы пры разгортваньні данай працы задачы социялістычнага будаўніцтва ў адпаведнасьці з вызначанымі плянамі выкананьня іх.

Увага: Пры ўкладаньні інструкцыі выкарыстана літаратура: „Первые шаги в науке о земле"—Иогана Вальтера; „Что такое геология и как собирать геологические коллекции"—П. Степанова; „Определение минералов" (курс минералогии, ч. III) проф. Н. М. Федоровского; Працы па геолёгіі і карысных выкапнях БССР—проф. М. Т. Бліодухо; „Введение в геологию"—проф. Ф. Ю. Левинсон-Лессинг; „Разведочное дело"—проф. А. В. Арсеньева; Кароткая інструкцыя да зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі"—проф. Б. К. Тэрлецкага.

Проф. А. М. Бальшакоў.

# Апалітычнае вывучэньне мясцовага краю нам непатрэбна.

М. В. Муратов — *„Изучение местного края“*. Опыт введения в краеведение. 3-е пересмотренное и дополненное издание. 1930 г., „Работник Просвещения“, 175 стр., ц. 1 р. 55 к.

М. В. Муратаў — краявед з вялікай эрудыцыяй і з шматгадовай практыкай у краязнаўчай рабоце. Першае выданьне памянёнай кнігі зьявілася яшчэ ў 1919 г., другое — у 1925 г., і, урэшце, трэцяе, якое мы тут разглядаем, у 1930 г.

Спачатку — маленькая заўвага. Муратаў у розных месцах сваёй кнігі спасылаецца на шэраг выданьняў, якія вышлі ў 1930 г., а таксама і на рэзолюцыі IV усерасійскай краязнаўчай конфэрэнцыі, склікапай у канцы сакавіка 1930 г. Значыцца, „Изучение местного края“ вышла ў сьвет не раней паловы 1930 г.

Але ці можа работа Муратава сапраўды ўвесьці савецкага краяведа ў вывучэньне мясцовага краю наогул і найбольш актуальных проблем сучаснасьці ў паасобку?

Адказваем: не.

У чым справа? Чаму не?

Мы ведаем, што ўжо III усерасійская краязнаўчая конфэрэнцыя, быўшая ў сьнежані 1927 г., намеціла новую ўстаноўку ў краязнаўстве, якую можна азначыць тэрмінам „савецкае краязнаўства“. IV конфэрэнцыя, прадбачачы, што к часу адчыненьня яе, г. зн. к сакавіку 1930 г., соцыялістычнае будаўніцтва шырока разгорнецца ў СССР, высунула лёзунг аб ператварэньні краязнаўства „ў адну з форм садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву“. Разам з узмацненьнем соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне, расьлі і разыходжаньні ў краяведным асяродзьдзі. У пачатку 1930 г. выразна вызначыліся два варожых лягеры: пераважная большасьць краяведаў, якія ідуць з масамі працоўных да соцыялізму, і мізэрная жменька краяведаў, якая, не разьбіраючы сродкаў, спрабавала ўзарваць фундамант соцбудаўніцтва.

Прымаючы пад увагу ўсё сказанае, якія патрабаваньні мы ня толькі маем права, але і абавязаны прад'явіць да кнігі, якая зьяўляецца ўводзінамі ў краязнаўства і выдана пасьля IV конфэрэнцыі, у палове (калі не ў канцы) 1930 г.?

Гэта работа, выданая ў 1930 г., бязумоўна, павінна мобілізаваць думку і волю краяведаў на вырашэньне задач соцыялістычнага будаўніцтва і на барацьбу з правымі і „левымі“ ўхіламі ў краязнаўстве.

Падыходзячы з гэткімі патрабаваньнямі да „Изучения местного края“ Муратава, мы пераконваемся, што гэта работа станоўчага адказу на іх не дае.

Трэба адзначыць, што тэрміны „савецкае краязнаўства“ і „кляса“ на працягу 175 старонак ужываюцца па адным разе, а „соцыялістычнае будаўніцтва“ фігуруе 3-4 разы. Але самае прымячальнае тое, што ўсе памянёныя тэрміны ўзяты ў цытаты. Аўтар, цытуючы некаторыя рэзолюцыі IV конфэрэнцыі, прыводзіць і памянёныя тэрміны. Вядома, „з песьні слова ня выкінеш“.

Мы не за „р-р-рэволюцыйную“ (праз тры „р“) фразэолёгію. Славесна-рэволюцыйная страляніна, хаваючая часта ўбоства думкі, а іншы раз і контр-рэволюцыйны спосаб дзейнасьці, нам не патрэбна. Але-ж у штодзённым ужываньні кожнай эпохі, кожнага пэрыоду ёсьць такія тэрміны, адсутнасьць якіх у мове таго ці іншага асобнага чалавека выклікае нявольнае, зусім натуральнае зьдзіўленьне.

Муратаў вызначае сутнасьць краязнаўства ў 1930 г., пасьля IV конфэрэнцыі, кажучы, што IV конфэрэнцыя, у рэзолюцыі па дакладу П. Г. Сьмідовіча, дала азначэньне краязнаўства, дзе сказана, што „савецкія ўмовы высоўваюць на гэту работу шырокія масы працоўных гораду і вёскі і тым самым ператвараюць савецкае краязнаўства ў адну з форм садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву“ (стар. 8). Скончыўшы агляд, Муратаў прапануе і сваё ўласнае азначэньне: „Такім чынам, падводзячы вынікі, можна сказаць, што краязнаўства, концэнтруючы ўвагу на вакольным, у той-жа час ёсьць вельмі шматгранная работа, дасьледчая і практычная, грамадзкая і асьветная ў адзін і той самы час. У ёй могуць узяць удзел самыя рознастайныя людзі, і яе вынікі можна скарыстаць у самых рознастайных формах будаўніцтва і жыцьця. Як усякая грамадзкая работа, у якой бярэ ўдзел шмат людзей, раскінутых па ўсіх мясцох краіны, маючых розны ўзровень ведаў і падыходзячых да гэтай справы з розных пунктаў, яна можа быць пасьпяховай толькі ў тым выпадку, калі будзе належным чынам пабудавана“ (стар. 15).

Калі мы параўнаем муратаўскае азначэньне краязнаўства з азначэньнем, даным на IV конфэрэнцыі, дык убачым, што нам аўтар дае такое азначэньне, пад якім абедзьвюма рукамі падпішацца кожны краявед антысавецкага напрамку. Замест „шырокіх працоўных мас“ у Муратава фігуруюць нейкія падазроныя „самыя рознастайныя людзі“ і „шмат людзей“. Мы наўмысьня імкнемся да аднастайнасьці і кажам толькі аб працоўных, толькі іх жадаем бачыць у шэрагах краяведаў. „Рознастайныя“ людзі нам зусім не патрэбны—яны зрабілі досыць шкоды для краязнаўчага руху. Пойдзем далей. Замест таго, каб сутнасьць краязнаўства паказаць у „садзейнічаньні соцыялістычнаму будаўніцтву“, Муратаў разважае аб „шматграннай рабоце“, вынікі якой „можна скарыстаць у самых рознастайных формах будаўніцтва жыцьця“. Што ўкладае Муратаў у сваё „будаўніцтва жыцьця“? Вось, напрыклад, група краяведаў з БССР, цяпер выкрытых, так арганізоўвала сваю краязнаўчую работу, каб яна была карыснай на выпадак інтэрвэнцыі ворагам Саюзу ССР. Гэтыя контр-рэволюцыянэры беларускія нацдэмы таксама мелі на ўвазе „будаўніцтва жыцьця“, але галоўнае пытаньне ў тым—якое і чые?.. Чаму-б Муратаву выразна і проста не сказаць аб соцыялістычным будаўніцтве, як сутнасьці краязнаўства?..

Калі-б Муратаў даў сваю формулу азначэньня краязнаўства да IV конфэрэнцыі, г. зн. да 1930 г., яна-б, магчыма, і не заслугоўвала

асаблівых протэстаў. Але даваць яе *пасьля* IV конфэрэнцыі,—значыцца звадзіць краяведаў з сапраўднага і шырокага шляху на нейкія абходныя сьцежкі, якія могуць маласпрактыкаванага і даверлівага краяведа завесьці туды, куды *савецкаму* краяведу зусім ня трэба ісьці...

Возьмем надзвычайна важны разьдзел кнігі Муратава аб краязнаўчым музэі. Для Муратава краязнаўчы „музэй зьяўляецца ўстановай, якая, з аднаго боку, вядзе вывучэньне мясцовага краю, а з другога — разгортвае вельмі важную асьветную работу“ (стар. 129). Зноў-жа—для кнігі, выданай у 1930 г., вельмі ўжо бяззубае азначэньне сутнасьці краязнаўчага музэю. Для нас краязнаўчы музэй павінен весьці ня проста „вельмі важную асьветную работу“, а абавязкова такую, якая памагла-б наведвальніку зразумець вакольнае жыцьцё ў сьвятле дыялектычнага матар'ялізму і такім спосабам дапамагчы наведвальніку зрабіцца сьвядомым і актыўным удзельнікам у соцыялістычным будаўніцтве...

Можна было-б яшчэ шмат сказаць у сувязі з „Изучением местного края“ Муратава. Але, абмежаваныя месцам, мы зробім толькі некаторыя заўвагі аб нейкай нядбайнасьці ў апрацоўцы кнігі, паколькі яна рэкомэндуецца аўтарам як выданьне „перагледжанае і дапоўненае“.

На некалькіх старонках (7, 137 і інш.) аўтар кажа аб воласьці, як тэрыторыяльным об'екце вывучэньня для краяведа. Для 1930 г. „воласьць“ паняцьце гістарычнае. Трэба паставіць „раён“. Муратаў спамінае вядомую работу А. І. Шынгарова „Вымирающая деревня“, выданую задоўга да рэволюцыі—у 1901 г.—і ў той-жа час абыходзіць моўчкі марксыцкую работу К. Шуваева „Вымирание и возрождение деревни“, выданую ў 1929 г., у якой якраз апісан той самы раён, як і ў Шынгарова, але толькі ва ўмовах рэволюцыйнага жыцьця. Параўнаньне гатова,—яго трэба было толькі падкрэсьліць. Мая монографія „Советская деревня“ спамінаецца аўтарам у выданьні 1924 г., хоць пасьля 1924 г. вышлі яшчэ два яе выданьні, нанова пераапрацаваныя. Такіх заўваг шмат...

Канчаючы рэцэнзію, трэба сказаць, што кніга М. В. Муратава „Изучение местного края“, будучы работай наскрозь апалітычнай, ня можа быць уводзінамі ў краязнаўства ў сучасны этап соцыялістычнага будаўніцтва—у пэрыод завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР.

# ХРОНІКА.

## Пад знакам ажыўленьня краязнаўчае працы.

### Краязнаўчы рух разгортваецца.

*(Смалявіцкі р.)*

Краязнаўчая праца ў Смалявіцкім раёне ажывае. У выніку правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі і далейшай працы па разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне арганізавана 16 краязнаўчых ячэяк з агульным лікам членаў — 184 чал. У склад членаў уваходзяць 76% працоўнага сялянства і 24% служачых. 66% уваходзячых у склад ячэек сялян складаюць колгасьнікі, 24%—сяляне серадннякі, 5%—батракі і астатнія 5% — беднякі. Партсклад ячэяк наступны: 12% члены КП(б)Б, 12% члены ЛКСМ, а астатнія 76% беспартыйныя. Па нацыянальнаму складу — 97% беларусы і 3% яўрэі.

За апошнія 2 месяцы ў сувязі з падрыхтоўкай да другой бальшавіцкай вясны арганізавана 5 краязнаўчых ячэяк, з якіх 3 пры школах і 2 пры колгасах. Усім ячэйкам даны заданьні па вывучэньні мясцовых карысных выкапняў, 5 ячэяк вывучаюць пытаньні і вынікі пераходу колгасаў на зьдзельшчыну, арганізацыю і пастаноўку працы ў колгасах (соцспаборніцтва, ударніцтва і інш.), 3 ячэйкі вывучаюць шкоднікаў с.-гаспадаркі і спосабы барацьбы з імі. Адна ячэйка праводзіць фэнолёгічныя назіраньні, а ячэйка пры Смалявіцкай Школе Колгаснай Моладзі вывучае квасаасьць глеб раёну, між іншым ёю да 15 мая г/г. зроблена 52 аналізы глебы. 90% ліку ўсіх сяброў ячэяк прымаюць самы актыўны ўдзел амаль што ва ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаніях. Ячэйкамі за час студзень 1930 г. — красавік 1931 г. сабраны і апрацаваны адзін гербарый і 2 заолёгічных колекцыі, за гэты-ж час у пэрыодычных выданьнях БАН зьмешчаны 2 артыкулы: „Лекавыя сродкі ў народнай мэдыцыне" і „Шкодныя, атрутныя і страўныя грыбы, адшуканыя ў Смалявіцкім раёне". Прадстаўнікі (сакратары) усіх краязнаўчых ячэяк праінструктаваны па асноўных актуальных задачах краязнаўчай працы.

Побач з адзначанымі дасягненьнямі ў краязнаўчым руху ў Смалявіцкім раёне маюцца яшчэ і слабыя месцы ў ёй, з якіх неабходна адзначыць наступныя:

1. Не разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых арганізацый.
2. Не разгорнута праца па ўцягненьні ў краязнаўчыя ячэйкі рабочых.
3. Яшчэ не наладжана належная сувязь і ўвязка краязнаўчых арганізацый з мясцовымі савецкімі, гаспадарчымі, плянуючымі і культурнымі ўстановамі і арганізацыямі па распрацоўцы актуальных тэм і заданьняў.
4. Краязнаўчыя ячэйкі яшчэ не змаглі выявіць, *як арганізацыі*, свайго ўдзелу ў правадзімых палітычна-гаспадарчых кампаніях.

Бліжэйшымі задачамі ў разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне зьяўляюцца:

а) далейшае арганізацыйнае ўзмацненьне заснаваных краязнаўчых ячэяк, уцягненьне у іх рабочых і давядзеньне ліку рабочых і колгасьнікаў ня менш як да 30% агульнага ліку членаў ячэяк;

б) узмацненьне і актыўны ўдзел усіх краязнаўчых ячэяк у масавай навукова-дасьледчай працы для практычных патрэб соцбудаўніцтва;

в) арганізацыя сыстэматычнай працы па падрыхтоўцы ў раёне краязначых кадраў праз правядзеньне краязнаўчых конфэрэнцый, практыкуму для актыву і г. д.;

г) арганічная ўвязка працы ячэяк з вытворчымі плянамі райвыканкому, сельсаветаў і колгасаў;

д) арганізацыя ўдзелу краязнаўчых ячэяк, як арганізацый, у палітычна-гаспадарчых кампаніях;

е) абавязкова неабходна перавесьці працу ўсіх краязнаўчых ячэек і райбюро на соцыялістычныя мэтоды: соцспаборніцтва, ударніцтва, сустрэчныя пляны, грамадзкі буксір.

В. Шаціла.

### Праца краязнаўчай ячэйкі пры Кузьміцкай ШКМ разгортваецца.

Пры Кузьміцкай ШКМ Любаньскага раёну арганізавалася краязнаўчая ячэйка ў ліку 67 асоб. Ячэйка правяла досыць значную працу. Дасьледваны: саўгас X-годзьдзя БССР, комуна БВА, колгасы „Новае жыцьцё" і „Палескі штэрн", цагляны і дрэваапрацо-

вачны заводы. Праца праводзілася паасобнымі брыгадамі. Кожная брыгада працавала па распрацоўцы пэўных тэм і заданьняў. У сучасны момант матар'ялы распрацоўваюцца і некаторыя з іх будуць перасланы рэдакцыі часопісу „Савецкая Краіна". У канцы навучальнага году краязнаўчая ячэйка мяркуе організаваць краязнаўча-турыстычную экскурсію ў Менск.

Неабходна, каб і пры іншых школах хутчэй організаваліся краязнаўчыя ячэйкі і распачалі працу па вывучэньні нашага соцыялістычнага будаўніцтва і нашых прыродных багацьцяў для выкарыстаньня іх для практычных патрэб разьвіцьця нашай гаспадаркі.

С. В.

## Плян працы Стара-Дароскага Раённага Таварыства Краязнаўства на 1931 г.

### I. Організацыйныя пытаньні.

1. Сумесна з мясцовымі організацыямі праверыць склад членаў раённага краязнаўчага т-ва, з мэтай ачышчэньня ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і адначасова разгарнуць працу па ўцягненьні ў краязнаўства рабочых, колгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, працоўнага насельніцтва мястэчка і працоўнай інтэлігенцыі.

2. Організаваць краязнаўчыя гурткі на наступных прадпрыемствах: заводзе „Пролетары", Дараганаўскім лесапільным заводзе, саўгасе „Палажэвічы", у колгасах: Соцыялізм, Чырвоны франтавік, Новы Жыцін, Дзесяцігодзьдзе, РЭС, Новы селянін, Прамень камуны і ў школах КМ. (Стара-дароская беларуская і яўрэйская, горкаўская і дараганаўская).

3. На працягу году правесьці дзьве райконфэрэнцыі і курсы-конфэрэнцыі з мэтай падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў.

4. Наладзіць жывое інструктаваньне краязнаўчых гурткоў па раёну, шляхам выезду сяброў праўленьня.

5. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній.

6. Правесьці шэраг дакладаў і лекцый на сходах рабочых і колгасьнікаў аб задачах савецкага краязнаўства.

7. Павесьці працу сярод нацменшасьцяй у напрамку вывучэньня нацыянальных і інтэрнацыянальных колгасаў.

8. Вылучыць корэспондэнтаў з кожнага гуртка ў часопіс „Савецкая Краіна" і разгарнуць працу па выпісцы часопісу.

9. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых гурткоў і заключыць умову па соцспаборніцтву з аднэй з раённых краязнаўчых організацый.

10. Стварыць у раёне вытворчы музэй.

11. Паставіць перад РВК пытаньне аб уключэньні ў каштарыс сродкаў, неабходных для правядзеньня краязнаўчай працы.

12. Усю працу краязнаўчага таварыства ўвязаць з партыйнымі, профсаюзнымі, гаспадарчымі і грамадзкімі організацыямі.

### II. Мэтодычна-кіраўнічая і навукова-дасьледчая праца.

1. Дапамагаць гурткам у наладжваньні досьледаў на прадпрыемствах, у колгасах і саўгасе у напрамку вывучэньня рацыяналізацыі вытворчасьці.

2. Організаваць некалькі экскурсій гурткоў у лепшыя колгасы з мэтай азнаямленьня з добрай пастаноўкай працы.

3. Правесьці вывучэньне аднаго з лепшых колгасаў і заводу і скласьці яго апісаньне.

4. Распрацаваць наступныя тэмы: 1) Культура і быт у колгасах; 2) Прыродныя выкапні раёну і энэргетычныя рэсурсы раёну; 3) Разгортваньне соцмэтодаў працы і зьдзельшчына ў колгасах; 4) Разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў раёне і шляхі вырашэньня кармовага пытаньня; 5) Роля МТС у колектывізацыі.

**Ад рэдакцыі:** п. п. 4, 6, 7, 8 першага разьдзелу і п. 2 другога разьдзелу трэба было-б больш конкрэтызаваць, паказаўшы, колькі орыентовачна намячаецца правесьці лекцый, колькі правесьці экскурсій, якую правесьці працу сярод нацменшасьцяй і ў якіх колгасах.

## Плян працы Слуцкага Раённа-Гарадзкога Т-ва Краязнаўства на 1931 год.

### I. Організацыйныя пытаньні:

1. Праверыць склад з мэтай ачышчэньня ад варожых нац-дэм. элемэнтаў, увязаўшы гэта з уцягненьнем у т-ва рабочых, колгасьнікаў і працоўнае насельніцтва гораду.

2. Організаваць гурткі ў горадзе на прадпрыемствах Райкомбінату, Кустпрамхозу і ў колгасе „1 мая" і ва ўсіх с/саветах, орыентуючыся на колгасы.

3. Пашырыць школьна-краязнаўчую сетку, заснаваўшы гурткі ў пэдтэхнікуме, профшколе і ўсіх Ш.К.М.

4. Правесьці абсьледваньне і жывое інструктаваньне краязнаўчых гурткоў у раёне.

5. Прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы і іншых гаспадарча-політкампаній.

6. Наладзіць плянавасьць і сыстэматычную сувязь з часьцямі Ч. А., усімі гаспадарчымі ўстановамі і грамадзкімі організацыямі з мэтай выпрацоўкі форм і мэтодаў дасьледчай працы па розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

7. Рэорганізаваць краязнаўчы музэй і організаваць краязнаўчыя куткі па саўгасах, колгасах і вясковых ШКМ у мэтах популярызацыі і агітацыі за соцыялістычнае будаўніцтва.

8. Правесьці шэраг дакладаў і лекцый на сходах рабочых і колгасьнікаў аб задачах

масавай дасьледчай працы і сав. краязнаўства, выкрываючы шкодную контр-рэволюц. працу нацдэмаў у краязнаўстве.

9. Разгарнуць краязнаўчую працу сярод яўрэйскага насельніцтва гораду і м. Леніна, організаваць вывучэньне інтэрнацыянальных колгасаў.

10. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых гурткоў.

11. Дабіцца перад РВК забесьпячэньня раённага краязн. т-ва неабходнымі для разгортваньня краязнаўчае працы сродкамі і ўключэньня ўсіх выдаткаў у каштарыс РВК.

12. Правесьці раённыя краязнаўчыя курсы-конфэрэнцыі ў мэтах падрыхтоўкі, краязнаўчых кадраў з рабочых, колгасьнікаў і саўгасьнікаў.

13. Разгарнуць працу па вярбоўцы падпісчыкаў на „Савецкую Краіну", дабіваючыся падпіскі кожнай школай, хатай-чытальняй, прам. прадпрыемствам, сав. парт. і проф. активам, устанавіць контр. лічбу 100 экз.

14. Правесьці курсы-конфэрэнцыю.

15. Утварыць фотогурток, запрасіўшы для кіраўніцтва спэцыяліста фотографа.

16. Пасяджэньні Праўленьня зьбіраць 2 разы ў месяц.

### II. Мэтодычна-кіраўнічая і дасьледчая праца.

1. Мэтодычна-кіраўнічая дапамога краязнаўчым гурткам і брыгадам масавых досьледаў на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, у справе вывучэньня рацыяналізацыі вытворчасьці, соцспаборніцтва, ударніцтва, організацыі працы, вывучэньня вытворчых сіл раёну.

2. Організацыя масавых дасьледчых экскурсій для вывучэньня глебы, прыродных выкапняў, расьліннасьці, на прадпрыемствы, у саўгасы і колгасы і мэтодычная дапамога краязн. гурткам у організацыі і правядзеньні гэтых экскурсій.

3. Організаваць і правесьці комплекснае вывучэньне саўгасу „Івань" і колгасу „Комбайн" („Комбайн" да 1 чэрвеня, а „Івань" да 15 чэрвеня).

4. Вывучыць клясавае распластаваньне ў раёне.

5. Вывучыць формы барацьбы кулацтва ў раёне.

6. Вывучыць спэцыялізацыю гаспадарак у раёне.

7. Дагаварыцца з райплянам аб унясеньні ім у плян т-ва тэм і заданьняў, неабходных для распрацоўкі ў бягучы момант.

8. Разгарнуць працу па выданьні мясцовага краязн. часопісу і выданьні популярна-навуковых прац.

## Аб сыстэме ўпаўнаважаных па краязнаўчай працы.

*(У парадку абгаварэньня).*

Ня гледзячы на дырэктывы па партыйнай, савецкай і профсаюзнай лініі аб разгортваньні краязнаўчяга руху сярод рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, вучнёўскай моладзі і працоўнай інтэлігенцыі, мы да апошняга часу ня маем яшчэ належнага зруху ў разгортваньні краязнаўства. У некаторых раёнах задачы савецкага краязнаўства зусім не популярызаваны, няма ніводнай краязнаўчай організацыі якая-б больш-менш стала вяла краязнаўчую навукова-дасьледчую працу. У многіх раёнах краязнаўчыя організацыі яшчэ не аформлены і не зьяўляюцца пэўнымі зьвеньнямі ў сыстэме нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Савецкае краязнаўства патрабуе яшчэ сваёй популярызацыі сярод рабочых і працоўных мас. Зразумела, што адным дырэктывамі, агульнай пропагандай і агітацыяй савецкага краязнаўства самую справу яшчэ не наладзіш. Тут патрэбна штодзенная, сыстэматычная і плянамерная популярызацыйная, організацыйная і мэтодычная праца на месцы, у конкрэтных абставінах і ўмовах; патрэбен паказ, парада, дапамога на данай фабрыцы (заводзе), у даным колгасе, саўгасе, у данай школе і г. д. Гэта пытаньне з усёй астратой паўстае ў раёнах і на прадпрыемствах, дзе яшчэ зусім няма краязнаўчых ячэек.

У некаторых раёнах, пакуль адзінічных (Жыткавіцкім), зроблена спроба разгортваньня краязнаўчага руху праз інстытут краязнаўчых упаўнаважаных. Па нашай думцы, самая ідэя заслугоўвае ўвагі і настойліва патрабуе пашырэньня яе і на іншыя раёны.

Часова, да організацыі сталых краязнаўчых ячэек на кожным прадпрыемстве, у колгасе, саўгасе, пры коопэрацыйнай установе, школе і г. д., у кожным раёне, у кожным горадзе павінны быць упаўнаважаныя па разгортваньні і організацыі краязнаўчай працы. Задача і роля краязнаўчых упаўнаважаных популярызаваць і організоўваць краязнаўчую працу на пэўным прадпрыемстве, колгасе і г. д. паводле інструкцыі раённага (ці гарадзкога) бюро краязнаўства ў контакце з мясцовымі партыйнымі і профсаюзнымі організацыямі. Упаўнаважаныя павінны быць належным чынам падрыхтаваны і праінструктаваны раённымі бюро краязнаўства і забясьпечаны неабходнай краязнаўчай програмна-мэтодычнай літаратурай. Раённыя бюро краязнаўства павінны пэрыодычна склікаць упаўнаважаных на кустовыя сходы для абмену вопытам, інструктаваньня і г. д. Яшчэ было-б лепш, каб члены раённага бюро дапамагалі ўпаўнаважаным непасрэдна на месцы ў іх працы (на фабрыцы, у колгасе). З організацыяй і аформленьнем краязнаўчай ячэйкі роля і функцыі ўпаўнававажанага пераходзяць да бюро ячэйкі. Мы лічым, што інстытут краязнаўчых упаўнаважаных у кожным раёне (і горадзе) павінен сыграць пэўную ролю ў разгортваньні краязнаўчага руху. Неабходна, аднак, узяць цьвёрдую стаўку на вылучэньне ўпаўнаважаных не па прынцыпу тэрыторыяльнасьці (на сельсавет, гарадзкі раён), а па прынцыпу выдзяленьня ўпаўна-

важаных ад пэўнага прадпрыемства, колгасу, школы і г. д.

Пажадана, каб на старонках „Савецкай Краіны" ўпаўнаважаныя і раённыя бюро краязнаўства падзяліліся сваім вопытам у справе разгортваньня і арганізацыі краязнаўчае працы і асабліва, каб адгукнуліся пастаўленае тут пытаньне.

В. Самцэвіч.

## Ажыцьцявіць пастановы Пленуму ЦБК РСФСР

**Рэзолюцыя X Пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (25-28 студзеня 1931 г.)**

Па дакладах:

П. Г. Сьмідовіча — „Аб становішчы і пэрспэктывах краязнаўства".

М. П. Пацёмкіна — „Аб дзейнасьці Цэнтральнага Бюро Краязнаўства".

А. А. Тахо-Годзі — „Краязнаўства ў нацыянальных раёнах".

1. Пэрыод, які аддзяляе краязнаўчы рух данага моманту ад IV Усерасійскай конфэрэнцыі, адзначыўся XVI-м партзьездам і сьнежаньскім пленумам ЦК УсеКП(б), рашэньні якіх павінны быць пакладзены ў аснову далейшага разгортваньня краязнаўчага руху. За мінулы пэрыод адбыліся гіганцкія зрухі ў галіне народнай гаспадаркі і дасягнуты рашаючыя посьпехі на фронце культурнай рэволюцыі. Краіна ўступіла ў апошні этап нэпу, у пэрыод соцыялізму, будаўніцтва якога працякае ў абставінах жорсткай клясавай барацьбы на ўсіх вучастках нашага наступленьня. Клясавы вораг — нэпман, кулак, буржуазная інтэлігенцыя прабуюць усімі сродкамі затрымаць пераможны рух пролетарыяту і сарваць посьпехі. Перамагаючы гэта супраціўленьне, пролетарыят з посьпехам вядзе рашучае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту, ліквідуючы кулацтва як клясу на аснове суцэльнай колектывізацыі. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ставяць перад намі задачу скончыць у 1931 годзе пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР. Першыя два гады пяцігодкі поўнасьцю забясьпечылі перамогу соцыялістычнага сэктару прамысловасьці, 3-ці рашаючы год пяцігодкі павінен у асноўным забясьпечыць перамогу соцыялістычнага сэктару і ў сельскай гаспадарцы.

2. На аснове ўсіх гэтых посьпехаў у галіне гаспадаркі ў вялізарнай меры вырасьлі дасягненьні і на культурным фронце. Вельмі шырокі размах культурнага руху мільёнаў працоўных забясьпечвае пашырэньне буйных задач на рашаючых вучастках культурнай рэволюцыі. Увядзеньне ўсеагульнага навучаньня, з посьпехам праходзячая ліквідацыя няпісьменнасьці, фарсаваная падрыхтоўка народна-гаспадарчых і культурна-політычных кадраў, політэхнізацыя ўсёй сыстэмы народнай асьветы зьяўляюцца вялізарнейшымі заваёвамі бягучага пэрыоду.

3. Шырокія масы рабочай клясы, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства ўключыліся ў будаўніцтва соцыялізму. Ударніцтва і соцспаборніцтва сталі мэтодам штодзеннай творчасьці мас. Саветы, як арганізатары творчай ініцыятывы працоўных пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, перабудоўваюцца ў бок максымальнага выкарыстоўваньня і далейшага разьвіцьця актыўнасьці мас у справе разгорнутага наступленьня соцыялізму на ўсім фронце. Вытворчыя нарады на фабрыках, заводах, саўгасах і колгасах, вынаходзтва рабочых, вопыт у сельскай гаспадарцы, рабселькораўскі рух, — усё гэта стварае вельмі спрыяючыя ўмовы для пасьпяховага аўладаньня масамі мэтодаў навуковай работы.

4. Соцыялістычная рэконструкцыя прад'яўляе нашай краіне гіганцкія запатрабаваньні ў справе разьвіцьця навукова-дасьледчай дзейнасьці. Вывучэньне ходу прамысловай рэконструкцыі, процэсаў колектывізацыі сельскай гаспадаркі, клясавай барацьбы, якая суправаджае гэтую рэконструкцыю, дасьледваньне прыродных, у прыватнасьці энэргетычных рэсурсаў, вывучэньне пытаньняў організацыі працы і разьмеркаваньне прыбытку ў колгасе, пытаньняў новага быту рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства, выкрыцьцё клясава-варожай ідэолёгіі ў навуцы — вось конкрэтны зьмест гэтай навукова-дасьледчай работы.

5. Усе гэтыя задачы ня могуць быць выканаваны толькі дзяржаўнымі ўстановамі, пасьпяховае іх вырашэньне магчыма толькі пры ўмове прыцягненьня да навуковай працы шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, беднякоў, серадняков і савецкай інтэлігенцыі. Савецкае краязнаўства зьяўляецца аднэй з форм такога прыцягненьня працоўных да вырашэньня гэтых задач, аднэй з форм актыўнага ўдзелу іх у соцыялістычным будаўніцтве, шляхам усебаковага вывучэньня свайго прадпрыемства, колгасу, саўгасу, свайго раёну на аснове марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і ўжываньня атрыманых вынікаў у практычнай рабоце па соцыялістычнай перабудове гаспадаркі, культуры і быту. Гэта краязнаўчая работа падвядзе навуковы фундамант пад вытворчыя нарады і масавы вопыт, адчыніўшы перад імі новыя вялізарныя магчымасьці.

6. У сувязі з гэтым у апошні час асабліва востра паўстала пытаньне аб кадрах краязнаўцаў, падрыхтаваных як у організацыйнай, так і навукова-опэрацыйнай рабоце ў галіне савецкага масавага краязнаўства. Кадры старых краязнаўцаў у большай сваёй частцы аказаліся да гэтага непадрыхтаванымі, частка-ж з іх заняла ў адносінах савецкага краязнаўства яўна-варожую позыцыю.

7. Клясавая барацьба, якая разгарнулася ў краіне прыняла жорсткі характар і на ідэолёгічным фронце. Савецкае краязнаўства, якое зьяўляецца адным з вучасткаў гэтага

фронту, перажыло рад цяжэйшых этапаў клясавай барацьбы і сустрэла жорсткае супраціўленьне з боку клясава-варожых сіл, з боку прадстаўнікоў старога краязнаўства. Пранікненьне буржуазна-кулацкай ідэолёгіі ў краязнаўчую навукова-дасьледчую і краязнаўчую літаратуру, супраціўленьне арганізацыйнай перабудовы краязнаўчага руху на пачатках вытворчых ячэек — зьяўляюцца найбольш характэрнымі момантамі клясавай барацьбы на фронце соцыялістычнага краязнаўства і патрабуюць рашучага і сьмелага разаблачэньня з боку ўсіх краязнаўчых арганізацый і ўпорнай барацьбы з ідэолёгічна-чужымі і клясава-варожымі элемэнтамі.

8. Пэрыод, які прайшоў з часу IV конфэрэнцыі, характарызуецца значнымі зрухамі ў справе вырашэньня асноўных задач, пастаўленых перад савецкім краязнаўствам. Пастановы кіруючых дырэктыўных і ўрадавых органаў закладаюць моцную аснову для далейшага разьвіцьця краязнаўства ў краіне. Новае „Палажэньне аб раённых зьездах саветаў і раённых выканаўчых камітэтах“ ускладае на райвыканкомы абавязак „прыймаць меры да разьвіцьця работы ў галіне краязнаўства“. Увага мясцовых партыйных і савецкіх цэнтраў да пытаньняў краязнаўства, узьнікненьне фабрычна-завадзкіх і колгасных ячэек, правядзеньне конкурсу на краязнаўчае апісаньне фабрыкі і заводу, організацыя такіх-жа конкурсаў у колгасах, правядзеньне краязнаўчай пяцідзёнкі, наяўнасьць попыту на краязнаўчую літаратуру і інш. сьведчаць аб павышэньні інтарэсаў савецкай грамадзкасьці да пытаньняў краязнаўства. На падставе рашэньняў IV конфэрэнцыі ўстаноўлены новыя організацыйныя формы пабудовы краязнаўчай сыстэмы і ажыцьцёўлена адзінства ў кіраўніцтве краязнаўчым рухам у краіне. Політычная і організацыйная лінія Цэнтральнага Бюро Краязнаўства ў асноўным адпавядае задачам бягучага этапу соцыялістычнага будаўніцтва, правільна адбівае асновы рашэньня IV конфэрэнцыі і дырэктывы кіруючых органаў па лініі краязнаўства.

9. Аднак, разам з паказанымі дасягненьнямі пленум констатуе, што становішча на фронце савецкага краязнаўства ў цэлым застаецца яшчэ нездавальняючым. Краязнаўства ня стала яшчэ фактарам шырокага ўцягненьня мас у соцыялістычнае будаўніцтва. Закончыўшы ў асноўным падрыхтоўчую працу па організацыі перабудовы краязнаўчай сеткі, ЦБК не дабілася яшчэ перабудовы іх работы па сутнасьці. Зьмест краязнаўчай дасьледчай работы ў большасьці організацый не пераключыўся яшчэ на вырашэньне актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Новае савецкае краязнаўства толькі ўтвараецца, і неабходна максымальнае напружаньне ўвагі ўсіх мясцовых краязнаўчых аб'яднаньняў, усіх органаў улады і савецкай грамадзкасьці на хутчэйшае замацаваньне дасягнутых посьпехаў у мэтах далейшага разьвіцьця савецкага краязнаўства.

10. З недахопаў сучаснага становішча ў краязнаўстве, асабліва павінны быць адзначаны наступныя:

а) да гэтага часу ня скончана рэорганізацыя краязнаўчай сеткі ў шэрагу абласьцей, краін і нацыянальных рэспублік. У шэрагу б. акруговых цэнтраў захоўваюцца яшчэ т-вы краязнаўства з старымі статутамі, а ў некаторых цэнтрах адначасова існуюць і таварыствы і новых організаваныя бюро;

б) грамадзкія організацыі яшчэ далёка не павярнуліся тварам да краязнаўства, у прыватнасьці мясцовыя профсаюзы, як правіла, стаяць у баку ад краязнаўчага руху;

в) агульнае кіраўніцтва краязнаўствам, якое ажыцьцяўляецца Наркамасьветы і яго органамі на мясцох, недастаткова;

г) дужа слаба разгорнута дзейнасьць функцыянальных сэкцый, у прыватнасьці асабліва нізка стаіць работа нацыянальных, школьных і студэнцкіх сэкцый, а таксама праца садзейнічаньня абароназдольнасьці краіны;

д) надзвычайна мала зроблена ў справе падрыхтоўкі новых кадраў краязнаўцаў;

е) адзіны плян навукова-дасьледчай работы ў вобласьці і раёне знаходзіцца яшчэ па-за ўвагай краязнаўчага бюро; да гэтага часу не ўдасканалены ўзаемаадносіны краязнаўчых організацый і мясцовых краязнаўчых музэяў.

ж) ва ўсёй сваёй дзейнасьці краязнаўчыя організацыі не перабудаваліся на баявыя тэмпы работы; удзел іх у важнейшых гаспадарчых і політычных пытаньнях быў недастатковым.

з) буйнейшым недахопам у рабоце ЦБК і месц была адсутнасьць конкрэтнага програмна-мэтодычнага кіраўніцтва і сваячасовай дапамогі нізавому краязнаўцу ў яго навукова-опэрацыйнай рабоце;

і) да гэтага часу не атрымалі неабходнага разгортваньня і рашучага разаблачэньня шкодная, контр-рэволюцыйная ідэолёгія і ў краязнаўчай літаратуры і крытыка паасобных памылак краязнаўчага руху і барацьба з імі.

11. Буйнейшым недахопам усяго краязнаўчага руху зьяўляецца адсутнасьць да гэтага часу правільна пастаўленай і шырока разгорнутай выдавецкай дзейнасьці; адсутнасьць популярных брошур па пытаньнях краязнаўства, зразумелых новаму краязнаўчаму актыву, програм навукова-дасьледчай работы сур'ёзна адчуваецца на ўцягваньні ў краязнаўчы рух рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкай масы сялянства. Тэмпы выдавецкай дзейнасьці самога ЦБК недапушчальна марудныя і не забясьпечваюць баявой перабудовы работы. Да ўдзелу ў часопісе „Советское Краеведение“ ня ўцягнуты дастатковы актыў краязнаўцаў і самы часопіс яшчэ не зьяўляецца кіруючым органам у рабоце шырокага краязнаўчага актыву.

12. Выходзячы з ацэнкі бягучага этапу ў краязнаўчым руху Пленум ЦБК лічыць неабходным правядзеньне наступных мерапрыемстваў:

а) неабходна сконцэнтраваная ўвага ўсіх краязнаўчых організацый на вывучэньне асноўных гаспадарчых проблем, пастаўленых XVI зьездам і сьнежанскім пленумам ЦК УсеКП(б), па лініі вугалю, мэталу, транспорту, жывёлагадоўлі, спэцыяльная ўвага задачам суцэльнай колектывізацыі, а таксама пытаньням рабочага забясьпечаньня;

б) неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на пастаноўку краязнаўчымі організацыямі вывучэньня і садзейнічаньня абароназдольнасьці краіны і ўцягненьня ў краязнаўчую працу Чырвонай арміі;

в) неабходна закончыць у асноўным пасьпяхова праведзеную кампанію па праверцы сваіх радоў, ачышчэньне краязнаўчых організацый ад чужых людзей, якія ня могуць ісьці ў ногу з героічным будаўніцтвам пролетарыяту, а таксама ад клясава-варожых элемэнтаў, якія, пад сьцягам краязнаўства, займаюцца контр-рэволюцыйным шкодніцтвам;

г) неабходна закончыць рэорганізацыю ўсёй краязнаўчай сеткі на аснове максымальнага разгортваньня ячэяк на фабрыцы, заводзе, колгасе, саўгасе і шырокага выкарыстоўваньня форм масавага руху працоўных (соцспаборніцтва, ударніцтва, культпаход і інш.), цеснай сувязі краязнаўчай работы з вытворчымі нарадамі на прадпрыемствах, у сельсаветах, колгасах і саўгасах;

д) неабходны прагляд зьместу ўсёй краязнаўчай работы ў бок абхвату об'ектаў, непасрэдна зьвязаных з соцыялістычным будаўніцтвам і выпрацоўка конкрэтнага адзінага пляну навукова-дасьледчай работы ў краі, вобласьці, раёне;

е) неабходна ўтварэньне сталага рабочага і колгаснага актыву вакол цэнтру кіраўніцтва краязнаўчага руху, неабходна вывучэньне і пашырэньне вопытаў асобных перадавых організацый;

ж) неабходна рашучае выкрыцьцё шкодніцкай ідэолёгіі ў краязнаўчым руху, нашых памылак і мобілізацыя вакол гэтай крытыкі шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў. Пленум прапануе ўсім організацыям ў кароткі тэрмін праглядзець існуючую краязнаўчую літаратуру, ў мэтах выдаленьня політычна-шкодных выданьняў і сконцэнтраваньня ў далейшым увагі краязнаўчых організацый на гэтым важным пытаньні;

з) прызнаючы выключную важнасьць актыўнага ўдзелу краязнаўства ў антырэлігійным руху ў краіне, пленум прапануе ўсім краязнаўчым організацыям устанавіць цесную сувязь у сваёй практычнай рабоце па гэтай лініі з саюзам ваяўнічых бязбожнікаў.

13. Пленум зварачае ўвагу ўсіх краязнаўчых організацый на неабходнасьць максымальнага разгортваньня работы ў нацраёнах і нацыянальных сэкцый ОБК і КБК. Вывучэньне пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў нацрэспубліках і на аснове посьпехаў гэтага будаўніцтва мясцовых і нацыянальных культур, соцыялістычных па зьместу, нацыянальных па форме, рашучая барацьба на фронце краязнаўства з ухілам ад генэральнай лініі партыі ў нацыянальным пытаньні, з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай, і з мясцовым нацыяналізмам, разьвіцьцё краязнаўчай працы сярод нацменшасьцяй павінна стаць у цэнтры ўвагі краязнаўчых організацый.

14. Слабасьць работы па лініі школьнага і студэнцкага краязнаўства, маючых асаблівае значэньне ў справе падрыхтоўкі новых кадраў, высоўвае перад краязнаўчымі організацыямі запатрабаваньні разгортваньня работы на ўсіх вучастках.

15. Абавязкова неабходны актыўны ўдзел краязнаўчых організацый ва ўсіх важнейшых гаспадарча-політычных кампаніях.

16. У мэтах падрыхтоўкі навых кадраў пленум абавязуе ЦБК і АБК у карацейшы тэрмін правесьці курсавую падрыхтоўку і перападрыхтоўку краязнаўцаў. Пленум адзначае асаблівае значэньне актыўнага ўдзелу краязнаўчых цэнтраў у падрыхтоўцы краязнаўцаў шляхам ажыцьцяўленьня дырэктывы НКП аб уключэньні краязнаўчага курсу ў пэдагогічныя і сельска-гаспадарчыя вучэбныя ўстановы і ўнясеньні краязнаўчага матар'ялу ў вучэбныя пляны ўсіх тэхнікумаў.

17. Слабае разьвіцьцё краязнаўчай сеткі музэяў і марудная перабудова іх на марксыцка-ленінскай аснове, а таксама нявыразнасьць узаемаадносін краязнаўчых організацый і музэяў на мясцох патрабуюць ад усёй краязнаўчай сеткі органічна ўключыцца ў работу па перабудове музэяў і па максымальнаму зьбліжэньню работы з імі на аснове адзінага пляну навукова-дасьледчай дзейнасьці ў вобласьці і раёне.

18. Адзначаючы надзвычайна цяжкае фінансавае становішча ўсіх краязнаўчых організацый на мясцох і лічачыся з агромнымі задачамі, якія высоўваюцца жыцьцём перад савецкім краязнаўствам, X пленум зьвяртаецца да ўсіх гаспадарчых організацый і да ўсіх органаў улады на мясцох з заклікам забясьпечыць у далейшым фінансаваньне краязнаўчых організацый у адпаведнасьці з новымі задачамі, якія стаяць перад савецкім краязнаўствам.

19. У заключэньне X пленум констатуе, што рэволюцыі IУ Усерасійскай конфэрэнцыі як у частцы марксыцка-ленінскага абгрунтаваньня краязнаўства, так і ў сваіх політычных устаноўках маюць шэраг нявыразных і няпоўных, а ў некаторай частцы і няправільных формулёвак. З прычыны гэтага пленум ускладае на Прэзыдыум ЦБК дэталёва іх прапрацаваць у мэтах конкрэтнага выяўленьня іх недахопаў і іх выпраўленьня і даць адпаведныя ўказаньні на месцы. Гэтыя папраўкі ў далейшым павінны быць унесены на зацьверджаньне V усерасійскай конфэрэнцыі. Апрача гэтага, пленум даручае Прэзыдыуму разам з Т-вам краязнаўцаў-марксыстаў абгаварыць пытаньні марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі ў краязнаўстве і вынікі гэтага абгаварэньня апублікаваць на старонках „Советское Краеведение".

## Парады пачынаючым краяведам.

### Што рабіць студэнтам у часе летніх канікул.

Студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў БССР павінна прыняць самы актыўны ўдзел у разгортваньні краязнаўчага руху, як масавай навукова-дасьледчай працы. Гэта праца павінна непасрэдна ўвязвацца з усёй вытворчай і грамадка-карыснай працай студэнтаў. У часе летняй вытворчай практыкі і адпачынкаў студэнты могуць і павінны:

1) шырока папулярызаваць сярод рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас задачы і ролю савецкага краязнаўства ў соцыялістычным будаўніцтве свайго прадпрыемства, саўгасу, колгасу, свайго раёну, краіны;

2) арганізаваць на фабрыках і заводах, саўгасах і колгасах, пры хатах-чытальнях і г. д. краязнаўчыя ячэйкі, дапамагаючы ім наладзіць навукова-дасьледчую працу, выходзячы з вытворчых плянаў сваёй гаспадаркі, установы;

3) папулярызаваць краязнаўчыя выданьні і ў прыватнасьці часопіс „Савецкая Краіна", вярбуючы падпісчыкаў і корэспондэнтаў для часопісу;

4) прыняць самім актыўны ўдзел у навукова-дасьледчай працы ў напрамку вывучэньня прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў кожнага раёну (залежы торфу, гліны, фосфарытаў і г. д.); вывучэньня глебы, расьліннасьці (асабліва экспортнага і лекавага значэньня); арганізацыі працы ў саўгасах і колгасах; соцспаборніцтва на фабрыках, заводах, саўгасах, МТС, колгасах, монографічнага апісаньня тых-жа прадпрыемстваў і гаспадарак; запісы савецкага фольклёру; вывучэньне новага быту і г. д.

5) дапамагчы арганізацыі і ажыцьцяўленьню працы краязнаўчых музэяў і перабудове іх у кірунку прыстасаваньня ўсёй працы музэяў да запатрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва.

## Аб арганізацыі т-ва пролетарскага турызму і экскурсій.

### Усім партыйным, комсамольскім, профсаюзным і фізкультурным арганізацыям.

Пастановаю Сакратарыяту ЦК КП(б)Б складзена АРГ. БЮРО па арганізацыі ў БССР т-ва „Пралетарскага турызму і экскурсій.

Асноўнымі задачамі т-ва, зьяўляюцца:

а) уцягненьне ў турысцка-экскурсійны рух шырокіх колаў працоўных гораду і вёскі, зрабіўшы яго сапраўды масавым пролетарскім рухам;

б) прыстасаваньне ўсіх існуючых форм турызму і экскурсій да задач высунутых зараз у рэконструкцыйны пэрыод партыяй і рабочай клясай на вытворчасьці, у колгасах саўгасах і на вёсцы;

в) сучасныя экскурсіі ва ўсіх іх формах павінны насіць характар выкананьня грамадзка-карыснай працы; іменна: праверка соцыялістычнага спаборніцтва, падвышэньне кваліфікацыі, праца па колектывізацыі, перавыбары саветаў, абмен вопытам працы і інш. грамадзка-палітычная карысная праца;

г) садзейнічаньне організацыям Асоавіяхіму ў правядзеньні ваенізацыі працоўных, шляхам організацыі гурткоў па стралковай справе і набыцьця вайсковых навыкаў (топографія, разьведка, сыгналізацыя);

д) уцягненьне сяброў т-ва ў гурткі фізкультуры, вывучэньне лыжнага спорту і пераходы водны і грэбны спорт, хадзьба розных відаў і трэніроўка ў вялікіх пераходах;

е) вывучэньне вытворчых сіл краіны і праца па краязнаўству, вывучэньне добрабыту і нацыянальных асаблівасьцяй раёнаў рэспублікі. Праца па інвэрнацыянальнаму выхаваньню;

ж) выкананьне асобных заданьняў, партыйных, комсамольскіх, профсаюзных і грамадзкіх організацый на вёсцы.

Пролетарскае турысцка-экскурсійнае т-ва зьяўляецца масавай добраахвотнай організацыяй, маючай свой статут і білет, з адпаведнымі ўступнымі і сяброўскімі ўзносамі. Асноўным організацыйным зьвяном т-ва зьяўляецца ячэйка на фабрыцы, заводзе, установе, школе, ВНУ, саўгасе, колгасе і клюбе.

За ўсімі спраўкамі трэба зварочвацца па адрасу: Менск, Пляц Волі, Дом працы, т-ва ПТЭ.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## Рэарганізацыі Беларускай Акадэміі Навук.

### Пастанова Савету Народных Камісараў БССР.

Пасьпяховы ход социялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі (індустрыялізацыя краіны і суцэльная колектывізацыя вёскі) патрабуе максымальнага разьвіцьця і скарыстаньня навукі, тэхнікі і навукова-дасьледчай справы для выкананьня конкрэтных задач социялістычнага будаўніцтва. У сувязі з гэтым задача социялістычнага плянаваньня навукі і навукова-дасьледчай працы набывае выключна важнае значэньне.

Выходзячы з вышэйпаказанага і ў мэтах сапраўднага ўпарадкаваньня навукова-дасьледчай працы ў БССР, Савет Народных Комісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць, што Беларуская Акадэмія Навук павінна зьявіцца адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім концэнтруецца агульнае кіраваньне ўсёй навукова-дасьледчай працай БССР, для чаго даць Беларускай Акадэміі Навук права:

а) плянаваньня працы ўсіх навукова-дасьледчых установ, якія працуюць на тэрыторыі БССР, незалежна ад таго, пад чыім ведамам знаходзяцца гэтыя навукова-дасьледчыя ўстановы;

б) устанаўленьня марксыцкай мэтодолёгіі ў працы ўсіх навукова-дасьледчых установ;

в) устанаўленьня тэматыкі і

г) сыстэматычна контраляваць усе навукова-дасьледчыя ўстановы ў галіне выкананьня імі ўстаноўленых плянаў і мэтодаў працы.

2. Абавязаць усе народныя камісарыяты і рэспубліканскія ўстановы, пад ведамам якіх знаходзяцца навукова-дасьледчыя ўстановы, а таксама філіалы ўсесаюзных інстытутаў, якія працуюць у БССР, сваячасова падаваць пляны працы навукова-дасьледчых інстытутаў, станцый і інш. у Прэзыдыум Беларускай Акадэміі Навук.

3. Навукова-дасьледчыя інстытуты і ўстановы, якія знаходзяцца пад ведамам наркаматаў, установ і організацый працуюць па заданьнях гэтых наркаматаў, установ і організацый над контролем Беларускай Акадэміі Навук.

Прапанаваць наркаматам, цэнтральным установам і організацыям узмацніць опэрацыйнае кіраваньне навукова-дасьледчай работай сваіх інстытутаў.

4. Ухваліць пастанову Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук аб зьмене ўнутранай структуры Акадэміі — пераход ад сыстэмы катэдраў на сыстэму спэцыяльных інстытутаў, прыняўшы да ведама лік організаваных інстытутаў і намечаных да організацыі.

5. Прапанаваць Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук не пазьней як праз месяц падаць у СНК проект адпаведных зьмен у статуце Беларускай Акадэміі Навук.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР Н. Галадзед.

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканомсавету БССР

С. Кандыбовіч

13 мая 1931 г.
г. Менск.

## За цесную і органічную ўвязку краязнаўчай і антырэлігійнай працы.

**Усім рэспубліканскім, краёвым і абласным саветам СВБ, усім рэспубліканскім, краёвым і абласным бюро краязнаўства.**

Дарагія таварышы!

Дырэктыва XVI парт'зьезду аб неабходнасьці ў пэрыод разгорнутага социялістычнага наступленьня замацаваньня і далейшага разьвіцьця значных посьпехаў, дасягнутых у справе вызваленьня „працоўных мас ад рэакцыйнага ўплыву рэлігіі“, ставіць перад усёй савецкай грамадзкасьцю задачу разгортваньня і ўзмацненьня антырэлігійнай работы.

IV усерасійская краязнаўчая конфэрэнцыя і X пленум ЦБК высунулі гэту задачу перад краяведамі. „Праводзячы на практыцы марксыцкі мэтод, савецкае краязнаўства павінна надзвычайна рашуча змагацца з ідэалізмам ва ўсіх яго праявах і ў тым ліку з рэлігіяй. Гэта асабліва важна ва ўмовах клясавай барацьбы пры выкарэньваньні капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, пры зьдзяйсьненьні колектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас і ліквідацыі кулацтва, як клясы“.

Да гэтага часу гэта пастанова ня была яшчэ рэалізавана і паміж СВБ і краязнаўчымі організацыямі няма ўзаемнага супрацоўніцтва. Антырэлігійная работа не прасякнута элемэнтамі краязнаўства, а краязнаўчая работа не накіроўваецца плянава на барацьбу з рэлігіяй.

ЦС СВБ і ЦБК лічаць неабходным ў далейшым зьвязаць работу гэтых організацый і правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Як ў цэнтры, так і на мясцох правесьці ўзгадненьне плянаў работ, прадугледзеўшы ў іх узаемную дапамогу ў правядзеньні масавых кампаній па антырэлігійнай і краязнаўчай працы.

2) Лічачы, што пасьпяховае правядзеньне барацьбы з рэлігіяй у значнай меры залежыць ад уліку і вывучэньня мясцовых умоў і асаблівасьцяй, мясцовыя організацыі СВБ у сваёй рабоце павінны максымальна скарыстаць краязнаўчы матар'ял. А краязнаўчыя організацыі, ставячы перад сабой задачу актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, максымум увагі аддаюць пытаньню барацьбы з рэлігіяй, якая зьяўляецца адной з найвялікшых перашкод на шляху да соцыялізму.

3) Масавая работа СВБ і краязнаўчых організацый прасякаецца элемэнтамі краязнаўчай і антырэлігійнай работы; у гутарках, лекцыях і дакладах неабходна шырэй скарыстаць краязнаўчы матар'ял, зьвязаны з задачамі антырэлігійнай пропаганды.

4) У краязнаўчых музэях утвараюцца антырэлігійныя куткі, а ў антырэлігійных музэях куткі краязнаўства з матар'ялаў, сумежных з работай СВБ.

5) У краязнаўчых экскурсіях па музэях, у прыроду ўносяцца элемэнты антырэлігійнай пропаганды, у антырэлігійныя экскурсіі—краязнаўчыя моманты.

6) На ўсіх наладжаных антырэлігійных выстаўках даюцца краязнаўчыя матар'ялы; на выстаўках-жа па краязнаўству высьвятляюцца пытаньні гісторыі рэлігіі і яе эксплёатацыйнай сутнасьці і барацьбы з рэлігіяй.

7) У краязнаўчых організацыях неабходна організаваць ячэйкі СВБ і разгарнуць у іх гуртковую работу.

8) У програмы курсаў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы краяведаў уключаюцца пытаньні антырэлігійнай пропаганды; саветы СВБ павінны дапамагчы скласьці програмы, лектарскай сілай і г. д. У курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы ўключаюцца краязнаўчыя моманты.

9) Бібліотэкі краязнаўчых організацый папаўняюцца антырэлігійнай літаратурай.

10) У пэрыодычных выданьнях ЦС зьмяшчаюцца артыкулы па пытаньнях краязнаўства, у краяведных-жа выданьнях высьвятляюцца пытаньні антырэлігійнай работы.

11) СВБ і краязнаўчыя організацыі заключаюць дагаворы па соцспаборніцтву на лепшае разгортваньне масавай работы ў прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, МТС, на уцягненьне ў організацыі СВБ краяведаў ударнікаў і г. д.

Цэнтральны Савет Саюзу Ваяўнічых Бязбожнікаў СССР

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства

27 красавіка 1931 г.
г. Масква.

## Да ўсіх краязнаўчых організацый.

**Дарагія таварышы!**

Вывучэньне энэргетычных рэсурсаў у кожным раёне БССР зьяўляецца адной з актуальнейшых і неадкладных задач усіх краязнаўчых організацый. Вялізарныя запасы торфу ў нас павінны стаць асноўнай базай для разьвіцьця электрыфікацыі, для забясьпечаньня апалам прамысловасьці, культурна-бытавых установ і для прамысловай перапрацоўкі. ЦК КП(б)Б у сваёй спэцыяльнай пастанове аб рабоце тарфяной прамысловасьці вызначыў наступную конкрэтную задачу: забясьпечыць на працягу трох год такое разьвіцьцё здабычы торфу, якое забясьпечыла-б, як мінімум, перавод у гэты тэрмін усёй прамысловасьці, электраэнэргіі і асноўных культурна-бытавых установ прамысловых цэнтраў на тарфяны апал. Перад навукова-дасьледчымі ўстановамі, у тым ліку і перад краязнаўчымі організацыямі, ЦК партыі пастаўлена задача ўзмацніць разгортваньне навукова-дасьледчых работ, каб на працягу тых-жа трох год закончыць у асноўным вывучэньне ўсіх фондаў торфу ў БССР і іх структуры.

У выкананьне пастановы ЦК партыі Дзяржплян прыступіў ужо да вывучэньня тарфяных рэсурсаў БССР і складаньня генэральнага пляну разгортваньня тарфяной прамысловасьці. ЦК ЛКСМБ прымае самы актыўны ўдзел у вырашэньні тарфяной проблемы ў БССР. У канцы чэрвеня—пачатку ліпеня ў розныя раёны БССР будуць накіраваны спэцыяльныя комсамольскія краязнаўчыя экскурсіі пры ўдзеле спэцыялістаў для вывучэньня раёнаў залеганьня торфу. У далейшым будзе праводзіцца сталая і сыстэматычная работа па вывучэньні тарфяных рэсурсаў.

Перад усімі краязнаўчымі організацыямі ставіцца, як самая актуальная і неадкладная задача, прыступіць да вывучэньня рэсурсаў і структуры торфу ва ўсіх раёнах БССР. Нам трэба поўнасьцю і дасканала выявіць усе нашы тарфяныя багацьці, мобілізаваўшы для гэтай мэты ўсе мясцовыя сілы. У гэтай вялікай рабоце практычнага значэньня краязнаўчыя організацыі павінны выявіць сябе як актыўныя барацьбіты за пабудову соцыялізму ў нашай краіне. Разам з тым гэту работу трэба ўвязаць для популярызацыі задач савецкага краязнаўства і разгортваньня краязнаўчага руху.

Раённыя бюро краязнаўства разам з райпляном, комсамолам і інш. організацыямі па строга распрацаванаму пляну павінны выявіць:

а) месцы заляганьня торфу (дакладна); б) плошчу і глыбіню заляганьня; в) якасьць торфу, яго структуру; г) месцы торфараспрацовак, гадавую продукцыю, куды і для якой мэты дабываецца; д) пэрспэктывы распрацоўкі і выкарыстаньня торфу кожнага паасобнага пункту; е) увязка будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў і інш. з наяўнасьцю тарфяных запасаў. Працу трэба разгарнуць зараз-жа, шырока выкарыстоўваючы соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Па вышэйпрыведзенай схэме неабходна організаваць вывучэньне і ўсіх карысных выкапняў у раёне.. ЦБК ставіць задачай перад усімі раённымі краязнаўчымі організацыямі на працягу 1931-32 г. у асноўным закончыць вывучэньне ўсіх прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў у БССР (па вызначаных вышэй пунктах), прычым у гэтым годзе да 1/X заданьне павінна быць выканана ня менш як на 30%. Усе матар'ялы па вывучэньні торфу і ўсіх прыродных багацьцяў раёнаў трэба накіроўваць у ЦБК, а апрацаваныя матар'ялы і інформацыі аб каштоўных выкапнях у „Савецкую Краіну" для апублікаваньня.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. П. Садоўскі.
Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

## Да ўсіх краязнаўчых організацый.

Дарагія таварышы!

У сувязі з пасьпяховым разгортваньнем соцыялістычнага будаўніцтва вельмі шпаркімі тэмпамі разьвіваецца і новае будаўніцтва ў гарадох, саўгасах, колгасах (жылыя будынкі, скотныя двары і г. д.). Разьвіцьцё новага будаўніцтва вымагае вывучэньня для практычнага выкарыстаньня новых відаў будаўнічага матар'ялу. Такім новым відам будаўнічых матар'ялаў у БССР павінен зьявіцца *чарот*—трысьнік Phragmites communis)

*Чарот*—Phrag mites communis Trin—расьліна шэра альбо сіва-зялёная з доўгімі паўзучымі паросткамі. Сьцябло вельмі тоўстае, прамое, высокае; лісьце шырокае да 2,5 *см.* шырыні, жорсткае, паступова завостранае Мяцёлка ў час красаваньна раскідістая, краснаватага колеру.

Расьце ў вадзе на берагох рэк, прудоў, на балотах і наогул на вільготных мясцох. Часьцей за ўсё расьце зарасьнікамі.

Белкустпрамсаюз ужо ў гэтым годзе распачынае збор чаротавага матар'ялу для выпрацоўкі ў спэцыяльных майстэрнях чаротавых пліт для рознага тыпу будынкаў.

Усе краязнаўчыя організацыі павінны прыняць актыўны ўдзел у вывучэньні запасаў чароту (трысьніку) ў БССР па наступнай форме:

| Месцы (пункты) масавага росту чароту (берагу вазёр, балоты і г. д.) | Раён, сельсавет, колгас,; аддегласьць ад насел. пункту і чыг. станцый | Агульная плошча зарасьлі | Колькі можна сабраць сухога чароту (у тонах) | Як і дзеля чаго выкарыстоўваецца цяпер |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Сабраныя матар'ялы без затрымкі трэба накіроўваваць у ЦБК.

Нам. Старшыні ЦБК Ф. П. Садоўскі.
Навуковы сакратар В. Самцэвіч.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

## Зьмест

*Стар.*








Менск. Друкарня БАН. Заказ № 666. Галоўлітбел № 1389. Тыр. 1300 экз. 6 арк.

Цана 50 кап.






# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПРЫЁМ ПАДПІСКІ на 193

—НА—

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА
пры Беларускай Акадэміі Навук

# „САВЕЦКАЯ КРАІНА“

„Савецкая Краіна“—навукова-дасьледчы, навукова-папулярны марксыцка-ленінскі краязнаўчы часопіс—зьмяшчае артыкулы навукова-дасьледчага, навукова-папулярнага, палітычна-масавага, публіцыстычнага, апісальнага характару, а таксама краязнаўчыя нарысы, марксыцка-ленінскую крытыку, рэцэнзіі і бібліографію.

„Савецкая Краіна“—магутны барацьбіт за марксыцка-ленінскую ідэолёгію, за дыялектычны мэтод Маркса-Леніна ў краязнаўстве і навуцы, магутны барацьбіт за генэральную лінію комуністычнае партыі.

„Савецкая Краіна“—ваяўнічы змагар з варожымі марксызму-ленінізму плынямі ў краязнаўстве і навуцы, які ставіць задачу ваяўніча змагацца з контр-рэволюцыйным беларускім нацыянал-дэмократызмам за пролетарскую навуку і культуру, за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна“—ставіць задачай мобілізацыю шырокіх мас на дасканалае навуковае дасьледваньне вытворчых сіл БССР у інтарэсах социялістычнага будаўніцтва і на непасрэдны ўдзел у гэтым будаўніцтве

„Савецкая Краіна“—за савецкае краязнаўства.

„Савецкая Краіна“—за перабудову ўсёй краязнаўчай працы на новых вытворчых асновах. Кожны завод, кожная фабрыка, кожны саўгас, колгас,—даёш краязнаўчыя ячэйкі для вывучэньня вытворчых сіл у інтарэсах пасьпяховага социялістычнага будаўніцтва.

„Савецкая Краіна“—орыентуецца на масавага краязнаўцу. Партыйцы і комсамольцы, беспартыйныя рабочыя, колгасьнікі, батракі, бедната і лепшая частка сераднякоў, студэнцтва, вучнёўская моладзь, вясковая і гарадзкая інтэлігенцыя, адданая справе социялістычнага будаўніцтва, актыўна пішэце ў часопіс вашы краязнаўчыя допісы.

**Часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА“ выходзіць раз у месяц.**

**Кожны завод, кожная фабрыка, кожны колгас, саўгас, вёска, школа, тэхнікум, ВНУ, хата-чытальня, клюб, нардом, чырвоны куток, кожны фабком, заўком, мясцком, кожны профсаюз, кожны настаўнік, навуковы працаўнік, кожны рабочы, батрак, бядняк актывісты, кожны экономісты, культасьветны, коопэрацыйны працаўнік—усе падпішэцеся на 1931 год на часопіс „САВЕЦКАЯ КРАІНА“.**

| Умовы падпіскі: | | |
|---|---|---|
| | На год . . 4 р.—к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к. |
| | На 9 мес. . 3 р. 25 к. | На 1 месяц — 50 к. |
| | На паўгода 2 р. 25 к. | Падпіска з кожнага месяца |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 79, рог Ленінскай), у рэдакцыі часопісу „Савецкая Краіна“ (Менск, рог Ленінскай і Унівэрсытэцкай, 29/35, ЦБ Краязнаўства), ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых краязнаўчых організацыях і ва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**